5-6

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



МЕНСК
1931

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 5-6

МАЙ — ЧЭРВЕНЬ



МЕНСК — 1931



А. Салагуб

# Разгорнутая програма беларускага нацыянал-фашызму

Пасьля разгрому Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, Таварыства Беларускай Школы і іншых рэволюцыйнх організацый Заходняй Беларусі, фашысцкі ўрад Польшчы пераканаўся, што рэволюцыйная, вызваленчая і клясавая барацьба ў Заходняй Беларусі пад Польшчай не затухае, а наадварот, разгараецца і прымае больш шырокі размах, бо апрача легальнай Грамады і НПХ, якія ўрад разагнаў і пасадзіў на лаву падсудных, у Польшчы існуе моцная комуністычная партыя Польшчы, КПЗБ і КПЗУ, якія не на жыцьцё, а на сьмерць вядуць барацьбу з польскім фашызмам, з сыстэмай эксплёатацыі.

Б. С-Р. Грамада, як левая рэволюцыйная організацыя Заходняй Беларусі, карысталася вялікім посьпехам сярод працоўных Заходняй Беларусі, аб чым красамоўна сьведчыць яе колькасны рост (за некалькі месяцаў існаваньня больш 100 тыс. членаў).

Тое нездавальненьне працоўных мас Польшчы і Заходняй Беларусі фашысцкім рэжымам, той крык протэсту шукаў адпаведных форм свайго выяўленьня пасьля майскага перавароту Пілсудзкага ў 1926 г., шукаў пэўнай аддушыны.

А разьвязаць усе супярэчнасьці капіталістычнай сыстэмы ў цэлым і ў прыватнасьці ва ўмовах Польшчы можа толькі соцыяльная пролетарская рэволюцыя.

Грамада — гэта не комуністычная партыя, *гэта масавая організацыя рабочых і сялян Заходняй Беларусі, якія ўбачылі, што ніякіх ілюзій, ніякіх надзей на палёгку ў Польшчы ад фашыстоўскай клікі працоўным масам няма чаго чакаць і што толькі ў барацьбе здабудзеш свае правы.*

Протэст мільёнаў прыгнечанага сялянства і рабочай клясы Заходняй Беларусі, які шукаў выхаду з існуючага стану рэчаў, быў непрадбачаным і нечаканым для дзяржыморд сучаснай Польшчы.

Грамада паставіла сваім лёзунгам патрабаваньне рабоча-сялянскага ўраду, зямлі бяз выкупу, самавызначэньня нацый аж да адлучэньня. Нацыянальна-вызваленчы рух, на чале якога стала Грамада— рух з нізоў, з мядзьведжых куткоў падняволенай краіны, якая захацела жыць так, як жывуць браты ў Савецкай Беларусі, будаваць тыя гмахі культуры, якія збудаваны ў БССР, дзе сапраўды вырашана нацыянальнае пытаньне, дае ўсе нацыі карыстаюцца аднолькавымі правамі і маюць магчымасьць будаваць сваю нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце культуру — вось што не на жарт напалохала польскіх абшарнікаў і буржуазію.

Расправа была жорсткая, але ізноў-жа нявыгодна і для сябе і для сваіх „лібэральных“ мэцэнатаў. Нельга было замазаць таго існуючага стану рэчаў, пры якім працоўныя масы Заходняй Беларусі, пачынаючы з 1920—22 гг., страцілі ўсе раней адчыненыя пры савецкай уладзе беларускія школы, здабытыя палітычныя і соцыяльна-грамадзкія правы, правы гутарыць і думаць па-беларуску, права на існаваньне, на будаваньне сваёй культуры і дабрабыту.

Разбураная імпэрыялістычнай вайной Заходняя Беларусь не атрымала ніякай дапамогі ад ураду Пілсудзкага. *І да сёньня сяляне прыфронтавой паласы жывуць у сырых, зацьвіўшых бліндажох-зямлянках.*

Фашысцкая сыстэма земляўпарадкаваньня, так званая парцэляцыя і комосацыя была зроблена ва ўгоду абшарніцтву і кулацтву. Тысячы асаднікаў, прысланыя на землі Заходняй Беларусі з мэтай полёнізацыі і фашызацыі Заходняй Беларусі і на выпадак вайны з СССР — мець сталых і верных абаронцаў польскай дзяржаўнасьці, усе тыя непамерныя падаткі на зьбяднелае сялянства — факты, якіх нельга замазаць ні пры дапамозе брахуноў, палітычных спэкулянтаў нацыянал-фашыстаў Антона Луцкевіча, Астроўскага, Акінчыца, а раней праз розных Аляксюкоў, Валэйшаў, Паўлюкевічаў і іншых авантурнікаў з контр-рэволюцыйнага лягеру.

Для таго, каб на землях Заходняй Беларусі панаваў мір і спакой, фашысцкі ўрад Польшчы пайшоў на тонкую і вырафінаваную провокацыю ў адносінах да былых правадыроў Грамады — *Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы.* Фашызм пайшоў на хітрыкі, яму патрэбна было паслабіць рэволюцыйнае напружаньне ў Заходняй Беларусі і забіць ідэёва Грамаду.

У клясавай барацьбе ўсе сродкі апраўдваюць мэты.

Паслы Грамады сілай датэрмінова выпушчаюцца на так званую „волю“ з мэтай перацягнуць іх у свой фашысцкі лягер. Манэўр не ўдаецца. Поўны правал церпіць у першую чаргу польскі фашызм і з ім яго малады прысьпешнік — беларускі нацыянал-фашызм.

*Прыезд былых паслоў Грамады ў БССР — гэта моцны ўдар па інтэрвэнцыянісцкай палітыцы польскага фашызму, удар па лягары беларускіх нацдэмаў у БССР і нацфашыстаў у Польшчы.*

Востры экономічны крызіс у Польшчы, які па сваіх памерах і глыбіні перасягнуў усе іншыя капіталістычныя краіны, які ахапіў усе галіны народнай гаспадаркі, які выклікаў нябывалы рост беспрацоўя, а там „голад пачынае стукаць да мас“ („Дзеньнік Віленскі“ № 4, 6/І-31 г.).

Зямельны голад, зьбядненьне сялянскіх гаспадарак з прычыны вялікіх падаткаў, запазычанасьць польскай дзяржавы, разбухшы вайсковы бюджэт за кошт недаяданьня польскага работніка, служачага і селяніна, вялікі і грамодзкі бюрократычны апарат фашысцкай дыктатуры — усё гэта выклікае абвастрэньне клясавай барацьбы ў Польшчы, Заходнай Украіне, Заходняй Беларусі і ўзьнімае з нізін вёсак, мястэчак, гарадоў Польшчы настрой протэсту, бунт супроць фашызму, супроць капіталістычнай сыстэмы гаспадараньня, а там — выразныя пэрспэктывы пролетарскай рэволюцыі ў Польшчы.

Нарастаньне рэволюцыйнай хвалі ў Польшы непакоіць польскую, беларускую, украінскую буржуазію і кулацтва, якія *у асобе БССР бачаць свайго непрымірымага клясавага ворага.*

Польскі фашызм адзіны выхад з свайго экономічнага крызісу, з таго тупіку, у які ён трапіў, бачыць *у авантурыстычнай вайне з СССР.*

Захопніцкі, мілітарысцкі лёзунг „ад мора да мора“ шукае свайго ажыцьцяўленьня. Адбываецца перагрупоўка, перастаноўка сіл фашызму, ідзе шалёная падрыхтоўка тылу на выпадак вайны. Польскі фашызм знаходзіць агульную мову з яўрэйскай, беларускай і украінскай буржуазіяй і кулацтвам. Адбываецца консолідацыя фашысцкіх і паўфашысцкіх сіл на барацьбу з унутранай рэволюцыяй і Савецкім Саюзам, узмацняецца белы тэрор — адказ на бурную рэволюцыйную хвалю польскага пролетарыяту.

У гэтай падрыхтоўцы вайны супроць СССР і БССР не апошнюю ролю адыгрываюць беларускія нацыянал-фашысты і іх агенты нацдэмы ў БССР.

Беларускія нацыянал-фашысты сарвалі канчаткова маскі, выразна сталі ў рады контр-рэволюцыі і сталі гаварыць на сваёй, уласьцівай фашызму мове. Гэта вельмі добра, бо масы будуць ведаць, з якім ворагам маюць дачыненьне.

Яскравым доказам гэтага самараскрыцьця і выяўленьня сваёй кулацка-фашысцкай сутнасьці зьяўляецца брошура *Ф. Акінчыца* „Чаму гэта так сталася“ (Да справы выезду заграніцу былых правадыроў Грамады) — *выданая за грошы дэфэнзывы пад непасрэдным кіраўніцтвам обэр-дэфэнзыўшчыка пана Кіртыкліса, Луцкевіча-Астроўскага.*

Калі ў сваіх ранейшых артыкулах экономічнага зьместу, у артыкулах, дзе праводзілася выразная кулацкая думка адносна вырашэньня зямельнага пытаньня Акінчыц блудзіў на „левых“ „разлогах“, дык цяпер былы юрысконсульт Грамады, ставіць усе кропкі над „і“.

Брашура нацыянал-прахвоста Акінчыца мае для нас значэньне ў тым сэнсе, што дапамагае нам зразумець клясавую прыроду нашых ворагаў і выявіць да чаго яны імкнуцца.

Гэтая брошура паказвае нам *на тую цесную сувязь паміж беларускімі нацдэмамі ў БССР з нацфашыстамі Луцкевічам-Астроўскім у Польшчы,* іх імкненьні, пляны. Праз усю брошуру чырвонай ніткай праходзіць *зьвярыная нянавісьць да соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР і СССР, да пяцігодкі і політыкі нашай партыі, якая ўзяла курс на канчатковае зьнішчэньне капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне, зьнішчэньне кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.*

Брахнёй і паклёпамі на нашае будаўніцтва, разгромам беларускіх гімназій, ТБШ, Банку і інш. культасьветных організацый беларускія нацфашысты стараюцца вымаліць сабе ў польскага фашызму больш правоў на эксплёатацыю беларускім кулацтвам і буржуазіяй беларускіх працоўных мас.

Каб ня быць галаслоўным падамо некалькі вытрымак з гэтага фашысцкага докумэнту.

„Трэба раз назаўсёды адкінуць нам розныя „орыентацыі“, якія прынесьлі нам столькі ліхога і пагадзіцца з тым, што самым рацыянальным і карысным для нас зьяўляецца орыентацыя на нашы ўласныя сілы *і супрацоўніцтва з тым польскім грамадзянствам* (чытай з польскім фашызмам—*А. С.), якое дапаможа нам зьдзейсьніць нашы нацыянальныя і політычныя заданьні*“.

Што-ж гэта за „нацыянальныя і політычныя заданьні“, якія зможа ажыцьцявіць беларускі нацыянал-фашызм ва ўмовах фашысцкага рэжыму?

Барбарская колёніяльная эксплёатацыя Зах. Беларусі, бязупынныя масавыя вобыскі, арышты, катаваньні па засьценках дэфэнзывы, крывавыя карныя экспэдыцыі, выкалачваньне апошніх грашэй на падрых-

тоўку ўзброенага паходу супроць СССР — вось „палітычныя заданьні“ беларускіх нацыянал-фашыстаў.

Пра гэта ведае і белагвардзеец Астроўскі і былы эсэр Акінчыц: „Да гэтага часу зробена ў ёй (г. зн. Польшчай у беларускай справе — *А. С.)* вельмі мала і перад намі стаіць вялікая задача—дабіцца нарэшце рэалізацыі нашых слушных дамаганьняў“.

Дамаганьні гэтыя вельмі выразныя. У зямельным пытаньні—стаўка на кулака, на кулацкую сыстэму земляўпарадкаваньня, хутарызацыя, атрубы, асадніцтва, адным словам вызваленьне беларускіх працоўных мас ад зямлі.

Як-жа выглядае па Акінчыцу-Луцкевічу-Астроўскаму, а фактычна паводле польскае дэфэнзывы, так званая славутая „Незалежная Беларусь“? Гэта ні больш ні менш як культурна-нацыянальная аўтономія пад протэктарам фашысцкай Польшчы.

„Дзеля ўсяго гэтага, імкнучыся да сваёй аканчальнай мэты—нацыянальнага і культурнага адраджэньня аб'яднанай нашай бацькаўшчыны, — *у сваім палітычным паступаньні мы павінны адкінуць усякія надзеі на комуністычны ўсход“* (курсіў наш — *А. С.).*

Сказана ясьней яснага. „Памры Дзяніс — лепш ня выдумаеш“.

Далей ідуць злосныя, з пенай на вуснах, выказваньні адносна тых перашкод, якія стаяць на шляху ажыцьцяўленьня ідэалаў беларускага нацыянал-фашызму да пабудовы сваёй „Незалежнай Беларусі“.

„Я пераканаўся — піша Акінчыц — што беларускае пытаньне можа быць вырашана толькі тады, *калі прападзе* тая галоўная перашкода, якая стаіць на дарозе да яго вырашэньня — *гэта факт існаваньня комуністычнай дыктатуры ў Савецкай Беларусі. Калі гэтая дыктатура будзе павалена,* — толькі тады адчыняцца магчымасьці для зьдзяйсьненьня нашых палітычных і нацыянальных ідэалаў, толькі тады Беларускій Народ зможа ўзяцца за адбудаваньне сваёй Бацькаўшчыны. *Да гэтага паваротнага ў гісторыі моманту трэба шукавацца шляхам пабудаваньня і ўзмацненьня слабенькай пакуль што беларускай грамадзкасьці“* (курсіў наш — *А. С.).*

Тое, што падрыхтоўваецца вайсковым міністэрствам і генэральным штабам польскага фашызму выбалтваецца беларускім нацыянал-фашыстам Ф. Акінчыцам выразна, поўна без усялякіх крыўляньняў і маскаваньняў.

Беларускі нацыянал-фашызм сумесна з польскім фашызмам рыхтуюць крывавую інтэрвэнцыю супроць Савецкага Саюзу, адкрыта аб гэтым заяўляюць у друку.

У сваіх антысавецкіх завываньнях беларускія нацыянал-фашысты „перашчагалялі“ нават сваіх хлебадаўцаў Кіртыклісаў і афіцыёзныя органы фашыстаў.

Выкрыцьцё ДПУ беларускай конт-рэволюцыйнай нацыянал-дэмократычнай банды, былых белагвардзейскіх міністраў БНР, ворагаў савецкай улады і дыктатуры пролетарыяту, якія актыўна і ціхай сапай змагаліся з савецкай уладай і з усімі мерапрыемствамі нашай партыі як у галіне культурнага і гаспадарчага будаўніцтва, — была спаткана ў Заходняй Беларусі беларускімі нацыянал-фашыстымі дзікімі эксцэсамі, выбрыкамі, выпадамі, „протэстамі“ супроць СССР і БССР.

Арышт белагвардзейцаў Лёсіка, Некрашэвіча, Ластоўскага, Смоліча і інш. актыўных шкоднікаў нашага социялістычнага будаўніцтва, беларускія нацыянал-фашысты спаткалі як удар па беларускаму нацыянал-фашызму і па фашызму Польшчы.

Зусім зразумела. Беларускія нацдэмы ў БССР і беларускія нацыянал-фашысты ў Польшчы — адна сям'я. Ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту нацдэмы павінны былі ўмела маскавацца і акапвацца па ўсіх лініях клясавай барацьбы ў нашай краіне, ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва для правядзеньня сваёй шкодніцкай работы.

Пачынаючы ад Акадэміі Навук, беларускія контр-рэволюцыянэры нацыянал-дэмократы з відам „вучоных кратоў" займаліся „акадэмічнай", „навуковай" працай, якая носіць выразны шкодніцкі характар. Аб гэтым гаворыць уся іх „самабытная" продукцыя. Інакш і быць не магло. Мэта іх была адна: *як мага шкодзіць у социялістычным будаўніцтве, ствараць нездаваленьне савецкай уладай у масах і гэтым самым падрыхтоўваць глебу для інтэрвэнцыі.*

Страціўшы ўсе надзеі на перараджэньне комуністычнай партыі як нацдэмы, так і нацыянал-фашысты выразна сталі на другім баку барыкад.

„Я ня веру ў нейкае перараджэньне комуністычнай партыі ў бок „дэмократызму". Яна, па майму пераканаяньню, мусіць згінуць цалкам, ачысьціўшы дарогу для ўтварэньня новых, здаровых, соцыяльна-політычных форм у колішняй Расіі" (піша далей нацфашыст Акінчыц).

Комэнтары лішнія. Мы ведаем, што разумеюць нацыянал-фашысты Луцкевіч-Астроўскі-Акінчыц і ўся іншая хэўра пад „новымі", „здаровымі" соцыяльна-політычнымі формамі панаваньня.

*Гэта—рэстаўрацыя капіталістычных адносін, гэта—зварот на Беларусь і на ўвесь СССР абшарнікаў і капіталістаў, гэта — мора крыві і сьлёз рабочых і сялян, гэта — разгул разьюшаных зьвяроў, якія памстуюць за разбураны іх дабрабыт, гэта — суцэльны пагром над ўдарнай брыгадай сусьветнага пролетарыяту, гэта — пагром над усімі здабыткамі героічнай барацьбы Кастрычнікаўскіх дзён, героічных і самаахвярных дзён вялікай пяцігодкі.*

Выезд б. правадыроў грамады Б. Тарашчевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы і Бурсэвіча нацфашыстыя сустрэлі плюгавымі паклёпамі, цэбрамі бруду. І гэта нездарма. Нездарма забегалі як ашпараныя нацфашысцкія гадзіны. Яны вельмі добра ведаюць, што выезд у БССР былых паслоў Грамады, гэта руйнуючы ўдар па фашысцкай політыцы польскага ўраду, бо таварышы з Заходняй Беларусі — Рак-Міхайлоўскі, Мятла і інш. прыпаднялі заслону над бандай злачынцаў на гарачым учынку, за падрыхтоўкай антысавецкага паходу, за падрыхтоўкай крывавыя лазьні працоўным Савецката Саюзу.

*Правадыры Грамады — Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Бурсэвіч, выбраныя на X-м Усебеларускім зьезьдзе саветаў членамі ЦВК БССР, будуць разам з намі будаваць соцыялізм, будуць працягваць тую справу, за якую змагаліся і цярпелі за кратамі „Вронек" і „Лукішак".*

Беларускія фашысты, прыкідваючыся чульлівымі самаранінамі, „болеющими и радеющими" над „беларускім народам", над „беларускай справай", над „беларускім адраджэньнем,", над тав. Валошыным, які надалей сядзіць у польскім вастрозе. Беларускія нацыянал-фашысты хацелі гэтымі мэтодамі забіць двух зайцаў: набыць у працоўных масах такі-сякі політычны капітальчык, вярнуць аўторытэт і заслужыць права разам з польскімі фашыстымі-душыцелямі прыгнечваць працоўныя масы Заходняй Беларусі.

Сарвалося!

Манэўр ня ўдаўся. Манэўр з трэскам праваліўся. Працоўныя масы Заходняй Беларусі ўбачылі агіднага, плюгавага ворага, якога трэба з усёй жорсткасьцю нэўтралізаваць, разброіць, раздушыць.

*Інтэрвэнты выкрыты.*

*Працоўныя масы Заходняй Беларусі, пад кіраўніцтвам КПП і КПЗБ, разьвеюць туман ілжы, паклёпаў на нашае геroічнае будаўніцтва соцыялізму, на нашу пяцігодку, якая высіцца непарушнай пірамідай, сьветазарным маяком на рудяжы двух непрымірымых сьветаў і служыць для пролетарыяту прыгнечаных краін сымболем непарушнасьці заваёў вялікага Кастрычніка, паказвае шлях да сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.*

*Ніякім прыхвасьням фашызму ня стрымаць яе трыумфальнага ходу. Набліжаецца апошні рашучы бой, які будзе магілай для капіталістычнай сыстэмы і яе прыхвасьняў.*

Ю. Браткоўскі

# „Незалежная“ Украіна на штыхох польскага фашызму

Імпэрыялістычныя драпежнікі ўсіх капіталістычных краін добра асьвядомліваюць, што для таго, каб весьці вайну за новыя здабыткі, недастаткова закаваць масы ў ланцугі мілітарызму і тэрору, што неабходна пускаць пыл у вочы рабочым, сялянам і шырокім масам дробнай буржуазіі, падманьваць іх высокапарнымі фразамі, складаць хлусьлівую „ідыолёгію“ вайны.

Імпэрыялістычная вайна 1914—19 гг., якая мела на мэце новы перадзел сьвету, вялася Антантай пад лёзунгам волі малых нацыянальнасьцяй цэнтральнымі дзяржавамі, яна вялася быццам-бы супроць дэспотызму рускага самаўладзтва, за вызваленьне Польшчы.

У сучасны момант імпэрыялістычныя дзяржавы, вядучы ліхаманкавую падрыхтоўку супроць Савецкага Саюзу, прыбягаюць да падобных мэтодаў ідэолёгічнай падрыхтоўкі вайны.

Польскі фашызм, які, зьняволіўшы значную частку украінскага і беларускага народу, „вырашаючы“ нацыянальнае пытаньне з дапамогай крывавых карацельных экспэдыцый, прыкрывае сваю рабочую палітыку ў адносінах да зьняволеных нацый і падрыхтоўку да нападу на Савецкі Саюз хлусьлівай вызваленчаскай фразэолёгіяй, падрыхтоўвае ідэолёгічную глебу для вайны пры дапамозе фэдэралістычнай фразы. Украінская і беларуская буржуазія, якая заключыла саюз з польскім фашызмам пад яго камандай, прыбягае да фразы аб незалежнасьці і аб'яднаньні Украіны і Беларусі, імкнучыся, такім чынам, схаваць перад масамі сваю ганебную згоду з польскім фашызмам, якая зроблена з мэтай узмацненьня барацьбы супроць рэволюцыйнага руху ў Польшчы і падрыхтоўцы да нападу на Савецкі Саюз. На гэтай глебе працягваюць адзін да другога рукі украінскі і беларускі нацыянал-фашызм і нацыянал-дэмократызм па абодвыя бакі рыскай мяжы.

Па гэтаму ленінская ацэнка хлусьлівай фразы аб „незалежнасьці“ буржуазнай Украіны і Беларусі, да якой прыбягае польскі фашызм, украінская і беларуская буржуазія ў мэтах ідэолёгічнай падрыхтоўкі глебы для контр-рэволюцыйнага антысавецкага паходу, яе выяўленьне перад шырокімі працоўнымі масамі, выяўленьне сапраўднага клясавага зьместу, яе фраз аб „фэдэрацыі“ і „незалежнасьці“, зьяўляецца аднэй з асноўных умоў пасьпяховай барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону Савецкага Саюзу.

Проблема незалежнасьці Беларусі і Украіны гэта адна з проблем, якая складае ў апошні час прадмет дыскусіі ў Комуністычнай

партыі Польшчы, а таксама ў яе аўтономных організацыях—Компартыі Заходняй Украіны і Компартыі Заходняй Беларусі. Чацьверты пленум ЦК КПЗУ, які адбыўся летам у 1930 г., заняў па гэтаму пытаньню зусім правідловую позыцыю. У рэзолюцыях гэтага пленуму чытаем.

„Відавочным і наглядным становіцца зараз факт саюзу украінскай буржуазіі з польскім фашызмам пад яго гегемоніяй і кіраўніцтвам у барацьбе супроць СССР, за пашырэньне тэрыторыі польскай окупацыі, за „вызваленьне“ Украіны і складаньне незалежнай ад Польшчы буржуазнай Украіны на украінскіх тэрыторыях, якія ёй укажа штых інтэрвэнцыі“.

На гэтым пленуме меў, аднак, месца шэраг правых выступленьняў супроць позыцыі партыі, згодна якой польская буржуазія адыгрывае зараз у адносінах да ўкраінскай буржуазіі ролю гегемону і кіраўніка ў барацьбе супроць рэволюцыйнага руху ў Польшчы і супроць СССР. Таварышы Вінярскі і Кавальскі, погляды якіх былі асуджаны пленумам, высоўвалі на першы плян імкненьне украінскай буржуазіі да незалежнасьці, лічачы гэта асноўным фактам, які вызначае яе політычную лінію.

Так, напр., тав. Вінярскі імкнуўся абаснаваць магчымасьць утварэньня незалежнай Украіны, спасылаўся на ўтварэньне шэрагу новых дзяржаў у выніку імпэрыялістычнай вайны 1914—18 гг., прычым сьцьвярджаў, што буржуазная Польшча зацікаўлена ва ўтварэньні незалежнай Украіны. Па словах тав. Вінярскага „ніхто не паверыць, што ўкраінская буржуазія адмовілася ад думкі аб незалежнасьці Украіны“, у доказ чаго ён спасылаўся на украінскі буржуазны друк, у тым ліку на артыкул фашысцкага „Украінскага Голасу“, згодна якому на Украіне „ёсьць усе даныя, каб стаць галоўным суб'ектам гістарычных здарэньняў на Ўсходзе.“

Падобным чынам да пытаньня аб незалежнасьці Украіны падыходзіць аўтар артыкулу „Па пытаньню аб нацыянал-опортуністычных концэпцыях у рэволюцыйным руху Заходняй Украіны“, які зьмешчаны ў тэорэтычным органе КПЗУ „Наша праўда“ за студзень—сакавік 1930 г.

„Дастаткова праглядзець друк украінскай контр-рэволюцыі, каб пераканацца, што украінская буржуазія не адмовілася ад думкі аб уласнай буржуазнай дзяржаве... Што-б гэта была за буржуазія, калі-б яна ў даны момант інтэрвэнцыянісцкіх плянаў не жадала ўстанаўленьня сваёй буржуазнай дзейнасьці“ (стар. 42 і 43).

У той час, як тав. Вінярскі да проблемы незалежнасьці Украіны падыходзіць з боку суб'ектыўных пажаданьняў украінскай буржуазіі, тав. Кавальскі імкнецца апраўдаць гэты-ж тэзіс спасылкай на супярэчнасьці паміж асобнымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі. Тав. Кавальскі проста заявіў, што ён ня згодзен з поглядам, што буржуазная Украіна, якая-б склалася на выпадак перамогі інтэрвэнтаў, была-б паўколёніяй Польшчы, у доказ чаго ён спасылаўся на такія факты, як утварэньне Лігі брытанскіх украінцаў у Канадзе, прыезд на Заходнюю Украіну дэпутата ангельскай лейборысцкай партыі палкоўніка Мэлёна, існаваньне асобнай украінскай групы у таварыстве Прыхільнікаў Лігі Нацый, што разам узятае павінна было даказаць, што другая імпэрыялістычная дзяржава не дапусьціць, каб буржуазная Украіна зрабілася паўколёніяй Польшчы. Для позыцыі т. т. Вінярскага і Каваль-

скага характэрна, што яны асабліва падкрэсьлівалі „імкненьне“ украінскай буржуазіі да незазежнасьці Украіны і замазвалі, неадначасна-ж проста замаўчвалі самае галоўнае, што перш за ўсё вызначае політыку украінскай буржуазіі: агульны фронт з польскім фашызмам і пад яго кіраўніцтвам у барацьбе супроць Савецкага Саюзу і рэволюцыйнага руху ў Польшчы. Гэтыя ідэалістычныя і нацыянал-опортуністычныя ныя погляды Кавальскага і Вінярскага ярка супярэчаць сапраўднасьці. Дастаткова напомніць хаця-б контр-рэволюцыйны процэс Саюзу Вызваленьня Украіны, у час якога ва ўвесь рост выявіўся сапраўдны твар украінскай буржуазіі.

> „Украінская контр-рэволюцыя—гаварыў у сваім заключным слове Грамадзкі абвінавальнік тав. Любчэнка—не пераацэньвала сваіх унутраных сіл. Кулацкае паўстаньне яна разглядала, як дадатковую сілу. Украінскі нацыяналізм ставіў сабе ролю разьведчыка, кіраўніка банд, ролю шпіёна, дадатковую ролю. Галоўныя-ж сілы павінны былі складаць окупацыйныя сілы суседняй польскай дзяржавы. Будучую Украіну яны ўяўлялі сабе, як колёнію польскай дзяржавы“.

Процэс Саюзу Вызваленьня Украіны праліў яркі сьвет ня толькі на сучасную позыцыю ўкраінскай буржуазіі, якая ў барацьбе з соцыялістычным будаўніцтвам у СССР хаваецца пад крыльлі Пілсудзкага, але і на позыцыі украінскай буржуазіі за перыод звыш 10 год, пачынаючы з лютаўскай рэволюцыі 1917 году.

Процэс Саюзу Вызваленьня Украіны паказаў, што украінская буржуазія заключыла саюз з усімі сіламі контр-рэволюцыі *супроць* незалежнасьці Украіны, якая ў сучасных умовах магчыма толькі пад уладай пролетарыяту ў саюзе з працоўнымі сялянамі.

Пасьля зрынуцьця самаўладдзтва ўся ўкраінская буржуазія перш за ўсё украінскія псэўда-соцыялістычныя партыі с-ф., с-д. і с-р. абедзьвюма нагамі стаялі на глебе адзінства рускай дзяржавы, абмяжоўваючыся толькі патрабаваньнем аўтономіі.

Калі пераможны пролетарыят Расіі агаласіў у дэклярацыі праў народаў Расіі „права народаў Расіі на самавызначэньне аж да аддзяленьня і ўтварэньня незалежнай дзяржавы“, упамянутыя украінскія партыі выступалі супроць незалежнасьці украінскай дзяржавы. Больш таго гэтыя партыі выступілі ў якасьці „сабіраццеляў“ адзінай Расіі, у ролі ініцыятараў ўстанаўленьня панаваньня капіталістаў на тэрыторыі *ўсяе* рускай дзяржавы. Першым актам, напраўленым супроць дэклярацыі праў народаў, былі перагаворы буржуазных украінскіх „самостийнников“ з Кубаньню і Донам, якія знаходзіліся ва ўладзе конт-рэволюцыі, а мэтай гэтых перагавораў было ўтварэньне буржуазнага ўраду для ўсёй Расіі.

Надзвычайна цікавыя докумэнты, якія ілюструюць сапраўдную позыцыю украінскай буржуазіі пасьля зрынуцьця самаўладдзтва, сабраны ў III томе кнігі „Рэволюцыя і нацыянальнае пытаньне“.

Абмяжуюся прывядзеньнем некалькіх докумэнтаў. У запісцы дэлегацыі Украінскай Рады Часоваму Ураду ад канца мая 1917 г., падпісанай Вінічэнкай, Ефремавым і іншымі буржуазнымі соцыялзгодніцкімі украінскімі дзеячамі, яны зварачаюцца да Часовага Ураду і „ўсёй рускай дэмократыі“ з просьбай падтрымаць іх імкненьні да „па накіроўваньню ўкраінскай стыхіі па такім шляху, які ня толькі не

садзейнічаў-бы ўсё ўзрастаючай распры, я наадварот, *садзейнічаў*-бы арганізацыі сіл усёй Расіі[1]).

На другім усеукраінскім вайсковым зьездзе ў пачатку 1917 г. з праграмнай прамовай выступіў тагочасны правадыр „украінскай дэмократыі“ Вінічэнка, які проста заявіў:

„Мы прызнаем аўтономію з правам законадаўчай дэмократыі і выданьня законаў і з правам самастойнай іх касацыі. Другія патрабаваньні ў даны час мы не павінны ставіць. Можа быць, калі-небудзь умовы зьменяцца, калі мы ўбачым, што з Расіяй ня можа быць братэрскага сужыцьця“ [2]).

Згодна гэтага ўсе докумэнты Цэнтральнай Рады ў 1917 годзе высоўваюць лёзунг *аўтономіі ў межах Расіі.* Першы ўнівэрсал Цэнтральнай рады ад 10 чэрвеня 1917 г., абраны ўжо пасьля адхіленьня Часовым Урадам патрабаваньня аўтономіі для Украіны, гаворыць:

„Няхай будзе Украіна вольнай. Не адлучаючыся ад усёй Расіі, не парываючы з Расійскай дзяржавай, няхай народ украінскі на сваёй зямлі мае права распарадкавацца сваім жыцьцём“ [3]).

„Мы, Цэнтральная рада, лічым у другім унівэрсале ад 5 чэрвеня, каб не адлучыць Украіну ад Расіі, каб разам з усімі народамі яе імкнуцца да дабрабыту і разьвіцьця ўсёй Расіі і адзінасьці яе дэмократычных сіл [4]).

Роўным чынам трэці унівэрсал Цэнтральнай рады ад 25-га верасьня 1917 г. абмяжоўваецца лёзунгамі аўтономіі.

Да бальшавіцкага перавароту украінская буржуазія ня толькі ня выходзіла за межы патрабаваньня аўтономіі, але стаяла на глебе легалізму ў адносінах да расійскай дзяржаўнасьці. Другі унівэрсал Цэнтральнай рады проста выступае супроць дзейнічаньня адчыненым парадкам.

„Рашуча адкідаем спробы самачыннага ажыцьцяўленьня аўтономіі Украіны да Ўсерасійскага Устаноўчага сходу“ [5]).

Такая была позыцыя украінскай буржуазіі, покуль улада ў Расіі знаходзілася ў руках буржуазіі. Аднак, скора наступіла тое, што прадбачыў Вінічэнка на другім украінскім вайсковым зьезьдзе. „Перамяніліся ўмовы“. Наступіў бальшавіцкі пераварот у Расіі. Перад украінскай буржуазіяй зачыніўся шлях „братэрскага сужыцельства з Расіяй“. Усьлед за пролетарамі Петраграду і Масквы выступілі супроць буржуазіі і яе агентаў працоўныя масы прыгнечаных рускім імпэрыялізмам народаў.

Калі пролетарская рэволюцыя дасягнула да Прыдняпроўскай Украіны, калі паўсталі рабочыя кіеўскага арсэналу і Донбасу, калі захісталася глеба пад нагамі украінскай буржуазіі, яна выступіла пад сьцягамі незалежнасьці. У студзені 1918 году зьявіўся так званы чаць-

---

[1]) Гл. „Рэволюцыя і нац. пытаньне“. Докумэнты і матэрыялы па гісторыі нацпытаньня ў Расіі і СССР у XX ст. Пад Рэд. С. М. Дзіманштэйна, 1930 г. Выд. Комакадэміі, стар. 148.

[2]) Там-жа, стар. 158.

[3]) Там-жа, стар. 162.

[4]) Там-жа, стар. 166.

[5]) Там-жа, стар. 167.

верты ўнівэрсал Цэнтральнай рады, які ўпяршыню выкінуў лёзунг незалежнасьці Украіны.

На гэтых гістарычных прыкладах мы бачым, што да проблемы незалежнасьці украінская буржуазія падыходзіла пад кутом пагляду сваіх клясавых інтарэсаў. Пакуль у Расіі ўлада знаходзілася ў руках буржуазіі, украінская буржуазія стаяла на глебе адзінства рускай дзяржавы, добраахвотна падпарадкавалася кіраўніцтву рускай буржуазіі, як больш моцнай, якая давала больш гарантый пасьпешнай барацьбы з рэволюцыйным рухам. Калі ў Расіі перамагла пролетарская рэволюцыя, украінская буржуазія хацела адарвацца ад чырвонага Петраграду, адгарадзіць сябе ад бальшавіцкай рэволюцыі сьцяной штыхоў і пад хлусьлівымі лёзунгамі „незалежнасьці“ раскалоць агульны фронт рабочых і сялян Украіны з пролетарыятам усёй б. Расіі.

Характэрным комэнтарам агалошанага чацьвертым унівэрсалам лёзунгу незалежнасьці Украіны служыць рэзолюцыя зьезду партыі Украінскіх соцыял-фэдэралістаў, які 10 мая 1918 году пастанавіў наступнае:

„Бальшавацкая авантура высунула ідэю самастойнасьці Украінскай Дзяржавы. Лічачыся з новымі рэальнымі ўмовамі жыцьця, партыя соцыял-фэдэралістаў прызнала украінскую дзяржаўнасьць. Для сучаснага моманту партыя павінна выключаць усякую магчымасьць фэдэрацыйнай сувязі з Вялікаросіяй. Але адначасна з гэтым партыя павінна прызнаць магчымым і пажаданым для інтарэсаў Украіны яднаньне з другімі суседзямі, якія ў сучасны момант складаюць сваю дзяржаву“.

Выключаецца, значыць, фэдэрацыя з Вялікаросіяй, так як у ёй на чале ўлады быў пролетарыят, прызнаецца пажаданай „фэдэрацыя“ з тымі часткамі б. царскай дзяржавы, у якой ва ўладзе стаяла буржуазія.

Яшчэ больш акрэсьлена выявіў клясавую позыцыю буржуазіі па пытаньні аб незалежнасьці артыкул віднага украінскага с.-д. Садоўскага, зьмешчаны ў газэце „Слова“ ад 13-га верасьня 1919 году.

„Незалежнасьць Украіны ў момант, калі яна была абвешчана, зьяўляецца крокам, які павінен быў выратаваць нас ад бальшавізму“.

Гэтыя гістарычныя прыклады даказваюць, што украінская буржуазія не разглядала лёзунгу незалежнасьці абстракна, але цясьнейшым чынам зьвязвала яго з барацьбой супроць працоўных мас. Яна высоўвала лёзунг незалежнасьці, як зброю контр-рэволюцыі, накіраваную супроць Савецкай улады.

Тое самае можна сказаць аб позыцыі заходня-украінскай буржуазіі. Дастаткова спамянуць яе ролю ў час імпэрыялістычнай вайны, калі яна стаяла цалкам на глебе аўстрыйскай окупацыі, а пазьней — пасьля зруйнаваньня аўстрыйскай імпэрыі — заключыла саюз з Дзянікіным і г. д.

Да позыцыі украінскай буржуазіі можна цалкам дапасаваць тое, што пісаў Маркс аб францускай буржуазіі ў 1871 годзе:

„Урад нацыянальнай абароны прымушаны выбіраць паміж нацыянальным абавязкам і клясавымі інтарэсамі, ня хістаўся ні на хвілінку — ён ператварыўся ў урад нацыянальнай зьмены“.

Што-ж тады гаварыць аб позыцыі украінскай і беларускай буржуазіі ў сучасны пэрыод нарастаючай рэволюцыйнай хвалі ў капіта-

лістычных дзяржавах і вялікага соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе ў УССР і БССР.

Ленін вучыў нас конкрэтна — гістарычна разглядаць соцыяльныя зьявішчы. Нельга, таксама, разглядаць ацэнку позыцыі украінскай буржуазіі і яе „імкненьня да незалежнасьці Украіны“ адарвана ад дамінуючага над міжнародным становішчам факту падрыхтоўкі імпэрыялізму да вайны супроць СССР і ролю Польшчы ў антысавецкім блёку.

У сучасны пэрыод правядзеньня ў жыцьцё вялікагапяцігадо вага пляну, усебаковага ўмацаваньня СССР і росту прыцягваючай сілы ў адносінах да працоўных мас капіталістычных краін міжнародны імпэрыялізм у сваіх антысавецкіх плянах павінен апірацца перш за ўсё на Польшчу. На выпадак пераможнай інтэрвэнцыяністцкай вайны апарат „незалежнай“ Украіны фактычна быў-бы прыдаткам польскага дзяржаўнага апарату.

Значыць, калі мы гаворым, што ўтварэньне незалежнай Украіны азначае пашырэньне меж Польскай окупацыі, гэта мае дваякае значэньне. Па-першае, гэта азначае перасоўваньне прымежных слупоў Польшчы на ўсход, доказам чаго зьяўляецца хоць-бы дагавор пятлюраўскага генэрала Сальскага з прэм'ерам польскага ўраду—Славэкам, „уступаючы“ Польшчы рад гарадоў Савецкай Украіны, па-другое — гэта азначае ўтварэньне на ўсходзе ад сучаснай Польскай Дзяржавы „незалежнай“ Украіны, якая зьявіцца фактычна польскай колёніяй.

Такая пастаноўка пытаньня, вядома, ня робіць уплыву на організацыю „незалежнай“ Украіны з боку другіх імпэрыялістычных дзяржаў, і перш за ўсё з боку Францыі. Яна зьявілася-б, бязумоўна, адным з фактараў, рашаючых лёс „незалежнай“ Украіны. Але якраз Францыя і Англія падтрымліваюць „фэдэралістычныя“ пляны свайго польскага васалу.

У падцьвярджэньне правільнасьці такой позыцыі можна прывесьці рад гістарычных прыкладаў.

„Незалежная“ Польшча, абвешчаная Нямеччынай і Аўстрыяй у 1916 годзе знаходзілася пад окупацыяй аўстра-нямецкіх войск, хаця мела рад дзяржаўных атрыбутаў: — „Вярхоўную ўладу“ ў асобе Рэгенцыённага савету, „габінэт міністраў“, армію і г. д.

Для характарыстыкі суб'ектыўных імкненьняў польскай буржуазіі стоіць толькі паказаць, што ў 1918 годзе яе відныя прадстаўнікі, баючыся бальшавізму, імкнуліся працягнуць тэрмін нямецкай окупацыі. Для іх важней быў непасрэдны бліжэйшы клясавы інтарэс ратунку перад пагібельлю, чым больш далёкія пэрспэктывы ўмацаваньня свайго клясавага панаваньня ў незалежнай буржуазнай дзяржаве.

Польскія капіталісты і абшарнікі ня толькі імкнуліся працягнуць аўстра-нямецкую окупацыю польскіх абласьцей, але таксама імкнуліся да яе пашырэньня далей на ўсход, каб, такім чынам, выратаваць сваіх братоў па клясе, якія знаходзіліся пад ударам рэволюцыйных рабочых і сялян. Вось што адзін з відных пілсудчыкаў — Тадэўш Голуўка — піша ў сваіх успамінах аб настроях польскіх капіталістаў і абшарнікаў у Падоліі ў 1918 годзе.

„Усе (г. зн. усе польскія эксплёататары і іх дапаможнікі— *Ю. Б.*), а іменна польскія вайсковыя формацыі і памешчыкі, якія сабраліся ў гарадох і аплаквалі руіны сваіх маёнткаў, як і бежанцы з Польшчы — чакалі як збаўленьня прыходу аўстра-нямецкіх войск [1]).

[1]) Тадэўш Голуўка — „Праз два фронты“. Варшава, 1931 г., стар. 77.

ППС-аўскія глашатыя польскага імпэрыялізму, якія да і ў час вайны 1914—18 гг. крычалі аб незалежнасьці Польшчы, выконвалі ролю агентаў нямецкага і аўстра-вэнгерскага імпэрыялізму, пракладвалі шлях і нямецкай і аўстрыйскай окупацыі, разглядалі яе, як меншае зло ў барацьбе з Расіяй. Выхваляючыся перад масамі фразай аб незалежнасьці, яны гатовы былі здаволіцца падачкай „палітычнай самастойнасьці“. Вось што пісаў адзін з правадыроў ППС Вітальд Іодка ў выдадзенай у 1916 годзе брошуры Deutschland und Pollen („Нямеччына і Польшча“).

„Для вызваленьня краіны ад расійскага панаваньня мы патрабуем магчыма большай палітычнай самастойнасьці, па магчымасьці поўнай незалежнасьці“.

І так, мы бачым, што Іодка ня толькі не патрабуе „аб'яднаньня Польшчы, але ў адносінах да былой рускай Польшчы ён абмяжоўваецца патрабаваньнем магчыма большай палітычнай самастойнасьці“.

Калі Іодка дэкляраваў па адрасе нямецкай дзяржавы лёйяльнасьць і гатоўнасьць да барацьбы „рука аб руку“ з нямецкім і аўстра-вэнгерскім імпэрыялізмам („Hand in Hand mit den Lentvalmächten) цаной абяцаньня „самастойнасьці“, другая частка польскіх соцыял-шовіністаў — правадыры галіцыйскай ППСД — Дашынскі, Марэк, Гаўзнэр, разам з кракаўскімі „станчыкамі“ консэрватарамі працавалі ў Вярхоўным Наныянальным Камітэце за ажыцьцяўленьне „вялікай ідэі далучэньня царства Польскага да Аўстрыі.“

У запісцы, якая была падана 7-га сьнежня 1914 году аўстрыйскаму міністэрству замежных спраў, яны завяралі, што:

„Задача, якая адчыняецца ў царстве Польскім перад ВНК, складаецца ў патрыманьні грамадзкай сьвядомасьці, у пашырэньні асноўнай ідэі ВНК, г. з. Саюзу Польшчы з Аўстрыяй“.

Тую-ж самую позыцыю разгортваў самы „незалежны“ з галіцыйскіх згоднікаў Парачэўскі (у сучасны момант адзін з слупоў польскага фашызму). У выдадзенай у час вайны кніжцы „Нарыс польскага пытаньня ў сучаснай вайне“ ён пісаў наступнае:

„Аб'яднаньне аўтономнай Польскай дзяржавы ў дзяржаўны саюз з Аўстра-Вэнгерскай монархіяй лічым магчымым і праўдападобным вынікам вайны, які ўзгадняе інтарэсы Аўстра-Вэнгрыі і Нямеччыны з інтарэсамі польскага народу“ (стар. 25.)

Яшчэ больш яскрава концэпцыя саюзу „аўтономнай“ Польшчы з Аўстра-Вэнгерскай монархіяй было выказана правадыром польскіх галіцыйскіх соцыял-шовіністаў Дашынскім у прамове на паседжаньні парляманцкага „Польскага кола“ 4-га кастрычніка 1916 году ў час спрэчак па пытаньні аб адносінах кола да магчымага агалашэньня цэнтральнымі дзяржавамі „незалежнасьці“ Польшчы:

„Па мойму гаварыў Дашынскі ў нас па сутнасьці няма прычыны зьмяняць нашы програмныя імкненьні. Наша програма падобна на плюшч, які ўецца каля прастолу Габзбургаў, але гэты плюшч меў і мае карэньні ў польскай зямлі“.

Разгортваючы далей паступова гэту палітыку плюшча вітаў у сваім уяўленьні ўжо новага аўстрыйскага імпэратара на польскім прастоле:

„Мы з ахвотай спаткаем аўстрыйскага імпэратара Карла ў якасьці Польскага караля, бо мы верым, што ў рэальных умовах,

складзеных вайной, гэта будзе самым пасьпяховым вырашэньнем польскага пытаньня".

І так, мы бачым, што позыцыя польскай буржуазіі і яе „соцыялістычных" прыслужак вызначалася не якімісьці адцягнутымі „імкненьнямі" да незалежнасьці, але выцякала і з барацьбы асобных імпэрыялістычных ґруповак, а таксама і з барацьбы супроць бальшавіцкай рэволюцыі, супроць назраваючага таксама і ў Польшчы рэволюцыйнага руху.

Прывяду яшчэ адзін гістарычны прыклад, які падмацоўвае памылковасьць нацыянал-опортуністычнай концэпцыі незалежнасьці Украіны і Беларусі — польска-украінскую вайну 1918-1919 гг. У гэтай вайне імпэрыялістычныя дзяржавы актыўна падтрымлівалі буржуазную Польшчу. Чаму? Адказ на гэта дае львоўскі архіяпіскап Тэадаровіч у прамове з прычыны 10-годзьдзя польска-украінскай барацьбы за Львоў.

> „Што здарылася-б з нашымі братамі (г. зн. украінцамі), калі-б яны перамаглі? Ці змаглі-б яны ўтрымаць Львоў у сваіх руках? Або сталіца таксама як і яны самі не зрабілася-б ахвярай войск Бальшэвіі, якія пасьля перамогі ў Львове ішлі ў гэты бок, а тады ня было-б на гэтых землях ні Русі, ні Украіны, былі-б толькі Саветы".
>
> („Слова польске" 23-га лістапада 1928 году".)

Падобным чынам ацэньвалі становішча штабы коаліцыйных армій. Па гэтаму яны не шкадавалі для Польшчы баявых прыпасаў, грошай і ўсякай іншай дапамогі.

Такая была позыцыя міжнароднага імпэрыялізму ў час польска-украінскай вайны 1918-19 году, бо імпэрыялізм добра ўяўляў сабе тое, што украінская буржуазія была-б занадта слабая, каб супроцьставіцца націску моцнага рэволюцыйнага руху, што для барацьбы супроць яго неабходна было абаперціся на буржуазную польскую дзяржаву.

Ясна, што зараз—у пэрыод пяцігодкі і колектывізацыі ў СССР, у пэрыод нарастаньня рэволюцыйнага ўздыму ў Польшчы яшчэ вастрэй стаіць перад міжнародным імпэрыялізмам неабходнасьць падтрыманьня фашысцкай Польшчы, як авангарду ў кортр-рэволюцыйнай вайне супроць СССР.

Ці значыць гэта, што украінская буржуазія канчаткова адказалася ад думкі аб ўласнай дзяржаве, што яна ня хоча незалежнай буржуазнай Украіны? Такая пастаноўка пытаньня была-б шкоднай (у адносінах, напрыклад, польскай буржуазіі да вайны рызыкоўна было-б сьцьвярджаць, што яна *не хацела* сваёй незалежнай дзяржавы). Справа, аднак, у тым, што патрэбна падыходзіць да пытаньня ня з боку суб'ектыўнах пажаданьнў, мар і імкненьняў буржуазіі, але яе об'ектыўнай ролі, сапраўднага клясавага зьместу яе політыкі. Асобныя групоўкі польскай буржуазіі і да вайны ва ўрачыстых выпадках выхваляліся фразай аб незалежнасьці, але яны гэта рабілі для прыкрыцьця фактычнага агульнага фронту з царызмам і рускай буржуазіяй у барацьбе з рэволюцыйным рухам.

Падобна гэтаму зараз укрінская буржуазія прыбягае да фразы аб незалежнасьці Украіны для *прыкрыцьця* саюзу з польскім фашызмам на глебе сумеснай барацьбы супроць СССР і рэволюцыйнага руху ў Польшчы.

У гэтай барацьбе супроць рэволюцыйнага руху Польшчы і супроць Савецкага Саюзу адбываецца *процэс зрашчваньня украінскай*

*і беларускай буржуазіі з польскім фашызмам.* Усьвядомленьне таго, што ў Савецкай Украіне і Савецкай Беларусі адбываецца грандыёзнае нацыянальнае будаўніцтва, што пролетарыят складае там новую украінскую і беларускую культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце, усьядомленьне таго, што украінізацыя і беларусізацыя гэта „не манэўр“, як сьцьвярджае прадажны буржуазны друк, але сапраўднасьць застаўляе украінскую і беларускую буржуазію выступаць супроць савецкіх рэспублік з яшчэ большай азьвярэласьцю.

Стары хлусьлівы лёзунг Пятлюры: „да Львову праз Кіеў“, які павінен быў прыкрываць той факт, што пятлюраўцы прадаліся буржуазнай Польшчы, зьяўляецца зараз лёзунгам усёй украінскай буржуазіі. Такая-ж позыцыя і беларускай буржуазіі.

Умацаваньне адзінага фронту украінскай і беларускай буржуазіі з польскім фашызмам у барацьбе супроць СССР і рэволюцыйнага руху Польшчы, вядома, ня можа адхіліць супярэчнасьці паміж буржуазіяй прыгнечаных нацый і пануючай польскай буржуазіяй, якія на глебе паглыбляючагася гаспадарчага крызісу абвастраюцца і будуць абвастрацца. Гэта пытаньне зьяўляецца, аднак, тэмай для асобнага артыкулу.

Процэс зрастаньня украйнскай буржуазіі з польскім фашызмам яшчэ больш паскорыўся ў сувязі з моцным разьвіцьцём рэволюцыйнага руху ў заходняй украінскай вёсцы ўвосень мінулага году, калі украінскія сяляне палілі дзесяткі абшарніцкіх маёнткаў, кулацкіх і асадніцкіх гаспадарак. Крывавая пацыфікацыя Заходняй Украіны была для украінскай буржуазіі яшчэ адным стымулам хутчэйшай згоды з польскім фашызмам. Пачаліся махінацыі правадыроў УНДО з прадстаўнікамі пятлюраўскага ўраду, пры ўдзеле відных пятлюраўцаў.

Ва ўмовах нарастаньня рэволюцыйнай хвалі і ўзмоцненай падрыхтоўкі да нападу на Савецкі Саюз хуткім тэмпам адбываецца процэс пятлюрызацыі ўсіх украінскіх буржуазных партый. Выразам гэтага зьяўляецца перагрупоўка ў лягеры украінскай буржуазіі. Дастаткова прывесьці такія факты, як утварэньне Украінскай Каталічнай Народнай Партыі (УКНП) з япіскапам Хомышэным на чале, і Украінскага Каталіцкага Саюзу на чале з мітрапалітам Шэптыцкім, якія ўсенародна заявілі аб сваёй поўнай лёяльнасьці ў адносінах да фашысцкай Польшчы.

Самая моцная партыя украйнскай буржуазіі УНДО адкрыта стала на позыцыю аўтономіі, заяўляючы, што пытаньне заходніх меж буржуазнай Украіны не стаіць зараз на парадку дня і што будзе вырашана і ўзгоднена з Польшчай пасьля зрынуцьця савецкай улады ў Харкаве і Кіеве.

Ва ўмовах уздыму нацыянальна-вызваленчага руху, накіраванага супроць польскай окупацыі Заходняй Украіны і Беларусі, вырастае значэньне нацыянал-фашысцкіх організацый, як, напрыклад, Украінскай вайсковай організацыі (УВО), задачай якіх зьяўляецца перахватваньне рэволюцыйнага настрою мас і накіраваньне яго пад сьцягам крайняга няцыяналізму ў антысавецкае рэчышча. УВО—гэта баявая антысавецкая організацыя украінскага фашызму, накіраваная ўсім фронтам супроць СССР. Прыкрываючыся антыпольскай фразай, яна ў сапраўднасьці лікаманкава рыхтуецца да выкананьня актыўнай ролі ў контр-рэволюцыйным паходзе супроць СССР пад кіраўніцтвам польскага фашызму. Гэтым самым УВО фактычна становіцца на глебу агульнага фронту з польскім фашызмам. Вось што нядаўна пісаў адзін з правадыроў і ідэолёгаў УВО—Андрыеўскі.

„Позыцыя Польшчы ў жыцьці Эўропы зусім другая, чым позыцыя Масквы; яна патрабуе ад нас другой політыкі, у той

час як Масква знаходзіцца ў адносінах да нас „па той бок барыкад“, Польшча належыць да агульнага нам эропейскага міру“.

(„Разбудова нацыі“, кастрычнік 1930 г., стар. 225).

І з гэтай антысавецкай установкі УВО выцякае фактычная згода на окупацыю Заходняй Украіны фашысцкай Польшчай.

„Што тычыцца аб‘яднаньня украінскіх зямель — чытаем у органе УВО—па гэтаму пытаньню украінскія нацыяналісты зусім не зьяўляюцца такімі ўтопістамі, як баснаслоўны Шамяка, які імкнуўся, замест таго, каб набраць дроў, прынесьці дамоў адразу ўвесь лес, прывязаўшы дрэва да дрэва. Нацыяналісты лічацца з тым, што быць можа ня ўдасца адным узмахам аб‘яднаць ўсе землі“.

(„Разбудова нацый“, Кастрычнік 1930 г., стар. 231).

Програмай украінскай буржуазіі ў сучасны момант (таксама як буржуазіі беларускай, грузінскай і г. д.) па сутнасьці не зьяўляюцца абстрактныя лёзунгі незалежнасьці, па імкненьні да зрынуцьця савецкай ўлады і рэстаўрацыі капіталізму ў СССР сіламі міжнадроднага імпэрыялізму і польскага фашызму. Разглядаючы СССР, як свайго галоўнага, або клясавага ворага, украінская буржуазія мірыцца з гегемоніяй польскага фашызму, які павінен будаваць „незалежную“ Украіну, як гэта было і ў 1920 годзе.

Але ўжо ў 1920 годзе украінскія рабочыя і сяляне разам з працоўнымі ўсяго СССР пры актыўным падтрыманьні міжнароднага пролетарыяту прагналі з Савецкай Украіны і Беларусі польскія белыя войскі. З таго часу прайшло 10 год разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва, 10 год разьвіцьця рэволюцыйнага руху пад кіраўніцтвам комуністычных партый у краінах капіталу. Спроба новага „паходу“ на Кіеў нясумненна спаткае ў сучасны момант больш моцны адпор мільённых працоўных мас у Польшчы і ва ўсім сьвеце, якія бачаць у Савецкім Саюзе сваю бацькаўшчыну.

Мобілізуючы масы на барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны, КПП будзе разаблачаць як „фэдэралізм“ пілсудчыкаў, так і хлусьлівы лёзунг „незалежнасьці“ украінскай і беларускай буржуазіі, а таксама іх адбіцьцё ў нацыянал-опортуністычных канцэпцыях незалежнасьці Украіны і Беларусі. Фашысцкаму падману „незалежнасьці“ буржуазнай Украіны і Беларусі КПП супроцьпаставіць моцны рост соцыялістычнага і нацыянальнага будаўніцтва ў СССР і лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня прыгнечаных фашысцкай Польшчай народаў, растлумачваючы украінскім і беларускім масам, што барацьба супроць польскай окупацыі неразрыўна зьвязана з барацьбой разам з польскімі рабочымі і сялянамі, за дыктатуру пролетарыяту ў Польшчы, растлумачваючы польскім рабочым, што барацьба супроць окупацыі Заходняй Украіны і Беларусі зьяўляецца неразлучнай часткай іх барацьбы супроць дыктатуры фашызму, за Польскую Савецкую Рэспубліку.

Ядвіга Сякерская

# Мацней агонь па вялікадзяржаўнаму шовінізму

„Ваяўнічы буржуазны нацыяналізм атупляе, адурачвае, разьяднае рабочых, каб іх весьці на повадзе буржуазіі, — вось асноўны факт сучаснасьці“ (Ленін).

Гэтыя словы Леніна набываюць асаблівае, новае значэньне ў пэрыод непасрэднага соцыялістычнага будаўніцтва, калі гэта будаўніцтва працякае ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, у сувязі з якім узмацняюцца і ажыўляюцца таксама ўсе віды шовінізмаў, як ідэолёгія дробна-буржуазных і буржуазных пластоў гораду і вёскі, якія шалёна супраціўляюцца соцыялістычнаму будаўніцтву.

Нябачаны да апошняга часу прамыслова-экономічны і культурны ўздым нацыянальных рэспублік нашага Саюзу, росквіт пролетарскай, соцыялістычнай па зьмесьце і нацыянальнай па форме, культуры, тым самым даводзіць, што толькі пролетарыят можа да канца зьнішчыць усякі нацыянальны прыгнёт, што толькі пролетарыят, падпарадкаваўшы нацыянальнае пытаньне задачам соцыялістычнага будаўніцтва, у сілах яго разьвязаць.

Аднак, рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту не магло ня выклікаць, насупраць усялякім правым тэорыям аб урастаньні кулака ў соцыялізм, шалёнага супраціўленьня рэштак капіталізму. Гэта супраціўленьне гінучых клясаў, гэта — жорсткая клясавая барацьба ва ўмовах нацыянальных рэспублік нашага Саюзу выяўляецца таксама ва ўзмацненьні і ажыўленьні ўсіх відаў шовінізмаў.

Дыялектыка разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, калі росквіт пролетарскай соцыялістычнай культуры ва ўсім Саюзе выклікае актывізацыю шовінізмаў у іх найбольш дзікіх, драпежных праявах, наяўна даводзіць правільнасьць асноўных палажэньняў марксызму-ленінізму, што барацьба ў выглядзе ўсякага роду шовінізмаў не ўяўляе сабою якой-небудзь спэцыфічна-нацыянальнай барацьбы, а зьяўляецца адной з праяў клясавай барацьбы. Адсюль ясна, што няверным, мэханістычным і па сутнасьці праваопортуністычным будзе вывад аб тым, што ўжо цяпер рост, соцыялістычнай па зьмесьце і нацыянальнай па форме, культуры павінен паступова прыводзіць да аслабленьня ўсіх відаў шовінізмаў. У сувязі з гэтым вывадам робіцца і другі няправільны палітычны вывад: калі соцыялізм расьце, і разам з ім растуць шовінізмы, то гэта значыць, што партыя няправільна праводзіла нацыянальную палітыку. Выходзіць, што не об'ектыўнае завастрэньне клясавай барацьбы іменна ў сувязі з соцыялістычым наступленьнем

а суб'ектыўная прычына, г. ё. няправільная лінія партыі, прывяла да контр-рэволюцыйнай дзейнасьці нацдэмаў у Беларусі і да наяўнасьці ідэолёгаў нацдэмократызму, як Ігнатоўскага і Жылуновіча ў радох партыі. Такога роду выступленьні мелі месца на актыве Менскай парторганізацыі (выступленьне т. Смаля).

Як бачым, такія вывады цалкам знаходзяцца ў сваяцтве з бухарынскімі разважаньнямі аб завастрэньні клясавай барацьбы ў вёсцы па віне і слабасьці савецкага апарату, і як першыя, так і другія разважаньні даводзяць поўнае неразуменьне складанай дыялектыкі клясавай барацьбы на даным этапе, якая выяўляецца і ў актывізацыі шовінізмаў і ў праніканьні гэтых шовінізмаў нават у шэрагі нашай партыі.

Калі мы кажам, што актывізацыя ўсіх відаў шовінізмаў у нашым Саюзе ўяўляе сабою нішто іншае, як праяву лютай клясавай барацьбы, то гэта зусім ня значыць, што ўсе шовінізмы, выяўляючы сабою ідэолёгію буржуазных элемэнтаў, якія змагаюцца за аднаўленьне капіталізму, тым самым становяць сабою аднолькавую небясьпеку.

Рускі вялікадзяржаўны шовінізм, ідэолёгія вялікадзяржаўнага шовінізму, зьяўляецца *галоўнай небясьпекай* ва ўсім нашым Саюзе. Калі партыя з асаблівай сілай на XVI зьезьдзе падкрэсьліла, што ў галіне нацыянальнай політыкі вялікадзяржаўны шовінізм застаецца галоўнай небясьпекай, то такая пастаноўка пытаньня шмат каму здаецца надта агульнай, а таму ў асобных выпадках нібы няправільнай. Конкрэтна, у Беларусі ў сувязі з выкрыцьцём контр-рэволюцыйнай організацыі беларускіх нацдэмократаў у некаторых т. т. існуе пункт погляду, што калі ў іншых рэспубліках нашага Саюзу вялікарускі шовінізм можа і зьяўляецца галоўнай небясьпекай, то, аднак, у БССР, падыходзячы, моў, да пытаньня конкрэтна, такой галоўнай небясьпекай зьяўляецца беларускі нацдэмократызм, які вырас у контр-рэволюцыйную організацыю і ідэолёгія якога захапіла сабою нават паасобныя зьвеньні нашай партыі.

Гэта на першы погляд вельмі конкрэтная і нібы дыялектычная пастаноўка пытаньня па-сутнасьці зьяўляецца вельмі неконкрэтнай антыдыялектычнай і політычна шкоднай.

Калі партыя падкрэсьлівае, што цяпер ва ўсім Саюзе і ў партыі вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, то такі пункт погляду ня толькі выходзіць з ленінскай пастаноўкі пытаньня аб прыгнечаных і прыгнятаючых нацыях пры імпэрыялізьме, і ў сувязі з гэтым аб больш небясьпечным шовінізьме буржуазіі, прыгнятаўшай некалі нацыі, але і з конкрэтных умоў клясавай барацьбы Савецкага Саюзу. Аднак, імення Ленін вучыў нас таму, што нельга сртыгці ўсе шовінізмы пад адзін грэбень, нельга лічыць іх аднолькава рэальнымі на розных этапах гістарычнага разьвіцьця, імення Ленін вучыў перш за ўсё адрозьніваць нацыяналізм прыгнятаючай і прыгнечанай нацыі.

„Шовінізм, нацыяналізм гістарычна неабходны ў буржуазным грамадзтве“ (Ленін). У капіталістычным грамадзтве, асабліва ў яго імпэрыялістычнай стадыі ня існуе роўнапраўных нацыянальных дзяржаў, а нацыі прыгнятаючыя і прыгнечаныя: „імпэралізм—кажа Ленін—ёсьць якраз тая эпоха, калі істотна і тыпова дзяленьне нацый на *прыгнятаючых і прыгнечаных*“ (Л. т. IX, стар. 151).

Адсюль Ленін у барацьбе, з аднаго боку, супроць бундаўцаў, з другога боку, супроць Розы Люксембург, падкрэсьліваў розьніцу шовінізмаў буржуазіі прыгнечанай і прыгнятаючай нацыі і неабходнасьць розных адносін партыі пролетарыяту да гэтых шовінізмаў.

Вымагаючы бязьлітаснай барацьбы пролетарыяту супроць нацыяналізму прыгнятаючай нацыі, Ленін у той самы час падкрэсьліваў магчымасьць адноснай рэволюцыйнасьці буржуазнага нацыяналізму прыгнечанай нацыі ў вядомых гістарычных умовах, напрыклад, барацьба прыгнечаных нацый супроць царскай Расіі.

Дапасоўваючы і разгортваючы гэта ленінскае палажэньне аб рознага роду буржуазных шовінізмах і іх адбіцьці ў партыі, ужо конкрэтна ў адносінах да новай абстаноўкі, г. ё. да Савецкага Саюзу, тав. Сталін кажа: што вялікарускі шовінізм „адбівае імкненьне *аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарускай нацыі* зьвярнуць сабе ўтрачаныя прывелеі“ ў той час, як мясцовы шовінізм і ўхілы ў бок мясцовых шовінізмаў „адбіваюць нездавальненьне аджываючых клясаў таксама прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне адасобніца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“.

Вялікарускі шовінізм уяўляе сабою *найбольшую небясьпеку*, як шовінізм некалі панаваўшай буржуазіі, карані панаваньня і нацыянальнага ўціску якой яшчэ ня выкарчаваны канчаткова ходам соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта характарыстыка вялікарускага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, адносіцца і да БССР, як і да другіх нацыянальнасьцяй, якія прыгняталіся рускімі памешчыкамі і буржуазіяй.

Бязумоўна, соцыялістычныя тэмпы індустрыялізацыі і колектывізацыі БССР, таксама як і цэлага раду іншых, раней экономічна і культурна адсталых, нацрэспублік і абласьцей, ліквідуюць няроўнасьць між рускай і іншымі раней прыгнечанымі нацыямі.

Аднак, ліквідацыя гэтай адсталасьці яшчэ не закончена, а сам процэс ліквідацыі выклікае шалёнае супраціўленьне канчаткова гінучага капіталізму, а таму і праяўляецца ва ўсё новых і новых формах шовінізмаў.

Такім чынам, вялікарускі шовінізм, па-першае, як выказваючы інтарэсы найбольш моцнай, г. зн. рускай буржуазіі, карані панаваньня якой яшчэ не ліквідаваны канчаткова, па-другое, як шовінізм буржуазіі, які ставіць найбольшую небясьпеку ў сэнсе аднаўленьня капіталізму ў яго найбольш ачмурэлай імпэрыялістычна-прыгнятальнай форме—зьяўляецца галоўнай небясьпекай.

Гэтыя агульныя досыць ясныя палажэньні самі па сабе могуць быць яшчэ ў больш яркай форме ўскрыты і паказаны фактамі багатых рознастайных форм клясавай барацьбы ва ўсім нашым Саюзе і ў БССР. Калі мясцовы беларускі шовінізм вырас у контр-рэволюцыйную організацыю, якая спрабавала сарваць справу соцыялістычнага будаўніцтва БССР і асабліва перашкодзіла гэтаму будаўніцтву на аграрным і ідэолёгічным фронце БССР, то ня варта забываць, што найбольш ачмурэлы вялікадзяржаўны шовінізм яшэ больш драпежніцкі і небясьпечны для справы соцыялістычнага будаўніцтва, агаліў сябе ў контр-рэволюцыйнай дзейнасьці кулацкай партыі Кандрацьевых-Чаянавых і ў контр-рэволюцыйнай шкодніцкай рабоце „Прампартыі“.

У сувязі з гэтым усякую праяву вялікадзяржаўнага шовінізму конкрэтна ў БССР, скрытую або адкрытую, пасыўную альбо актыўную, нельга разглядаць ізолявана толькі ў межах БССР і ў гэтых межах параўноўваць з нібы больш небясьпечным характарам мясцовага нацыянал-дэмократызму. Трэба зразумець, што ўсякі факт вялікадзяржаўнага шовінізму ў БССР, Узбэкістане ды інш.,—гэта вада на млын такіх контр-рэволюцыянэраў і вялікадзяржаўных шовіністаў, як Рамзіны і Кандрацьевы, гэта об‘ектыўная, а часта і суб‘ектыўная

дапамога дзейнасьці гэтых контр-рэволюцыянэраў. Такім чынам, іменна конкрэтная пастаноўка пытаньня адносна вялікадзяржаўнага шовінізму і вымагае таго, каб паасобныя факты праяў вялікадзяржаўнага шовінізму ў БССР або ў іншых нацыянальных рэспубліках, разглядаць у цеснай сувязі (бо об'ектыўна яны маюць агульную крыніцу—барацьбу рускай буржуазіі за аднаўленьне капіталізму, за аднаўленьне прывілей рускай буржуазіі) з найбольш наглым і небясьпечным праяўленьнем вялікадзяржаўнага шовінізму, у контр-рэволюцыйнай дзейнасьці Прампартыі ды інш. контр-рэволюцыйных арганізацый.

Неразуменьне вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, узмацняецца яшчэ наступнымі разважаньнямі: калі ў Беларусі мясцовы беларускі нацдэмократызм дзейнічаў як контр-рэволюцыйная арганізацыя, а вялікарускі шовінізм не выступае ў якасьці такой контр-рэволюцыйнай арганізацыі, то, значыць, гэты апошні менш небясьпечны чым першы. На першы погляд такія разважаньні гучаць вельмі пераконваюча, але па сутнасьці няправільныя і шкодныя палітычна. Рускаму шовінізму з адчыненай і шчырай прыгнятальнай праграмай некарысна выступаць ва ўмовах нацыянальнасьці, якая некалі ім прыгняталася, бо ў такім выпадку яму цяжка будзе прыцягнуць і завербаваць на свой бок нездаволеныя дыктатурай пролетарыяту эксплёататарскія элемэнты данай нацыянальнасьці. Такую ролю выконвае лягчэй мясцовы нацыяналізм, тым больш, што гэты шовінізм, дэмагогічны ў сваіх клясавых мэтах, выкарыстоўвае свой нацыяналізм, які некалі меў адносна рэволюцыйнае значэньне ў барацьбе з прыгнятальна-чорнасоценнай палітыкай царскай Расіі і які накіроўвае цяпер сваё вастрыё супроць дыктатуры пролетарыяту і соцыялістычнага будаўніцтва. Вось чаму вялікадзяржаўны шовінізм ва ўмовах нацыянальных рэспублік не адмаўляецца змыкацца з мясцовым нацыяналізмам, адным словам, не адмаўляецца схаваць свой сапраўдны твар імпэрыялістычнага драпежніка і ў гэтым таксама заключаецца яго вялізная небясьпека.

Такім чынам, калі мясцовы шовінізм мясцовай буржуазіі дэмагогічна выкарыстоўвае сваё некалі нацыянальна-прыгнечанае становішча, і накіроўвае свае ўдары супроць дыктатуры пролетарыяту ў ярка нацыяналістычнай форме (раней вось нас прыгняталі маскалі, і цяпер таксама), то вялікадзяржаўны шовінізм, як шовінізм некалі прыгнятальнай нацыі, не заўсёды выпінае і знадворна не паказвае свае прыгнятальныя капцюры, а наадварот, стараецца іх схаваць.

Аднак, марксысцка-ленінскі падыход да гэтага пытаньня патрабуе таго, каб зразумець, што своеасаблівасьць і новыя ўмовы клясавай барацьбы пры дыктатуры пролетарыяту *па рознаму* выяўляюць як мясцовы, так і вялікадзяржаўны шовінізм, прычым за выглядам анты-нацыяналізму, нацыянальнага нігілізму і нават часам інтэрнацыяналізму трэба ўскрыць драпежніцкі твар сапраўднага рускага вялікадзяржаўнага шовінізму, які праглядаў у кожным дзеяньні контр-рэволюцыянэраў тыпу Рамзіна, а таксама ўсьведамляем мы гэта ці не, нават у „нявінных“ фактах нацыянальнага нігілізму. Такім чынам, тое, што ў БССР вялікадзяржаўны шовінізм выступае часьцей за ўсё ў замаскаванай форме, ніколі не зьмяншае вялізнае небясьпекі гэтага шовінізму, а наадварот яе павялічвае.

Калі мы кажам далей, што вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай у параўнаньні з усімі іншымі відамі шовінізмаў, то гэта ні ў якім выпадку нельга разумець аднабакова, мэханістычна

адрываючы і супроцьстаўляючы вялікадзяржаўны шовінізм іншым відам шовінізмаў. Конкрэтна, гэта аднабокасьць, мэханістычнасьць у разуменьні галоўнай небясьпекі, палітычна блізарукая і шкодная, прыводзіць да таго вываду, як быццам простага і лёгічнага: калі правы ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай, то „левы“ тым самым аслабявае, калі вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай нябесьпекай, то ўсе іншыя віды шовінізмаў больш слабыя і небясьпека іх зьмяншаецца.

Дыялектыка клясавай барацьбы цалкам абвяргае гэту нібы стройную мэханістычную концэпцыю аслабяваньня адных ухілаў, адных небясьпек, калі ўзмацняюцца іншыя. Мэтодолёгія гэтых разважаньняў цалкам узята з арсэналу бухарынскай мэханістычнай концэпцыі аб патуханьні клясавай барацьбы ў сувязі з ростам соцыялістычнага будаўніцтва, концэпцыі, якая ня мае нічога супольнага з рэчаіснасьцю. На даным этапе рост соцыялістычнага будаўніцтва не аслабляе, абвастрае клясавую барацьбу, правы ўхіл, як галоўная небясьпека, не аслабляе і ня зьнішчае „левых“ ухілаў, вельмі часта харчуе іх і нават прыводзіць да бяспрынцыпнага блёку правых і „левых“ (Сырцоў—Ломінадзэ), таксама вялікарускі шовінізм, як галоўная небясьпека, узмацняе і харчуе сабою іншыя віды шовінізмаў. Аднэй з прычын таго, што вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, якраз і служыць тое, што ён *жывіць сабою*, узмацняе рост мясцовых шовінізмаў. Рост соцыялістычнага будаўніцтва і клясавая барацьба, правы і „левы“ ўхіл, вялікадзяржаўны шовінізм і мясцовыя шовінізмы—гэта не барацьба дзьвюх знадворна зьвязаных з сабою сіл, дзе ўзмацненьне адной нібы абавязкова прыводзіць да паслабленьня другой, а своеасаблівае адзінства процілегласьцяй, у якім рост адной з працілегласьцяй конкрэтна на даным этапе зусім не дапушчае зьмяншэньня другой. І тут выяўлялася матэрыялістычная дыялектыка.

Іменна тое, што вялікадзяржаўны шовінізм жывіць сабою, памагае росту іншых шовінізмаў, досыць ярка праявілася на фактах клясавай барацьбы ў БССР. На ідэолёгічным фронце БССР, сярод профэсароў БДУ, таксама як і сярод студэнцкай масы, праяўляўся вялікадзяржаўны шовінізм, які дапамагаў беларускаму шовінізму. Так, напрыклад, усім вядомы факт, што водгукам на напісаныя ў вялікадзяржаўным духу фрагмэнты ў насьценнай газэце БДУ (1928 г.) зьявіўся нацдэмаўскі ліст трох пісьменьнікаў і быў выкарыстаны для ўзмацненьня і нацдэмаўскіх контр-рэволюцыйных настрояў. Паслабленьне і палітычная недаацэнка беларусізацыі, патураньне як актыўнаму, так і пасыўнаму праяўленьню вялікадзяржаўнага шовінізму, памагаюць у сваю чаргу росту беларускага нацыянал-дэмократызму.

Сваяцтва, агульнасьць клясавых інтарэсаў усіх відаў шовінізмаў у барацьбе супроць іх агульнага ворага — дыктатуры пролетарыяту і соцыялістычнага будаўніцтва, прыводзіць таксама да таго, што вялікадзяржаўны шовінізм конкрэтна ў БССР вельмі часта змыкаецца з беларускім нацдэмократызмам, яскравыя прыклады чаго мы якраз маглі назіраць да нядаўняга часу ў сьценах БАН.

Бязумоўна, вялікадзяржаўныя шовіністы і чорнасоценцы тыпу б. акадэміка Дурново, Даўгяла ды інш., якія ў свой час даводзілі, што беларуская мова ўсяго толькі падмова рускай мовы, у БАН выступаюць у якасьці ярых „абаронцаў“ беларускай культуры, мірна ўжываліся з беларускім нацдэмократызмам, „працуючы“ на карысьць узнаўленьня капіталізму ў БССР.

Калі мы гаворым аб вялікадзяржаўным шовінізьме, як галоўнай небясьпецы, ня варта таксама забываць, што партыяй менш выяўлены і раскрыты ўсе сучасныя вельмі багатыя формы праяўленьня вялікадзяржаўнага шовінізму, у той час, як ідэолёгія і праяўленьні беларускага нацыянал-дэмократызму больш выяўлены і ўскрыты.

Цяпер і пяройдзем да разгляду тых новых форм, у якіх праяўляецца вялікадзяржаўны шовінізм і раней за ўсё да ўсьведамленьня таго факту, чаму іменна вялікадзяржаўны шовінізм цяпер часьцей за ўсё выступае не ў адкрыта чорнасоценнай форме пад лёзунгам „адзінай непадзельнай“, а наадварот, у вельмі тонкіх вопратках уключна да прыкрыцьця сябе інтэрнацыяналізмам.

Негістарычным, а таму няправільным было-б шукаць і бачыць вялікадзяржаўны шовінізм толькі там і толькі ў такіх формах грубага шчырага памешчыцка-капіталістычнага шовінізму, характарнага для былой царскай Расіі.

„Прампартыя“, кандрацьеўцы ды інш. конт-рэволюцыйныя організацыі выяўлялі сабою вялікадзяржаўны шовінізм у яго найбольш ачмурэлай драпежніцка-капіталістычнай форме, бо асноўнай мэтай усёй іх дзейнасьці было аднаўленьне капіталізму ва ўсёй краіне пад гегеміяй рускай буржуазіі. Але і ў гэтым найбольш яркім выпадку адкрыта нават контр-рэволюцыйнымі партыямі не агалашаецца лёзунг „адзінай і непадзельнай“.

Гэта — „скрытае“ праяўленьне вялікадзяржаўнага шовінізму нават у дзейнасьці конт-рэволюцыйных партый, якія змагаюцца нібы толькі за дэмократычную рэспубліку, характэрна наогул для новых завостраных форм клясавай барацьбы, якая адбываецца ў Савецкім Саюзе і мае шмат кроўнага з новымі формамі клясавай барацьбы наогул гінучай буржуазіі.

Так, напрыклад, фашызм, з аднага боку, як найбольш адкрытая і нахабная форма клясавай барацьбы буржуазіі, становіцца найбольш характарным мэтодам дзеяньня сучаснай буржуазіі, але, з другога боку, яўны цынізм клясавых мэтодаў дзеяньня фашызму запраўляецца соцыялістычнай поліўкай (напр., програма Гілераўцаў у Нямеччыне), а таксама гэты фашызм, як нам вядома, вельмі зручна ўмее выкарыстоўваць для сваіх мэт і соцыял-фашыстаў (с-д. у Нямеччыне, ППС у Польшчы).

Падобна гэтаму тое, што вялікадзяржаўны шовінізм у сучасны момант не заўсёды выступае ў шчыра чорнасоценнай форме, а пад маскай нібы рэспубліканскіх „ідэалаў“ Прампартыі ды інш., выяўляе сабою новыя больш утончаныя формы клясавай барацьбы буржуазіі пры дыктатуры пролетарыяту.

Буржуазныя контр-рэволюцыйныя элемэнты, ненавідзячыя цяжкую для іх руку пролетарскай дыктатуры, супроцьстаўляюць ёй дэмократычнае ашуканства буржуазнай рэспублікі (якая па сутнасьці магла-б быць цяпер толькі фашысцкай, чаго не захоўвалі нават „правадары“ Прампартыі, прызнаючыся, што „ў пачатку, яны ставілі сваёй мэтай стварыць вайсковую дыктатуру) відавочна, што гэты „ўшляхетнены“, утончаны вялікадзяржаўны шовінізм рускай буржуазіі і яе падпявалаў, кроўны ўсякага роду сучасным дэмагогічна-„соцыялістычным“ подступам і пэратварэньням фашызму.

Адным словам, сучасны вялікадзяржаўны шовінізм пераймае вышэйшыя мэтоды фашызму ў параўнаньні з ашуканствам клясычнай буржуазна-дэмократычнай рэспублікі XIX веку, якая можа здавацца „нявіннай“ дзяўчынай у параўнаньні з цынічна-шчырымі і адначасова

патончана-завуаляванымі мэтодамі палітычнага дзеяньня сучаснага фашызму.

Такім-жа праставатым зьяўляецца грубы шчыры памешчыцка-капіталістычны вялікадзяржаўны шовінізм пагромшчыкаў „Саюзу Рускага Народу" ў параўнаньні з патончаным „шляхетным" шовінізмам паноў Мілюковых, Кандрацьевых, Тарле і інш.

Адсюль вывад: пасьпяховая барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, як ідэолёгіяй найбольш моцных яшчэ рэштак рускай буржуазіі гораду і вёскі магчыма толькі ў тым выпадку, калі мы вывучаем і выяўляем розныя формы, розныя новыя модыфікацыі вялікадзяржаўнага шовінізму, якія выражаюць сабою новыя формы клясавай барацьбы. Вялікадзяржаўны шовінізм трэба ўскрываць і выяўляць ва ўсіх яго багатых і бедных, тонкіх і грубых вопратках.

Побач з тым, што „Прампартыя", Чаянавы і Кандрацьевы ды інш. у сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці зьяўляліся найбольш яркімі прадстаўнікамі вялікадзяржаўнага шовінізму, як барацьбіты, як ідэолёгі рускай буржуазіі за ўзнаўленьне капіталізму, побач з гэтым, асабліва ў нацыянальных рэспубліках нашага Саюзу, мы маем і іншыя формы праяў актыўнага і пасыўнага вялікадзяржаўнага шовінізму.

Так, напрыклад, у БССР у навуковым профэсарскім асяродзьдзі (Шчапоцьцеў, Вазьнясенскі, Кайгарадаў ды інш.) назіраўся цэлы рад фактаў вялікадзяржаўнага шовінізму як актыўнага, так і пасыўнага характару. Супраціўленьне беларусізацыі, каранізацыі савецкага апарату, росту нацыянальнага пролетарыяту, нежаданьне вывучаць і карыстацца беларускай мовай, як нібы недасканалай мовай, якая належыць да другарадных, ніжэйшых, някультурных моваў, адносіны да беларусізацыі як да вымушанага зла, удзел у замежным рускім вялікадзяржаўным эміграцкім друку (Вазьнясенскі)—усё гэта вельмі „навуковыя" праяўленьні вялікадзяржаўнага шовінізму. Аднак, вялікадзяржаўны шовінізм мае сваіх ідэолёгаў ня толькі у профэсарскім асяродзьдзі. Мы сустракаемся з ім і на нашых фабрыках і заводах, ён асабліва распаўсюджаны ў нашых савецкіх установах і сярод студэнцкай масы. Вялікадзяржаўны шовінізм у сваіх паўзуча-ўстойлівых пасыўных формах праяўляецца тут вельмі часта, у чыста казённых бюрократычных адносінах да беларусізацыі, калі, напрыклад, толькі на афіцыяльных сходах, пасяджэньнях у час афіцыяльных размоў ужываецца беларуская мова, або, што яшчэ часьцей сустракаецца, калі беларуская мова ўжываецца ўпачатку або ўканцы прамовы (а сярэдзінка руская), калі ў масе фактаў сустракаемся з тупым, пасыўным супраціўленьнем беларусізацыі, калі ў моц гэтага беларусізацыя прасоўваецца такімі чарапашымі тэмпамі, што мы яўна маем тут справу з зьявішчамі вялікадзяржаўнага шовінізму, якія ў пасыўна-ўпартай, а часам і актыўнай форме тармазяць, процідзейнічаюць ленінскай нацыянальнай політыцы партыі, жывяць сабою цэлы рад іншых шовінізмаў.

Неразуменьне і нежаданьне зразумець тое, што, напрыклад, правядзеньне беларусізацыі гэта не формальны абавязак кожнага працоўнага БССР, а сур'ёзны політычны абавязак, вымагаючы сур'ёзнага падыходу, бо толькі праз сапраўдны росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьмесьце культур — магчыма інтэрнацыянальная соцыялістычная культура, — неразуменьне гэтага факту ёсьць адзін з горшых і небясьпечных скрытых відаў вялікадзяржаўнага шовінізму.

Вялікарускі шовінізм досыць моцна і разам з тым утончана ў завуаляванай форме (але тым самым больш небясьпечнай) праяўляецца і ў радох нашай партыі. Гэты вялікадзяржаўны шовінізм у партыі

найбольш ярка выяўляецца ў нігілістычных адносінах наогул да нацыянальнага пытаньня, да нацыянальнай палітыкі партыі, пры тым усё гэта прыкрываецца пышным адзеньнем марксыцкай фразэолёгіі (Тэр-Ваганьнян). Ідэолёгія гэтага „комуністычнага“ нігілізму ў адносінах да нацыянальнага пытаньня выяўляецца ў такіх развражаньнях, што мы, комуністы, па сутнасьці, моў, інтэрнацыяналісты, а таму нам прынцыпова дазволены напляваценьскія адносіны, напрыклад, да беларусізацыі, да разьвіцьця беларускай пролетарскай культуры. Карацей кажучы: пад шумок траскучых фраз аб інтэрнацыяналізьме фактычна такога роду інтэрнацыяналізм, асабліва ва ўмовах нацыянальных рэспублік, супроцьдзейнічае ленінскай нацыянальнай палітыцы, адмаўляе нацыянальную форму пролетарскай культуры і па-сутнасьці таксама, як калісьці царскія чыноўнікі, толькі ў іншай „шляхетнай“ форме, насаджаюць вялікадзяржаўны шовінізм.

Пра такіх інтэрнацыяналістаў Ленін у свой час казаў: „Паскрасьці кожнага комуніста і знойдзеш вялікарускага шовініста“.

Яшчэ на VIII зьезьдзе партыі ў адказ на нігілістычныя па форме, а па сутнасьці вялікадзяржаўныя шовіністычныя выступленьні, Ленін падкрэсьліў з усёй сілай патрэбу чулых і сур'ёзных адносін да нацыянальнага пытаньня асабліва ў адносінах да адсталых нацый.

„Башкіры — кажа Ленін — маюць недавер'е да вялікарусаў таму, што вялікарусы больш культурныя і выкарысталі сваю культурнасьць, каб башкіраў рабаваць. Вось чаму ў гэтых глухіх мясцох імя вялікаруса для башкіра значыць „прыгнятальнік“, „ашуканец“. Трэба з гэтым лічыцца, трэба з гэтым змагацца. *Але гэта працяглая рэч* (заключнае слова на VIII зьезьдзе партыі). „Нацыянальныя антыпатыі так хутка ня зьнікаюць, нянавісьць і зусім законная ў нацыі прыгнечанай да прыгнятаючай *застанецца на час*“ (т. XIX, стар. 123).

Такім чынам, да таго часу пакуль у процэсе соцыялістычнага будаўніцтва не сатруцца экономічныя і культурныя рубяжы і няроўнасьць між раней прыгнятаючай вялікарускай і прыгнечанымі нацыямі, ня лічыцца з векамі выхаванай нацыянальнай нянавісьцю прыгнечанай нацыі, ня весьці актыўнай барацьбы за рост нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьмесьце культуры, гэта і значыць, па сутнасьці, праяўляць горшы від вялікарускага шовінізму.

Вялікарускі шовінізм асабліва яшчэ шкодны і палітычна небясьпечны таму, што ён выступае галоўным ворагам складанага дыялектычнага процэсу перарастаньня нацыянальных па форме культур у агульную соцыялістычную і па форме і па зьмесьце культуру. Вялікадзяржаўны шовініст у тозе інтэрнацыяналіста ў радох партыі на першы погляд вельмі „лева“ і „рэволюцыйна“ змагаецца за інтэрнацыяналізм усіх культур і па форме і па зьмесьце, зараз-жа вымагаючы ўводзіць яе (прычым гэтай інтэрнацыянальнай формай зьяўляецца ў яго руская культура) у той час, як поўны інтэрнацыяналізм можа атрымацца ў выніку працяглага пэрыоду росквіту калісьці адсталых культур, чаму фактычна і супроцьдзейнічае вялікадзяржаўны шовінізм.

„Падобна да таго, — піша Ленін, — як чалавецтва можа прыйсьці да зьнішчэньня клясаў толькі праз пераходны пэрыод дыктатуры прыгнечанай клясы, падобна да гэтага і да няўхільнага зьліцьця нацый чалавецтва можа прыйсьці толькі праз пераходны пэрыод поўнага вызваленьня ўсіх прыгнечаных нацый“ (Ленін, т. XIX).

А поўнае вызваленьне прыгнечаных магчыма толькі дзякуючы соцыялістычнай рэволюцыі, у процэсе соцыялістычнага будаўніцтва, ствараючы ўмовы для *росквіту* раней адсталых культур.

„Трэба даць — кажа Сталін — нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае потэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьмесьце культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту ў аднэй краіне для зьліцьця іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зьмесьце) культуру, з адной агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім сьвеце і соцыялізм войдзе ў быт — у гэтым іменна і заключаецца дыялектычнасьць ленінскай пастаноўкі пытаньня аб нацыянальнай культуры“ (Справаздача XVI зьезду).

Вялікадзяржаўны шовініст, пасыўна або актыўна супроцьдзейнічаючы росквіту нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьмесьце культуры, тым самым процідзейнічае сапраўднаму соцыялістычнаму інтэрнацыяналізму культур і па форме і па зьмесьце, бо багаты і поўны росквіт нацыянальных культур *неабходная ўмова* для іх зьліцьця ў адзіную культуру, таксама як ліквідацыя экономічнай адсталасьці ва ўсіх краінах і высокая тэхніка неабходная ўмова поўнай перамогі соцыялізму.

Такім чынам, ясна выражаны, або „ўшляхетнены“, завуаляваны (што яшчэ горш) вялікадзяржаўны шовінізм у самай моцнай ступені, як шовінізм эксплёататарскіх кляс калісьці прыгнятаючай нацы, тармазіць працяглы процэс ліквідацыі экономічнай і культурнай няроўнасьці між раней прыгнечанымі і прыгнятаючымі нацыямі, тармазіць у сувязі з гэтым і зжываньне „самых глыбокіх з дробна-буржуазных забабонаў, іменна: забабонаў нацыянальнага эгоізму, нацыянальнай абмежаванасьці“ (Ленін) гэтых калісьці прыгнечаных нацый.

Разглядаючы вялікадзяржаўны шовінізм, як галоўную небясьпеку, і розныя формы яго праяўленьня, трэба яшчэ падкрэсьліць адну вялізную небясьпеку вялікадзяржаўнага шовінізму, якая заключаецца ў тым, што яго праяўленьні не абмяжоўваюцца, напрыклад, актыўным або пасыўным супраціўленьнем беларусізацыі, росквіту пролетарскай беларускай культуры, але ён здольны выступаць і праводзіць поўную вялікадзяржаўную шовіністычную палітыку і на гаспадарчым фронце, што асабліва небясьпечна. Трэба ўзмацніць бальшавіцкую чуласьць па ўскрыцьці і выяўленьні вялікарускага шовінізму ня толькі там, дзе ён у той ці іншай меры знадворна, ідэолёгічна сябе праяўляе, але і на вельмі сур'ёзным гаспадарчым і іншых фронтох, дзе гэты шовінізм, прыносячы шмат шкоды соцыялістычнаму будаўніцтву, здольны дзейнічаць знадварна бяз усякай вялікадзяржаўнай ідэолёгіі, паволі і сьціха.

Разуменьне вялізнай небясьпекі для справы соцыялістычнага будаўніцтва з боку вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі ў даны пэрыод завостранай клясавай барацьбы, ставіць перад КП(б)Б, як адну з асноўных політычных задач — неабходнасьць ускрыцьця, выяўленьня і барацьбы з рознымі, часам вельмі скрытымі, праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму як у гаспадарчай, політычнай, так і ў культурнай галінах.

Пасьпяховасьць соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсім Саюзе вымагае выяўленьня і жорсткай барацьбы супроць усякіх грубых і тонкіх форм вялікадзяржаўнага шовінізму.

---

**М. М. З.**

# Супроць нацдэмаўшчыны і кандрацьеўшчыны ў навукова-дасьледчай і практычнай працы Бел. Дзярж. С/Г. Акадэміі [1])

Абвостраная клясавая барацьба, якая праходзіць у сувязі з наступленьнем соцыялізму па ўсяму фронту і ліквідацыя кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, знаходзіць адбітак і на ўсіх вучастках навуковага фронту. У процэсе гіганцкага будаўніцтва соцыялізму партыя разаблачае ўсё анты-ленінскае, усё не бальшавіцкае як у тэорыі, так і на практыцы, ускрывае ня толькі ў экономіцы і політыцы, але і на ўсіх тэорэтычных вучастках усё тое, што зьяўляецца выражэньнем супраціўленьня разгорнутаму соцыялістычнаму наступленьню. Гэтае ўскрыцьце ідзе настолькі глыбока, што выкарчоўвае ўсё гнілое, опортуністычнае, анты-ленінскае ў тэорыі, як-бы яно ні было старанна завуалявана і захавана. Становіцца зусім ясным клясавы сэнс гэтых тэорый.

Ускрыцьце за апошні час цэлага раду шкодніцкіх організацый, як „прампартыя“ на чале з Рамзіным, „ТКП“, на чале з Кандрацьевым і Чаянавым, бюро меншавікоў і іх агентура на Беларусі, у прыватнасьці беларуская контр-рэволюцыйная нацдэмаўшчына відавочна паказала, што пад маскай „аполітычнасьці“ і „нэўтральнасьці“ захаваўся твар актыўных шкоднікаў контр-рэволюцыянэраў.

Асабліва яскрава вырысоўваецца контр-рэволюцыйная шкодніцкая праца беларускіх нацыянал-дэмократаў, беларускіх кандрацьеўцаў, якія на працягу раду гадоў вялі падрыўную працу ў БССР, яны імкнуліся ўсімі сіламі сарваць соцыялістычнае будаўніцтва і рэстаўрыраваць капіталізм.

На шляху выкананьня пастаўленых перад сабою контр-рэволюцыйных задач беларуская нацдэмаўшчына ўсімі сіламі імкнулася аўладаць камандными высотамі БССР і на навукова-ідэолёгічным фронце.

Зрабіўшы галоўнай цытадэльлю сваёй працы Беларускую Акадэмію Навук, грунтоўна акапаўшыся ў ёй, нацдэмы паступова пачалі

---

[1]) **Ад рэдакцыі:** Гэты артыкул дае цівавы матэрыял, які характарызуе ўстаноўку і тактыку контр-рэволюцыйных груп у цэнтры сельска-гаспадарчай адукацыі на Беларусі.

К сучаснаму моманту Бел. С/Г. Акадэмія прарабіла значную работу па раскрыцьцю кандрацьеўшчыны і нацдэмаўшчыны. Зьняты шэраг упамянутых у артыкуле рэакцыйных навуковых працаўнікоў і Акадэмія ўмацована (хоць яшчэ зусім недастаткова) навуковымі працаўнікамі комуністамі, якія разам з блізкай нам часткай навуковых працаўнікоў павінны, працягваючы работу па крытыцы старой продукцыі і раскрыцьцю варожых нам поглядаў, умацаваць работу па дадатнай распрацоўцы актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва.

прасоўваць свой уплыў на ўсе галіны навуковай і навукова-дасьледчай працы БССР. Апрача самой Беларускай Акадэміі Навук асноўнымі апорнымі пунктамі іх у гэтым напрамку былі: Беларускі Навудова-Дасьледчы Інстытут, Навуковая Т-ва па вывучэньню Беларусі пры Бел. Дзярж. С/Г. Акадэміі і Беларуская Дзяржаўная С/Г. Акадэмія. Тут яны разгарнулі ва ўсю шырыню і глыбыню сваю „навуковую“ працу. На гэтай іх працы ў Беларускай С/Г. Акадэміі і Навуковым Т-ве пры ёй мы і застановімся.

Трэба адзначыць, што ў сваёй працы беларускія нацдэмы скарыстоўвалі ня толькі свае сілы, але моцна апіраліся і на рэакцыйную частку навуковых працаўнікоў С/Г. Акадэміі—не беларусаў, стварыўшы, па сутнасьці, адзіны ідэолёгічны фронт супроць пролетарскае дыктатуры. Адзінства асноўных установак (стаўка на рэстаўрацыю капіталізму, а адсюль стаўка на кулака, на хутарызацыю, ідэалізацыя мінулага панскай Беларусі і цэлы рад іншых) злучае іх у адно цэлае.

* * *

Аднэй з характэрных рысаў контр-рэволюцыйнай працы беларускай нацдэмаўшчыны зьяўлялася ідэалізацыя старажытнасьці, „слаўнага мінулага“, што знайшло сваяасаблівы адбітак і ў Горацкім І-це і Б. С/Г. Акадэміі. На працягу цэлага раду год у „навуковых“ працах Горацкага Інстытуту ўпарта праводзілася думка, што С/Г. Інстытут, а потым і Акадэмія, створаныя беларускімі рабочымі і працоўным сялянствам у выніку Кастрычнікавай рэволюцыі, павінны зьяўляцца проста працягвальнікамі працы, установак, традыцый і г. д. дарэволюцыйнага Гары-гарэцкага інстытуту, які быў у свой час адчынены „для подготовки управителей имениями“.

Асабліва пастараўся ў гэтым напрамку проф. В. В. Вінэр. Ён піша: „Горецкий с/х. Институт, продолжая традиции первой Высшей Агрономической школы в Горках, развивает на ряду з разносторонней учебной деятельностью работы в области изучения местного х-ва“... (доклад проф. Винера. Труды 1-й Сессии Совета содействия распространению с/х. знаний при. Горецком с/х. Институте — 1924 г., стар. 17).

У другім месцы Вінэр піша: „Горы-Горецкий с/х. Институт, таким образом, унаследовал не только богатые материальные ценности..., которые в наше время не создать при самой большой щедрости, — но и незаменимые культурные... блага, являющиеся результатом 80-ти летней культурной работы, а главное он крепко связан с местным х-вом и с местным населением неисчислимыми персональными узами. Таких крепких уз еще не создала ни одна русская школа и их не создать современным деятелям, пытающимся порвать с прошлым и строить новые школы на неведомых новых принципах, вливая „вино новое в мехи новые“ (Бюл. Горецкого с/х, Института № 1, стар. 5, 1924 г.)

У трэцяй працы проф. Вінэр зноў піша: „Другим средством воссоединения новой школы со старой явится соблюдение наиболее благотворных академических традиций и педагогических приемов, впервые ваработаных Горы-Горецким Земледельческим Институтом“ (Винер — Краткий обзор истории Горы-Горецкого Земледельческого Института. Записки Горецкого с/х. Института, том I—1924 г., стар. 21).

Як бачым, проф. Вінэру не па нутру політыка пролетарыяту, які, узяўшы ўладу ў свае рукі ў Кастрычніку, заняўся пабудовай сваіх пролетарскіх ВНУ, сваіх навукова-дасьледчых устаноў. Проф. Вінэр упэўнены, што пролетарыяту не па плячу гэтая задача і выступае

супроць „современных деятелей“, якія, праводзячы палітыку пролетарыяту, рашуча рвуць з мінулым і будуюць жыцьцё „на невядомых новых принципах, вливая „вино новое, в мехи новые“.

Масьціты профэсар кліча нават к тым традыцыям, тым прынцыпам, на якіх будавала сваю „культурную“ працу школа, якая пастаўлена была рыхтаваць „управителей имениями“. Тут-жа трэба зазначыць, што проф. Вінэр у гэтых „навуковых“ закліках быў не адзінокі. І ён, і ўсе астатнія ніяк не могуць забыць „слаўнага мінулага“. Проф. Вінэру падпяваюць другія навуковыя працаўнікі Акадэміі. Не безьвядомы проф. Пелехаў піша ў сваім артыкуле „К истории опытного с/х. дела в России“ (Запіскі Бел. с/х. Акадэміі, том III — 1927 г., стар. 92):

„Но кроме этого, из всего сказанного вытекают следующие выводы, обязательные, по нашему мнению, для кафедры общей зоотехники с/х. Академии.

1) Кафедра общей зоотехнии должна всемерно стремиться восстановить в 1927 г. те условия для опытной зоотехнической работы, которые были созданы в Горках 72 года тому назад проф. Краузе, иначе говоря, сделать зоотехническую опытную работу независимой от администрации фермы...

2) Кафедра общей зоотехнии должна, поскольку это ее касается, содействовать осуществлению предложений проф. Винера об издании сводного сборника из отчетов старой школы с биографиями важнейших ее деятелей.

3) Кафедра общей зоотехнии должна, поскольку это ее касается, содействовать осуществлению остальных пожеланий проф. Винера, имеющих целью „воссоединение новой школы со старой“, средством чего является „соблюдение наиболее плодотворных академических традиций и педагогических приемов, впервые выработанных Горы-Горецким Земледельческим Институтом“.

Вось і ўсе вывады, якія зрабіў проф. Пелехаў, вывучаўшы гісторыю дасьледчае справы. Аднавіць у 1927 г. тыя ўмовы, якія былі ў Горках 72 гады назад і сьледаваць тым традыцыям, якія выпрацаваў Інстытут таксама 72 гады таму назад. Профэсар усё гэта выконвае добрасумленна і да апошняга часу, як убачым далей.

Трэба адзначыць, што і некаторыя комуністы падпалі пад уплыў контр-рэволюцыйных сіл нацдэмаў і рэакцыйнай часткі профэсуры і сьпявалі ў тон з імі.

Так, М. Ганчарык у артыкуле „Беларуская адраджэнчаская праца Горацкага С/Г. Інстытуту“ (сама назва артыкулу шмат аб чым гаворыць) піша: „як і ў розных галінах навуковай і грамадзкай працы Горацкі С/Г. Інстытут і ў адносінах да беларускага адраджэнчаскага руху зьявіўся працягвальнікам тэй працы, якая была распачата яшчэ ў 40 гадох мінулага стагодзьдзя“ (Бюл. Горацкага С/Г. Інстытуту—1924 г., стар. 13).

Па сутнасьці перапеў таго, што пісаў В. В. Вінэр, з дадаткамі нацыянал-адраджэнчага характару. У 1927 г. Ганчарык зноў далучае свой голас да агульнага концэрту ды яшчэ і з дадаткамі ў разьвіцьцё ранейшага: „Але Гары-Гарэцкі Земляробскі Інстытут (Інстытут часоў 1848—1856 г.—*аўтары)* перш за ўсё зьяўляўся беларускім навукова-агрономічным асяродкам. Тэрыторыяльная належнасьць яго да Беларусі не магла не адзначыцца на тым, што ў сваім творчым поступе наперад ён ужо з першых дзён свайго існаваньня пачаў глыбока ўрастаць у мясцовую глебу, і ня толькі навукова-дасьледчая яго праца ў галіне сельскай гаспадаркі, для якой у гэтых

адносінах прыродна-гістарычныя ўмовы зьяўляюцца рашаючымі, але і ў сваёй навучальнай працы ён зразу абапёрся на мясцовы ўмовы, з цягам часу ўсё глыбей і глыбей зрастаючыся з мясцовай беларускай гаспадаркай як праз асноўны контынгент сваіх слухачоў-студэнтаў, гэтак і праз сваю організацыйна-творчую працу (навуковыя экскурсіі, с./г. зьезды, выстаўкі і інш.), выяўляючы ў гэтым вялікую здольнасьць сваіх выдатнейшых дзеячоў". (Праца навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі, том III,—1927 г. стар. 216). І для Ганчарыка перш за ўсё беларускае. Для яго вельмі важна, што „абапёрся на мясцовыя ўмовы", а якія гэта былі мясцовыя ўмовы, выходзіць, няважна, клясавае зусім выпала.

Далей, па Ганчарыку, стварэньне пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі с./г. Інстытуту, а потым С/Г. Акадэміі ёсьць проста адраджэньне, прычым нават і пераемнасьць захавалася:

„Пасьля зачыненьня Горы-Гарэцкага Інстытуту Беларусь на доўгі час утраціла вышэйшы навукова-агрономічны асяродак і, толькі дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі, ён зноў *адрадзіўся* тут-жа ў Горы-Горках (з 1918 г. па 1925 г., як Горацкі С/Г. Інстытут, а з 1925 г. Беларуская Дзяржаўная Акадэмія С/Г. імя Кастрычнікавае рэволюцыі), прычым пераемнасьць пасьля зачыненьня Інстытуту да яго адраджэньня захавалася існаваньнем увесь гэты прамежны час раду сярэдніх і ніжэйшых с/г. школ і вучэбна-дапаможных устаноў пры іх" (там-жа, стар. 216).

Вось трактоўка політыкі партыі і сав. улады ў галіне народнае асьветы. Якаснае і прынцыповае розьніцы паміж вышэйшай школай царскага часу і пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ён ня бачыць.

На працягу раду год у шматлікіх „працах" цэлы рад навуковых працаўнікоў біліся за тое, каб у Горках рэстаўраваць тыя парадкі, тыя „акадэмічныя традыцыі", якімі жыў у мінулым „славуты" Горы-Гарэцкі Земляробскі Інстытут, „культурная" праца якога вялася „вялікай здольнасьцю выдатнейшых дзеячоў".

Зараз у сьвятле вялізарнейшых дасягненьняў социялістычнага будаўніцтва і абвостранай клясавай барацьбы, якая разгортваецца на шляху гэтага будаўніцтва, у сьвятле выкрыцьця шэрагу контр-рэволюцыйных шкодніцкіх організацый, для кожнага працоўнага зразумела, што гэта ёсьць няшто іншае, як барацьба за парадкі беларускай народнай рэспублікі пана Лёсіка, за парадкі фашысцкага захаду. Але цікава праслухаць саміх „вучоных", што яны разумеюць пад гэтымі традыцыямі, каго разумеюць „пад выдатнейшымі дзеячамі", біографіі якіх зьбіраецца пісаць проф. Пелехаў, портрэты якіх ды і іх саміх (як убачым ніжэй) прапануе проф. Вінэр ушанаваць ганаровым месцам у Савеце Інстытуту.

Дамо слова самому проф. Вінэру, які ў выніку сваёй „навуковай" працы прапануе: „устройство ежегодных академических праздников, приуроченных именно к тому времени и месту, к каким был приурочен годичный акт в Горы-Горецком Земледельческом Институте, а именно к 30 августа старого стиля или 12 сентября нового стиля и к актовому залу главного здания—помещению несравненно более подходящему для всех академических собраний, нежели теперешняя наша канцелярия. Не случайно, быть может, первое собрание Совета Горецкого Сельхоз. Института состоялось 12 сентября 1919 г., хотя и не в том помещении где совершались ежегодно торжественные акты во времена Горы - Горецкого Земледельческого Института".

(Винер — Краткий обзор истории Горы-Горецкого Земледельческого Института. Записки Горецкого с/х. И-та, т. I, 1924 г., стар. 21).

Што-ж гэта за дзень такі, які проф. Вінэр прапануе сьвяткаваць? Што гэта за „традыцыі“, зьвязаныя з гэтым днём? Ізноў тлумачэньне дае сам Вінэр: „Торжественные акты происходили в первые годы 22 августа; с отрытием-же в 1852 году собственной церкви, перестроенной Кампиони и освященной 30 августа, актовый день перенесен на 30 августа и узаконен в 1855 г. по случаю совпадения этого дня с днем празднования тезоименитства царя Александра II-го“ (там-жа, стар. 16).

Значыцца, першае, што прапануе проф. Вінэр па лініі выкананьня „традыцый“ — гэта сьвяткаваць штогод дзень адчыненьня „собственной“ царквы і „тезоименитства“ цара Аляксандра II-га.

Далейшай „прапановай“ проф. Вінэра было: „помещение в зале наших советов портретов всех выдающихся деятелей Горы-Горецкого Земледельческого Института, как педагогов, так и питомцев, создавших славу Института, начиная с И. А. Стебута“ (там-жа, стар. 21).

У другіх працах проф. Вінэр клапаціўся аб тым-жа: „Но долгом нашым по отношению к деятелям Горы-Горецкого Земледельческого Института все-же остается почтить этих деятелей избранием в Коллегию возрожденной школы и так как И. А. Стебут—глубокий старик— 88 лет — единственный оставшийся из педогогической корпорации Горы-Горецкого Земледельческого Института, то сегоднешнее торжественное собрание, посвященное возрождению Горы-Горецкого Института, мы должны ознаменовать избранием И. А. Стебута первым почетным членом Института...“ (В. Винер — Деятельность А. И Стебута. Записки Горецкого с/х. И-та, т. I, 1924 г., стар. 33).

Але, чаму гэта трэба шанаваць Стэбута і іншых „дзеячоў“, старай Горацкай школы? Чаму аб гэтым так клапаціцца проф. Вінэр? Чаму проф. Пелехаў усьлед за Вінэрам збіраецца пісаць біографіі іх? Чым-жа слаўны гэтыя „дзеячы“, хто яны былі?

Аб гэтым сведчыць гістарычная даведка, з якой можна бачыць, што ў час падаўленьня паўстаньня 1863 г. Стэбут быў уведзен у склад камісіі пад старшыньствам генэрала Полаўцава, спэцыяльна прыехаўшага ў Горкі дасьледваць справу паўстанцаў. Другому „дзеячу“, проф. Бальену (портрэт якога можна было ўбачыць, нават зусім нядаўна, у габінэтах Акадэміі) сьледчай камісіяй было даручана праверка кніг, затрыманых у кватэрах вучняў Інстытуту пасьля пошукаў. У тэй-жа час спэцыяльнымі тэлеграмамі паведамлялася, што „дамы профэсароў Краўзе і Стэбута, якімі і Зеляной (былы міністар— *аўтары)* асобна цікавіўся, не пацярпелі“.

Як бачым і Стэбут і Бальен — душыцелі паўстаньня, актыўныя ўдзельнікі сьледчай камісіі. Але гэта, мусіць, і было прычынай іх ушанаваньня, аб чым яшчэ і яшчэ раз клапаціўся Вінэр, які сам называў сябе „адним из последних учеников Стебута“, „прямым его преемником по кафедре земледелия в Горках“.

Паданыя выняткі далёка ня вычэрпваюць усяго таго, што казалася, пісалася і рабілася ва ўмовах працы Горацкага Інстытуту і потым Акадэміі нацдэмамі разам з рэакцыйнай часткай профэсуры ў адным і тым-жа напрамку: павярнуць кола гісторыі назад, назад к цару Аляксандру, графу Кісялёву—„благодетелю Горы-Горецкого Института“ (Вінэр). Назад к „традыцыям“ царскіх сьледчых—Стэбута, Бальена і інш. Вось тэй шлях, па якому марылі „возродить“, „вос-

соединить“ Горацкі С/Г. Інстытут і ўсю яго працу проф. Вінэр, Пелехаў і інш. у поўным контакце з нацдэмамі.

Але гэтыя рэстаўратарскія імкненьні, гэтыя мары аб аднаўленьні панска-кулацкага „культурнага“ асяродку ў Горках не засталіся толькі марамі. Гэта толькі адзін з першых этапаў іх працы ва ўмовах Горацкага Інстытуту. Далейшая праца Інстытуту і, нават, с/г. Акадэміі да апошняга часу сьведчыць аб тым, што гэтыя ўстаноўкі, гэтыя мары ўпарта ажыцьцяўляліся, упарта і пасьлядоўна праводзіліся ва ўсёй навуковай і навукова-дасьледчай працы. Ужо адно тое, што значная частка артыкулаў, якія зьмяшчаліся і ў Запісках Горацкага С/Г. Інстытуту, і ў Запісках Навуковага Т-ва, і ў іншых выданьнях за гэты час былі прысьвечаны пытаньням мінуўшчыны, сьведчыць, што заклікі ператвараліся ў рэальныя вынікі пры правядзеньні „навукова-дасьледчай“ працы, якая насіла яўна рэстаўратарскі, а падчас і яўна контр-рэволюцыйны, шкодніцкі характар.

* * *

Разам з тым, як вялізарнейшымі тэмпамі ідзе нарастаньне дасягненьняў у справе соцыялістычнай перабудовы народнае гаспадаркі, разам з тым, як на базе індустрыялізацыі краіны дробна-індывідуальная вёска БССР і ўсяго СССР пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго авангарду комуністычнай партыі ператвараецца ў краіну соцыялістычных гаспадарак, разам з гэтым і клясавая барацьба, абвастраючыся, набывае новыя формы. Зьмяняюцца формы клясавай барацьбы і на навукова-ідэолёгічным фронце.

Гэта можна бачыць і на прыкладзе Горацкага С/Г. Інстытуту і С/Г. Акадэміі. Калі першыя часы існаваньня Інстытуту, як мы бачылі раней, галоўная ўвага нацдэмаўска-рэстаўратарскай „навукова-дасьледчай“ думкі накіроўвалася на пытаньні „мінуўшчыны“, на пытаньні „адраджэнцтва“, дык далей паступова гэтыя мотывы зьмяншаюцца, але за тое ўсё больш і больш можна знайсьці „навукова-дасьледчых“ прац, якія ствараюць культ вакол кулака, вывучаюць ужо ня мінулае, а сучаснага кулака, апранаюць яго ў тогу культурніка-дасьледчыка, даводзяць аб неабходнасьці і неадкладнасьці хутарызацыі, словам у больш ці менш адкрытай форме б'юцца за кулацкую вёску. Формы барацьбы зьмяняюцца, прыстасоўваюццца да конкрэтных умоў часу, але сутнасьць яе застаецца тая-ж.

Контр-рэволюцыйная лінія нацдэмаўшчыны, лінія рэстаўрацыі капіталізму ў БССР, асабліва яскравы адбітак знайшла ў дзейнасьці Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі пры Беларускай Дзярж. С/Г. Акадэміі, якое было ня толькі юрыдычна Сэкцыяй Інбелкульту, БАН і субсыдавалася апошнімі, але і па сутнасьці яно зьяўлялася апорным пунктам беларускай кандрацьеўшчыны.

У друку даволі яскрава высьветлена праца БАН і ўскрыты тыя контр-рэволюцыйныя ўстаноўкі ў працы, якія там былі, і мы тут на іх застанаўлівацца ня будзем. Навуковае Т-ва мела тую-ж самую мэтаімкненнасьць у працы—абгрунтаваньне з „навуковага“ боку праз дасьледчую працу практычнай прышчэпаўшчыны. Калі політыка хутарызацыі Прышчэпава зьяўлялася ня чым іншым, як працягненьнем сталыпінскай політыкі царскага ўраду, інакш кажучы, была накіравана на рост і разьвіцьцё кулака, на аднаўленьне капіталістычнага ладу, дык Навуковае Т-ва на адпушчаемыя пролетарскай дзяржавай сродкі надта старанна падводзіла пад гэтую політыку „навуковы“ грунт — гэта з аднаго боку, а з другога — шырока папулярызавала паасобныя

кулацкія гаспадаркі. Па сутнасьці ўсе працы Навуковага Т-ва, якія былі выпушчаны, прасякнуты гэтай прышчэпаўшчынай. Аб гэтым мы можам даведацца адразу, калі прагледзім справаздачу Навуковага Т-ва толькі за 2 гады. З іх відаць, што на хутары Фатынь у кулацкай гаспадарцы Я. Мароза ставяцца стацыянарныя досьледы па ўгнаеньнях, праводзяцца досьледы цэлай катэдрай (удзел прымае 5 навуковых працаўнікоў) па с/г. экономіцы, па садоўніцтву, вывучаюцца глебы хутару, робяцца дасьледваньні па садоўніцтву-ж у кулацкай гаспадарцы А. Сыцько і г. д.

Мэтавая ўстаноўка беларускай кандрацьеўшчыны на буржуазную рэстаўрацыю ў БССР, на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі Беларусі па капіталістычнаму шляху знайшло надта выразны адбітак у самых об'ектах дасьледваньня, але яшчэ выразьней гэта відаць са зьместу гэтых прац. Вось, к прыкладу, возьмем працы проф. Бурштэйна. Ён друкуе сваю „навуковую" працу — „Вынікі 50-ці гадовае дасьледчае працы Я. К. Мароза ў садоўніцтве". Другога об'екту дзеля сваіх „навуковых" досьледаў ён не знайшоў, хоць, дарэчы сказаць, гэта зусім не выпадкова: ён надта старанна „дасьледваў" кулацкія гаспадаркі ў Мазыршчыне, Гомельшчыне, Случчыне і Аршаншчыне, аб чым можам убачыць у яго другіх працах (Асновы пладоўніцтва Беларусі, выд. 1929. Працы Навуковага Т-ва, том V — 1929 г., Матэрыялы экспэдыцыі па вывучэньні пладоўніцтва Гомельшчыны, выд. 1929 г.) У сваёй „навуковай" працы проф. Бурштэйн вось што пісаў: „Упартай воляю 4-пакаленьняў Марозаў створан дзіўны куток гаспадарнасьці і характва, дзе сады з яблынь і груш мяжуюцца з лісьцьвеньніцай, туяй з іншымі пародамі. Далей гароды, нівы, пералескі, сенажаці, сажалкі" (Працы Навуковага Т-ва, т. I, 1926 г., стар. 20).

Проста аж захапляе! Атрымоўваецца ня толькі „навуковая" праца, але нават і поэзія. Тут толькі аднае „дробязі" проф. Бурштэйн ня хоча заўважаць, што „ўпартай воляю" гэтыя куткі характва не стваралiся, што яны створаны потам і крывёю эксплёатаваных батракоў. Але-ж дзеля профэсара гэта зусім ня важна: у яго задачу растлумачваць гэтае не ўваходзіла. Ён выконваў заказ кулака.

Далей з асобай сілай робіцца ўпор на буржуазныя і, па сутнасьці, контр-рэволюцыйныя тэорыі аб організуючай ролі гаспадара. Вось, што ён піша: „роля організуючага гаспадара ў асобе Язэпа Кандратавіча выступае да апошняга часу рашуча. Ён усім загадвае, з ім радзяцца ва ўсіх пытаньнях", і далей — „Язэп Кандратавіч па натуры дасьледчык, садавод-памолёг" (там-жа).

Значыць там, дзе няма гэтай організуючай ролі гаспадара, само сабой разумецца, гаспадара - ўласьніка, там ня можа быць і створан куток „гаспадарнасьці і характва". І калі ў найбольш адкрыта-варожых дыктатуры пролетарыяту вучоных мы знаходзім простае паказаньне, што буйная колектыўная гаспадарка немагчыма, дык тут мы маем тое самае толькі ў больш завуаляванай форме. „Наш „вучоны" па ўсёй БССР" наладзіў сувязь з гэтымі „дасьледчыкамі"-кулакамі, надта клапаціцца аб ахове гэтых гаспадарак. Пасьля доўгага разважаньня аб каштоўнасьці гэтых гаспадарак і тых заслугах у дасьледчай працы, якія маюць уласьнікі гэтых гаспадарак, ён высоўвае патрабаваньне. „Сады выключнага значэньня павінны быць зарэгістраваны, а садаводаў-дасьледчыкаў трэба забясьпечыць ахоўнай граматай" (Том V, Праца Навуковага Т-ва, 1928 г., стар. 182).

Такое патрабаваньне зусім зразумела. Трэба „ратаваць гаспадарку" і ўжо-ж, вядома, ні ад каго іншага, як ад мясцовых органаў дыктатуры

пролетарыяту. Кулаку патрэбен пакой і магчымасьць разгортваць і далей эксплёатацыю. У часы Прышчэпава гэтых ахоўных грамат проф. Бурштэйн і дабіваўся...

У адзін голас з проф. Бурштэйнам цягне і проф. Пелехаў ужо ў 1929 г. „У сувязі з тым, што ў гаспадарках заможных маецца вялікая колькасьць мэтыснай скаціны і іх быдла наогул каштоўней па ўдоі, крайне пажадана, каб ад скаціны заможных гаспадарак па магчымасьці больш захоўвалася цялят для расплоду. У выніку чаго, з пункту гледжаньня інтарэсаў народнай гаспадаркі, пажадана было-б падатковай політыцы даць такі напрамак, каб справе выгадаваньня маладняку ў заможных гаспадарках не рабілася перашкод“... (Працы Б. Н. Д. І., 1929 г., том XXVIII, стар. 62. .... Пелехаў і Сьвіршчэўскі — Матар. экспэдыцыі і г. д.).

Проф. Пелехаву таксама не падабаецца політыка савецкай улады ў процэсе социялістычнага будаўніцтва, накіраваная супроць капіталістычных элемэнтаў вёскі. Яго „навуковыя“ пажаданьні накіраваны натое, каб абярнуць гэтую політыку ў дыямэтральна-супроцьлеглы бок, у бок рэстаўрацыі кулацка-капіталістычнага разьвіцьця вёскі БССР. Ізноў не выпадкова абгаварыўся проф. Пелехаў. Крыху раней у 1927 г. ён так „навукова“ абгрунтаваў шляхі разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР: „Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі Беларусі ў значнай меры будзе залежаць ад таго, наколькі меркаваньні Дзяржпляну і Акрплянаў будуць адпавядаць грунтоўнаму ўхілу сельска-гаспадарчай эволюцыі краю. Дзеля таго, каб зразумець гэты ўхіл, патрэбна вывучэньне мінулага с/гаспадаркі; бяз гэтага мы ня можам уявіць сабе яе сучаснасьць і прадбачыць будучыны“. (Н. Н. Пелехаў — Сялянскае каняводзтва і г. д. Праца Навуковага Т-ва, том II, 1927 г., стар. 1).

Але што гэта за „грунтоўны ўхіл“ разьвіцьця сельскай гаспадаркі, па якому павінна раўняцца праца Дзяржпляну? На гэта проф. Пелехаў тут-жа і адказвае: „Нашы меркаваньні аб конягадоўлі ня толькі Менска-Слуцкага, але і ўсіх іншых раёнаў Беларусі, угрунтаваныя на даных 1888—1912 гг., маюць пэўнае значэньне для сучаснага моманту, калі прыняць пад увагу тую асаблівасьць сельскае гаспадаркі БССР, аб якой Доўнар-Запольскі ў адным з сваіх артыкулаў піша: „гаспадарка (БССР), якая аднаўляецца, мае тыя-ж самыя тэндэнцыі, якія праяўляліся і ў даваенны час“ (там-жа, стар. 22). Якімі гарачымі пацалункамі абменьваецца проф. Пелехаў з нацдэмамі і з кандрацьеўцамі ў сваіх шкодніцкіх установках на рэстаўрацыю капіталізму ў сельскай гаспадарцы БССР. Яшчэ значна раней за Бурштэйна і Пелехава проф. Вінэр пісаў: „Чтобы догнать Западно-Европейскую мысль, необходимо пережить все то, что пережито там“.

Удзячныя вучні сваіх профэсароў нацдэм-кандрацьевец Б. Бойка, а з ім і М. Дуброўскі ў далейшым па ўказцы і пад кіраўніцтвам контр-рэволюцыянэра Кісьлякова працягваюць разгортваць гэтыя ўстаноўкі.

Так Дуброўскі піша: „ня менш важным зьяўляецца пытаньне экспорту. Як у краіне кожная гаспадарчая адзінка павінна быць уцягнута ў грашовы таварны зварот, гэтак і ўся народная гаспадарка павінна быць уцягнута ў сусьветны гаспадарчы зварот. Паколькі-ж Беларусь старонка амаль што выключна сельска-гаспадарчая, вядома, што толькі сельская гаспадарка можа стварыць экспортны фонд, патрэбны для аздараўленьня замежнага гандлю і вырашэньня валют-

нага пытаньня. Такім чынам, паміж сельскай гаспадаркаю і іншымі галінамі народна-гаспадарчай дзейнасьці павінна ўстанавіцца тая арганічная сувязь, на якой будзе будавацца ўвесь далейшы дабрабыт нашай заняпаўшай старонкі". (М. А. Дуброўскі—„Сялянскія заработкі і г. д." Праца Навуков. Т-ва, том II, 1927 г., стар. 132).

Дaслоўна тое-ж самае сьцьвярджаў і Бойка: „Гэткім чынам задача падніманьня вытворчай моцы Саюзу ўпіраецца ў імпорт, а разьмеры апошняга залежаць ад валютных фондаў і, у канцы канцоў, ад экспорту. А наш экспорт грунтуецца, галоўным чынам, на с/г. продукцыі, якая паступае ў падаўляючай колькасьці ад сялянскай гаспадаркі. З вышэй паданага ўжо ясна тая паважнасьць, якую мае разьвіцьцё таварна-грашовых менавых адносін у сялянскай гаспадарцы. Калі-ж да гэтага дадаць, *што толькі на разьвіцьці таварна-грашовых менавых адносін у сялянскай гаспадарцы ствараецца магчымасьць яе спэцыялізацыі, машынізацыі, рацыяналізацыі* і коопэраваньня перш у галіне збыту і закупак, а потым і самага вырабу, а таксама ўтворыцца ўнутраны рынак на прамысловыя тавары і забясьпека с/г. сыравінай прамысловасьці, дык значэньне памянёнага процэсу пакажацца яшчэ больш пукатым". (Б. С. Бойка—„Будова рыначнай часткі бюджэту і г. д."—1927 г. Праца Навук. Т-ва, том II, стар. 98).

Мы прывялі гэтыя вытрымкі поўнасьцю дзеля таго, каб паказаць агульнасьць іх орыентацыі і ўстановак. Як бачым, шлях разьвіцьця народнай гаспадаркі вымалёўваецца наступным чынам. Перш за ўсё „аздараўленьне" замежнага гандлю і ўцягненьне гаспадаркі БССР „у сусьветны гаспадарчы зварот" праз с/г. экспорт, які „грунтуецца *на с/г. продукцыі ад сялянскіх гаспадарак"*. Гэтыя мотывы ўжо апошняе слова кандрацьеўскай тактыкі, якая тым самым імкнулася „аздаравіць" монополію замежнага гандлю СССР, так каб у выніку краіна Саветаў абярнулася ў с/г. колёнію сусьветнага капіталу. Другое—гэта шляхі пабудовы „ўсяго далейшага дабрабыту нашай заняпаўшай старонкі" ўнутры краіны.

Нацдэму Бойка трэба давесьці, што „толькі на равьвіцьці таварна-грашовых менавых адносін у сялянскай гаспадарцы ствараецца магчымасьць яе спэцыялізацыі, рацыяналізацыі, машынізацыі і коопэраваньня". У адзін голас з ім сьпяваў і Дуброўскі: „Адначасна з інтэнсыфікацыяй сельскае насельніцтва разаўе сваю пакупную здольнасьць і разам з тым пашырыць унутраны рынак для збыту індустрыі. *Толькі такім спосабам на рынку* можа адбыцца народна-гаспадарчае злучэньне паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркаю. *Без аднаўленьня і пашырэньня ўнутранага рынку ня можа быць аднаўленьня прамысловасьці"* (там-жа, стар. 132).

„Сам" Кандрацьеў у гэты-ж час, кажучы аб нашых цяжкасьцях росту і дыспропорцыях, казаў: „магли ли они иметь место в силу чисто стихийно-рыночных условий? Нет—не могли... очевидно, что здесь действовали какие то другие силы. Эти силы у нас можно связать только с воздействием на народное х-во мероприятий планового характера с мероприятиями проводимыми в порядке рукоздства народным х-вом".

Нацдэмы, як і кандрацьеўцы добра ведалі, якая „сялянская гаспадарка", застаючыся індывідуальнай гаспадаркай, давала заказ сваім ідэолёгам біцца за вольную стыхію рынку ў той час, калі політыка партыі і ўраду была накіравана на абмежаваньне гэтай стыхіі, на падпарадкаваньне яе плянаваму кіраўніцтву народнай гаспадаркі. З паданых вытрымак яскрава выпірае твар кулака і ў разуменьні

„машынізацыі“, „аднаўленьня прамысловасьці“ і г. д. Кандрацьеўшчына ўвесь час рашуча вяла барацьбу супроць палітыкі пралетарыяту, накіраваную на ператварэньне адсталай аграрнай краіны ў індустрыяльна-аграрную, вяла барацьбу супроць індустрыялізацыі краіны саветаў і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі на базе вядучай ролі індустрыі. Кандрацьеўцы „згаджаліся“ з індустрыялізацыяй пастолькі, паколькі неабходны былі вырабы адпаведнай прамысловасьці для хуткага разьвіцьця кулацкай гаспадаркі. „Толькі праз рынак можа быць аднаўленьне прамысловасьці“—заклікае Дуброўскі. Толькі праз разьвіцьцё таварна-менавых адносін ствараецца магчымасьць машынізацыі — кліча Бойка. Замест вядучай ролі індустрыі—стаўка на падпарадкаваньне яе адсталай сельскай гаспадарцы праз вольную стыхію рынку. Ізноў у адзін вузел зьвязваецца і беларуская нацдэмаўшчына, кандрацьеўшчына і правыя опортуністыя. Контр-рэволюцыйная сутнасьць падобных заклікаў зараз выкрыта перад шырокімі працоўнымі масамі Саюзу і БССР.

Крыху раней у працах „навукова“ даводзіліся наступныя пэрспэктывы машынізацыі ў сельскай гаспадарцы. „Введение машин будет в таком случае не увеличением дохода крестьянского х-ва, а увеличением расхода“ (арт. проф. Грыгор‘ева—„Думы об устройстве крестьянского х-ва“ ў часопісе „Белорусский хозяин“ под редакц. проф. Винера). Там-жа чытаем: „на долгое время придется ограничиться в крестьянском х-ве применением самых простых машин и орудий, без которых действительно нельзя справиться крестьянину на той площади, которая находится в его распоряжении“. І далей: „но все же для посева лучше брать семена ручной молотьбы, а не машинной, так как машинная молотьба дает много битых зерен“ (Блесфельд—„Каким зерном сеять“—там-же).

Аўтары „навукова“ паказваюць „шлях“ узьняцьця дабрабыту асноўных мас сялянства: „Гораздо скорее, легче и свободнее может быть достигнуто увеличение трудовых затрат“ (Грыгор‘еў—там-жа). І далей: „Конечно было бы лучше, если бы можно было увеличить доход х-ва с одновременным увеличением досуга и отдыха, а не путем увеличения труда. Но к сожелению это возможно только в прекрасной сказке о лучшем будущем!“ (там-жа). І яшчэ: „А в настоящее трудное время тому из земледельцев, хто хочет улучшить свое питание, кто хочет действительно удовлетворить свои самые необходимые потребности, тому придется трудиться больше, чем он трудится в настоящее время“. (Грыгор‘еў—там-жа).

Устаноўка зусім ясная: сельская гаспадарка БССР павінна ісьці тымі-ж шляхамі, якія былі ёй прадпісаны 100-гадовымі „традыцыямі“ „лапцюжнай, сярмяжнай, вялікаджяржаўнай Русі“. У выніку Кастрычнікавай рэволюцыі для асноўных мас беларускага сялянства пэрспэктыва па Грыгор‘еву малявалася толькі адна—„трудиться больше, чем в настоящее время,“ чакаючы „прекрасной сказки будущего“, ня выходзячы за вароты дробнай індывідуальнай гаспадаркі. У сьвятле дасягненьняў сёнешняга дня ў справе соцыялістычнай перабудовы с/гаспадаркі, калі пастаўлена конкрэтная задача дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-экономічных адносінах на працягу бліжэйшых 10 год—гэтыя „навуковыя“ пэрспэктывы гучаць анэкдотам, але ў свой час сваю контр-рэволюцыйную шкодніцкую справу яны рабілі.

Котр - рэволюцыйная нацдэмаўшчына, беларуская кандарацьеўшчына, у адпаведнасьці з сваёй асноўнай мэтаю—аднаўленьне кулацка-

капіталістычнай с/гаспадаркі ў БССР—усімі сіламі імкнулася стварыць і адпаведныя гаспадарчыя формы для яе (хутар, дробны пасёлак).

Горацкі С/Г. Інстытут, Акадэмя і Навуковае Т-ва пры іх і тут былі на перадавых „позыцыях". І навуковыя працаўнікі, а пад іх кіраўніцтвам і студэнцтва, выконваючы заказ кулака, актыўнейшым чынам на працягу раду год насаджалі хутары, пасёлкі, „тэорэтычна" абгрунтоўвалі рацыянальнасьць толькі хутарской, толькі пасялковай формы землякарыстаньня. Вынікі гэтай дзейнасьці нават і зараз даюць сябе адчуваць па Горацкаму р-ну, у якім у пасьлярэволюцыйны час хутароў было з'організавана больш, чымся ў часы сталыпіншчыны. Нават і зараз пры правядзеньні колектывізацыі гэтая спадчына перашкаджае ўсёй працы.

У „Трудах первой Сессии содействия распространению с/х. знаний при Горецком с/х. Иституте" ў 1924 г. мы чытаем у дакладзе Сямёнава аб удзеле агрономічнага гуртка ў распаўсюджваньні с/г. ведаў сярод насельніцтва:

„Принято шефство над несколькими деревнями Горецкого уезда, и студенчество под руководством членов агрокружка організует х-во подшефных граждан, вышедших на хутара". Інстытут ня толькі організуе гаспадаркі грамадзян, якія вышлі на хутары, але актыўна займаецца і насаджэньнем саміх хутароў: слухае даклады на гуртку „об организации хуторского хозяйства" і г. д. Кіраўнікі дасьледчай справы лічаць сваім абавязкам організацыю хутарской гаспадаркі.

У далейшым падрыўная праца ўсёй прышчэпаўшчыны па лініі стварэньня кулацкіх хутароў і пасёлкаў усё больш і больш патрабавала сваёй „тэорыі", свайго „навуковага" ўгрунтаваньня, якое-б супроцьстаяла ленінскім прынцыпам соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі БССР. І на гэтым вучастку падрыўнай працы зноў „консолідуюцца" сілы нацдэмаўшчыны, сілы беларускай кандрацьеўшчыны разам з вялікадзяржаўнымі „вучонымі" зубрамі. Цэлы шэраг „навукова-дасьледчых" прац вядзецца з гэтаю мэтаю, пачынаючы з самага Кісьлякова з яго „Пасёлкамі". Напрыклад, нават у такой працы М. Е. Кавалёва, як „Прыродна-гістарычныя і экономічныя прадпасылкі забясьпечаньня вадою сялянскіх гаспадарак Горацкага раёну", чытаем: „Прыведзеныя даныя даюць магчымасьць таксама вызначыць у кожным выпадку выгоднасьць адзіночнага, ці колектыўнага карыстаньня вадою, а, значыцца, як нам здаецца, могуць мець і жыцьцёвае значэньне ў рашэньні некаторых пытаньняў пры складаньні землязначэньне ўпарадкоўчага проекту". (Працы Навук. Т-ва, том IV, 1927 г., стар. 195).

І далей: „Пры апісаных умовах у Горацкім раёне пры глыбіні калодзежу да 10 саж. найбольш рацыянальна стварэньне пасёлку ў 6 двароў" (там-жа, стар. 196).

Як бачым, нават усе прырода-гістарычныя і экономічныя прадпасылкі праз забесьпячэньня вадою патрабуюць стварэньня пасёлку ня больш, як у 6 двароў. Прыклад таго, як „чыстая" навука—геолёгія — ставіцца на службу прышчэпаўшчыне. Другая праца, якая ўся прасякнута чаянаўска-кандрацьеўскай мэтодолёгіяй—праца А. Я. Камінскага („Да пытаньня аб чакаемым эфэкце земляўпарадкаваньня ва ўмовах Беларусі"), у вывадах сьцьвярджае: „Зьвядзеньне зямель да аднаго месца зьяўляецца карысным, галоўным чынам, для малазямельных (бядняцкіх) гаспадарак, якія больш усіх пакутуюць ад расківанасьці іх невялікіх на плошчы кавалкаў зямлі". І далей—„вызваленьне ініцыятывы перадавых гаспадароў зьявіцца стымулам да

інтэнсыфікацыі, а прыклад передавых будзе падхлёстваць і іншую масу" (Праца Навук. Т-ва, том V, 1928 г., стар. 240).

Словам хутар, пасёлак вымагаюцца прыродна-гістарычнымі і эканомічнымі прадпасылкамі; хутар, пасёлак—стымул да інтэнсыфікацыі ўсёй масы сялянства", бо яны вызваляюць „ініцыятыву передавых гаспадароў", чытай—кулакоў. Але характэрна тое, што гэтыя шкоднiцкія прышчэпаўска-кісьлякоўскія „тэорыі", прыстасоўваючыся да ўмоў таго часу, сваю стаўку на насаджэньне кулацкіх хутароў і іх гнёзд-пасёлкоў маскуюць інтарэсамі ні-бы та бядняцкіх гаспадарак, як піша аб гэтым Камінскі. У гэтым-ж час і проф. Пелехаў, абараняючы кулацкія гаспадаркі і расплод жывёлы ў іх ад падатковай політыкі сав. улады, матывуе гэта інтарэсамі „народнае гаспадаркі ў цэлым" і ў першую чаргу... бядняцкіх гаспадарак. Клясавы вораг у сваёй барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту маскуецца, прыстасоўваючы формы сваёй барацьбы да конкрэтных умоў, ні на хвіліну не зьмяняючы зьместу яе.

Цэлы рад іншых аўтараў у сваіх працах маюць, па сутнасьці, адну і тую-ж мэтаімкненасьць—„навукова" давесьці, што адзінарацыянальнай з усіх пунктаў гледжаньня формай разгортваньня вытворчых сіл сельскай гаспадаркі БССР зьяўляецца хутар-пасёлак, прычым адначасова ўпарта ігноруюцца, упарта замоўчваюцца дасягненьні і посьпехі саўгасна-колгаснага будаўніцтва, якое ўсё больш і больш разгортваецца, ня гледзячы на ўпартую шкодніцкую падрыўную работу нацдэмаў, кандрацьеўцаў, прышчэпаўцаў—контр-рэволюцыйных сіл „консолідаваўшых" на гэтым фронце.

Далейшы пэрыод контр-рэволюцыйнай працы „вучоных" шкоднікаў ідэолёгаў кулацка-капіталістычнай рэстаўрацыі трэба аднесці да самага апошняга часу—1929-1930 г. Вялізарнейшыя дасягненьні рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас пад кіраўніцтвам КП(б)Б па лініі соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі БССР, па лініі пэратварэньня краіны з адсталай аграрнай Беларусі ў краіну індустрыяльна-аграрную, па лініі саўгасна-колгаснага будаўніцтва — становяцца відавочнымі і для „вучоных" шкоднікаў. Гэта прымушае іх ізноў „на хаду" зьмяняць форму свайго змаганьня. Ад ранейшай больш ці менш адкрытай стаўкі на кулака, стаўкі на хутарызацыю, ад ранейшага замоўчваньня і ігнараваньня посьпехаў саўгасна-колгаснага будаўніцтва, паступова робіцца пераключэньне на новую тактыку, новыя формы змаганьня. Зьмест гэтай тактыкі, па-першае, заключаецца ў тым, што ўсе сілы накіроўваюцца на тое, каб, бяручы як факт узмацніўшыйся соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, перарабіць яго ў кулацка-коопэрацыйныя гнёзды, пусьціць кулака ў колгасы, бо ён „багаты ініцыятывай, альбо капіталам" (Пелехаў), накіраваць усю працу коопэрацыйна-колгаснай сеткі на абслугоўваньне гэтых кулацкіх аб'яднаньняў. Асабліва ясна гэта выявілася ў працах проф. Пелехава „Матэрыялы экспэдыцыі па вывучэньні буйнае рагатае жывёлы сялянскіх гаспадарак і г. д.", якая выдана ў 1929 г. У гэтай працы проф. Пелехаў „навукова" даводзіць: „У коопэрацыю заўсёды першымі ідуць гаспадаркі найбольш багатыя ініцыятывай, альбо капіталам, натуральна, што такія гаспадаркі больш успрыймальны ад іншых да ўсякага роду мерапрыемстваў і гэтую іх асаблівасьць неабходна скарыстаць агрономам. Па гэтаму пажадана, каб асыгнаваньні на мерапрыемствы агродапамогі з боку коопэрацыйных організацый былі павялічаны—тут сродкі, выдаткаваныя на дапамогу, зьяўляюцца найбольш эфэктыўнымі.

Няпрыкрытая стаўка на разьвіцьцё кулацкай гаспадаркі праз „коопэрацыю“. Больш таго ў профэсара хапае нагласьці зьвяртацца з заклікам у 1929 г. да коопэрацыйных організацый БССР, каб апошнія аказвалі большую дапамогу кулацкім гаспадаркам, з заклікам да савецкіх агрономаў, каб апошнія разгортвалі кулацкія коопэрацыйныя гнёзды.

Проф. Пелехаў „ня супроць“ коопэрацыі, колектывізацыі і г. д. Але ён за тое, каб гэтая коопэрацыя была на службе кулака. І зноў мы бачым змычку проф. Пелехава, які раней заклікаў да вялікадзяржаўных „традыцый“ Земляробскага Інстытуту, які раней зьбіраўся пісаць біографію царскіх сьледчых, бачым змычку яго з беларускай контр-рэволюцыйнай кандрацьеўшчынай, з яе кулацка-рэстаўратарскімі імкненьнямі.

Другім прыкладам новай тактыкі кандрацьеўшчыны зьяўлялася дыскрэдытацыя колгаснага будаўніцтва. Кулацкія ідэолёгі ўсваіх „навуковых“ працах імкнуліся давесьці, што па сваёй сутнасьці колгасы, вытворчыя коопэрацыйныя аб'яднаньні справа ня новая, што і раней, у царскай Расіі, зародкі іх ужо мелі месца. З другога боку, тыя-ж працы даводзілі, што нашы саўгасы і колгасы—формы соцыялістычнай сельскай гаспадаркі—маюць свайго аналёга ў сучасных капіталістычных краінах (Нямеччыне, Прусіі і г. д.), але з той розьніцай, што ў краіне саветаў у гэтыя колгасы бядняцка-серадняцкія масы сялянства прымусова заганяюцца, а „культурны“ капіталістычны захад выходзіць з добраахвотнасьці. У гэтым напрамку „працаваў“ у Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі небезьвядомы шкоднік кандрацьевец проф. Хайке—удзячны вучань Сталыпіна. Вось што ён друкуе ў 1929 г. у Запісках Акадэміі: „Нельзя скрывать от себя, што земельный кодекс, особенно в последних редакциях (ст. ст. 136 и 139 по закону 30/IV-1928 г.) стал в отношении образования колхозов на трудовых землях на путь широкого применения такого острого средства, каким является выдел. Запад даже в радикальных видах землеустройства, этого средства не применяет. Мы не разрешаем землеустроителю включать в коллективы того, кто формально не заявил согласие на это, но мы разрешаем землеустроителю применить самое острое принуждение в отношении несогласных ввиде чувствительного расстройства их х-ва. Мы их не включаем в коллектив, но заставляем приносить не малые жертвы из-за образования коллектива“ (Записки Б. Д. с/г. Акад., 1929 г., том IX, стар. 59).

Той вялікі пад'ём, з якім асноўныя бядняцка-серадняцкія масы ўсяго Саюзу пад кіраўніцтвам рабочае клясы і комуністычнай партыі на ленінскіх прынцыпах добраахвотнасьці будуюць колектыўную гаспадарку і, тым самым, канчаткова падрываюць аснову кулацтва, як клясы—для кулацкага ідэолёга Хайке ёсьць політыка прымусу, якая выклікае з боку асноўных мас працоўнага сялянства „не малые жертвы из-за образования коллектива“. Сталыпінец-шкоднік Хайке больш за ўсё пакутуе аб тым, што ў выніку разгортваньня вялікага колгаснага руху зьнішчаецца яго апошняя апора—кулак. Але і ён „ня супроць“ коопэрацыі і ён за „настоящие“ коллективы, але толькі такія, якія былі ў царскай Расіі ў дарэволюцыйны час, толькі такія, якія маюць месца і зараз у капіталістычных краінах ва ўмовах прыватнай уласнасьці на зямлю, якія аб'яднаюць капіталістычныя пласты вёскі з мэтаю лепшай эксплёатацыі бядняцка-серадняцкага сялянства.

Выходзячы з сваіх контр-рэволюцыйных імкненьняў, Хайке „ня згодзен“ і з ленінскім коопэрацыйным плянам, асноўнай часткай якога

зьяўляюцца колгасы. Ён уносіць „папраўкі", прапануючы выключыць колгасы з сыстэмы коопэрацыі ў мэтах „содействовать успеху дела" (там-жа, стар. 62).

Кулацкі ідэолёг, ясна, ня можа згадзіцца з тым, што колгаснае будаўніцтва, зьяўляючыся вышэйшай формай савецкай коопэрацыі, падрывае ў сваім разгортваньні ўсе яго мары на растаўрацыю капіталізму ў краіне саветаў знутры, на аднаўленьне „коопэрацыі" па тыпу капіталістычнага Захаду, альбо царскай Расіі.

Трэба адзначыць, што рэдакцыя Запісак Акадэміі, зьмяшчаючы яўна шкодную працу Хаўке, ня толькі не дала разгорнутай крытыкі і належнай ацэнкі гэтае працы, але ў заўвазе на сутнасьці рэкламуе яе, называючы „весьма интересной". І гэта не выпадкова, бо, як убачым далей, кіраўніцтва Акадэміі таго часу знаходзілася цалкам у палоне беларускай кандрацьеўшчыны.

У тым-жа 1929 г. і, нават у 1930 г., правая рука Хаўке, яго вучань—доцэнт Сплюхін, прыцягнуты да практычнай працы ў Акадэміі па абслугоўваньні запатрабаваньняў колектывізуючыхся вёсак прымежных да Акадэміі раёнаў, імкнуўся праводзіць варожа-шкодніцкую мэтодолёгію сваіх настаўнікаў Кнндрацьева, Чаянава, Хаўке. І толькі пад націскам жорсткай марксыцкай крытыкі прымушаны быў на словах паступова здаваць свае позыцыі, працягваючы іх на справе.

У выніку цікава адзначыць, што з цягам часу соцыялістычнае будаўніцтва, у якое ўцягваліся з кожным днём усе больш і больш шырокія масы рабочае клясы і працоўнага сялянства, рабіла ўсё больш цяжкім, усё больш ускладняла правядзеньне і ў тэорыі і на практыцы клясава-варожай ідэолёгіі розных колераў і адценьняў.

Проф. Пелехаў у 1929 г., канчаючы сваю „навуковую" працу, аб якой пісалася вышэй, спачувана прыводзіць думку ўдзельніка гэтых „досьледаў": „... дзіка працаваць сярод зусім някультурных сялян (ранейшая праца, стар. 72).

Кулацкі ідэолёг, папаўшы на вёску ў час карэннай перабудовы бядняцка-серадняцкай, дробна-індывідуальнай гаспадаркі на соцыялістычны шлях, які ў корані падрывае рэшткі кулацкай „культуры", які дыямэтральна супроцьлеглы шляху „культурнага" Захаду і „культурных традыцый" сталыпіншчыны, адчувае сябе дзіка.

У пачатку 1930 г., калі шкодніцкія клясава-варожыя „навуковыя" працы проф. Пелехава былі ўзяты ў друку пад абстрэл пролетарскай „някультурнай" крытыкі, П е л е х а ў у сваёй заяве ў Бюро Горацкай Сэкцыі Навуковых працаўнікоў пісаў: „Насколько мне известно, по правовым нормам, даже самых первобытных диких народов,—обвиняемым предоставляется право оправдываться... однако, я в Бел. С/Х. Академии этого права лишен".

Цяжка прыходзіцца кулацкаму ідэолёгу ў краіне будуючагася соцыялізму. Ён гатоў згадзіцца, прызнаць ня толькі „культурны" Захад, ня толькі „традыцыі" царскіх сьледчых, але, нават, „правовые нормы самых диких первобытных народов", толькі не дыктатуру пролетарыяту. У адзін голас з проф. Пелехавым у тым-жа 1930 г. другі—вялікадзяржаўны шовініст-рэакцыянэр, „вучоны" зубр, былы проф. К р у к о ў пісаў пра БССР, што тут няма ні адзінага ваконца „сьвету разума, просвещения". Ён-жа марыў аб „культурным" Захадзе, аб цывілізаваных краінах капіталізму, змыкаючыся з беларускімі нацдэмамі—Лёсікам, Ждановічам і інш.

На працягу амаль 10 год (1920—1930) Горацкі с/г. Інстытут, а потым і Беларуская Дзяржаўная с/г. Акадэмія і Навуковае Т-ва пры

іх былі апорным пунктам контр-рэволюцыйнай нацдэмаўшчыны, беларускай кандрацьеўшчыны. Цэлы „букет“ навуковых працаўнікоў—шкоднікаў, нацдэмаў, кандрацьеўцаў, „букет“ саміх розных колераў і адценьняў акапаліся ў Горках, адкуль усімі сіламі і спосабамі вялі падрыўную працу як у тэорыі, так і на практыцы, накіраваную супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі БССР. Значная частка з гэтага „букету“ яўных шкоднікаў выкрыта пільным вартаўніком дыктатуры пролетарыяту—органамі ДПУ і зараз чакаюць пролетарскага суду, частка проста выкінута з Акадэміі, але частка працуе і зараз замкнуўшыся; захаваўшыся ў сваіх габінэтах. Наколькі раней яны актыўна падпявалі ў адзін тон з выкрытымі контр-рэволюцыянэрамі-шкоднікамі, настолькі зараз іх ня відаць, ня чуваць. З кім яны? Чаго чакаюць? Пролетарская грамадкасьць павінна будзе зараз-жа патрабаваць ад іх адказу на гэтыя запытаньні!

* * *

II.

Партыяй і ўрадам перад Горацкім Інстытутам і Беларускай Дзяржаўнай с/г. Акадэміяй была пастаўлена адказьнейшая задача рыхтаваць кадры чырвоных пролетарскіх спэцыялістаў, здольных быць сапраўднымі організатарамі вытворчай актыўнасьці шырокіх мас працоўных на шляху соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі БССР.

Нацдэмы, кандрацьеўцы і проста рэакцыйныя зубры, якія ня могуць адмовіцца ад „традыцый“ акадэмічнага фэўдалізму, і тут рабілі сваю справу—рыхтавалі свае кадры, рыхтавалі сабе зьмену. На працягу ўсяго часу існаваньня Горацкага с/г. Інстытуту і Акадэміі, скарыстоўваючы ўсе мажлівыя спосабы і мэтоды, гэтая праца праводзілася аж да апошняга часу. Водгукі яе мы маем аж да сёнешняга дня.

Асабліва згуртаваны і організаваны былі ў гэтых адносінах беларускія нацдэмы. У згодзе з дырэктывай, якая была дана панам Лёсікам („консолідацыя ўсіх беларускіх сіл для стварэньня беларускай народнай рэспублікі“) была організавана і вяла сваю працу гэтак званая „культурна-навуковая беларуская асоцыяцыя студэнтаў“ пры Маскоўскім с/г. Інстытуце (б. Пятроўка), а таксама аналёгічная організацыя і пры Горацкім с/г. Інстытуце. Праца абедзьвюх організацый вялася ў самым шчыльным контакце па адных і тых-жа програмах, з аднымі і тымі-ж мэтамі. Выдаваліся агульныя часопісы, вялася самая актыўная перапіска, ішоў жывы абмен вопытам „працы“ і г. д.

Ідэёвым кіраўніком, лідэрам „асоцыяцыі“ пры Пятроўцы быў нацыянал-шкоднік—Г. Гарэцкі, будучы яшчэ студэнтам. Ён даваў дырэктывы, ён пісаў наказы, выконваючы заветы пана Лёсіка. Для прыкладу возьмем яго лісты Горацкай нацдэмаўскай організацыі студэнтаў, прадстаўленай у той час, галоўным чынам, С. Журыкам, М. Ганчарыкам, Б. Бойка і інш. Гарэцкі піша: „Зрабіце, каб к будучаму новаму году аб Вас гутарылі па-за межамі, як аб працоўных на „культурна-навуковай ніве...“, і далей:—„усё вяду к таму, каб вы артысты-аматары не сядзелі ў Горках, а абавязкова разьяжджалі па сёлах і вёсках; гэта павінна стаць лёзунгам бліжэйшых часоў—пашырайце працу і агітуйце“. І яшчэ: „вядзіце пропаганду, не гасіце веры і энэргіі. *Ваш час кіраваць усёй культурай краю на іншую сьцежку*

*блізак*" (з лістоў Г. Гарэцкага Горацкай беларускай студэнцкай арганізацыі, 1921 г.).

У шматлікіх лістох нацдэм Гарэцкі ўпарта заклікае гуртаваць сілы, ня губіць веры, не гасіць энэргіі, заклікае агітаваць, весьці пропаганду. Ён упэўнены, што „час кіраваць усёй культурай краю на іншую сьцежку блізак". Але, што-ж гэта за іншая сьцежка, куды кліча Гарэцкі, за якую ён упарта б'ецца? Аб гэтым мы чытаем у артыкуле аднаго з актыўнейшых „дзеячоў"—студэнтаў таго часу І. Маркава ў часапісе „Нашы Дні" (№ 1—5—1922 г.), дзе ён піша: „На с"езде обнаружилась еще одна положительная черта—это то, что у общественной агрономии и Советской Власти как бы они „ни расходились в построениях относительно более отдаленного будущего" все повидимому оказалось на одной позиции в вопросе о том, какова наша основная задача с/х. политики на ближайшее время. В этом отношении у нас создался единый фронт борьбы против с/х. разрухи". Адсюль ясна становіцца „іншая сьцежка", на якую кліча Гарэцкі, за якую разгортваецца агітацыя, пропаганда і г. д.

Гэтая сьцежка прынцыпова разыходзіцца са сьцежкай савецкай улады. Толькі на бліжэйшы час, толькі супроць с/г. разрухі можа быць адзіны фронт з савецкай уладай. А далей? Далей „ваш час кіраваць усёй культурай краю на іншую сьцежку блізак". Інакш кажучы, блізак час БНР пана Лёсіка, блізак час зьнішчэньня савецкай улады, з якой мы *пакуль што* ідзем, блізак час зьвяржэньня дыктатуры пролетарыяту. Але толькі больш пропаганды, больш агітацыі! І трэба адзначыць, што гэтая пропаганда, агітацыя была разгорнута шалёным тэмпам, прычым: „Но мы не думаем ограничиться академической работой. Как видно из вышеизложенного мы намерены участвовать в жизни и творить ее. Отсюда вытекают три последних отдела плана работ: издательская, агрономическая и общественная работа" (плян працы на 1922-1923 г., з дакладу старшыні „асоцыяцыі" Н. З. Лайкова).

Але Г. Гарэцкага і гэта яшчэ не здавальняе, ён бярэ шырэй. „Паведаміце адрасы організацый і ўстаноў беларускай рэспублікі і прыватных асоб, якія працуюць супольна з вамі" — піша ён Горацкай організацыі. Аб тым-жа клапаціцца і Н. З. Лайкоў—старшыня „асоцыяцыі" пры Пятроўцы, які ў тым-жа пляне працы заклікае: „мы должны свои мысли нести в гущы народа, в молодежь и тем закладывать школы своей мысли. Мы должны вокруг этой мысли сплачивать не только студенческие силы, но и все движущие живые силы края... Необходимо только использовать данный момент для концентрации и оформления этих сил" Студэнцкая організацыя нацдэмаў разьлічвае ня толькі на свае сілы, яна зьбіраецца „консолідаваць" усе жывыя сілы краю, скарыстоўваючы „даны момант".

Да гэтых сіл у першую чаргу нацдэмы адносілі беларускую інтэлігенцыю: „Интеллигенция носительница интелектуальных сил страны еще не вся бежала от серой болотистой белорусской действительности, от овсяного хлеба, лаптей и сермяги — к лучшему своему личному будущему.

Не все еще поглотила русская и польская культура" (там-жа).

Меркавалася таксама павесьці за сабой і вясковую моладзь „глухих белорусских трущоб": „Там для этого недастает нас, там мы нужны, ибо мы у этой молодежи свои и только мы сможем подхватить энергию ее, повести за собой" (там-жа — даклад Старшыні Рэўкамісіі „асоцыяцыі" — Рытуса).

У сваіх выказваньнях, як бачым, беларуская контр-рэволюцыйная нацдэмаўшчына асабліва не захоўвала свайго сапраўднага твару, сваіх мэт, сваёй тактыкі. Але ўсе-ж нацыянал-шовіністычны характар усёй працы „асоцыяцыі“ і ў той час браўся пад абстрэл. Лідэрам „асоцыяцыі“ ўжо тады прыходзілася „апраўдвацца“, прыходзілася маскавацца пад рэволюцыю: „Вторым из мешающих нашей работе условий является та инсинуация, то шушукание и экивоки, какие носятся вокруг пресловутого „шовинизма“ белорусской К-Н Асоциации. С этой трибуны мы должны по этому поводу закричать так, чтобы все косноязычные и тугоухие из окружающей нас обывательщины услышали, наконец, что этот злополучный „шовинизм“ есть плод их досужей фантазии и праздного ума, есть их злое измышление, што наша работа преследует самые чистые и честные намерения по отношению к великим заветам Революции“ (там-жа).

Зараз працоўныя масы БССР добра ведаюць, ды і самі нацдэмы аб гэтым казалі, аб заветах *якой* „рэволюцыі“ ідзе гутарка. „Сьцежкі“ да гэтай „рэволюцыі“ вялі праз зьнішчэньне заваёў Кастрычніка, праз зьвяржэньне дыктатуры пролетарыяту, да фашысцкай БНР з панскім бізуном, з бязьлітаснай эксплёатацыяй працоўных мас і бяднейшага сялянства. І трэба дадаць, што нацдэмаўшчына была цьвёрда ўпэўнена ў ажыцьцяўленьні сваіх контр-рэволюцыйных мар. Гарэцкі пісаў, „што блізак той час“ і г. д. Лайкоў заканчваў свае прамовы, даклады ў тым-жа сэнсе. „В единстве наших стремлений здесь, есть залог единства в будущем и вера в торжество наших идеалов. А с таким залогом чем-бы не грозила нам жизни буря — пусть себе шумит; в нас вера есть, та вера—наша сила, что будущее нам принадлежит“ (там-жа).

Але—сарвалося! Будучыня застаецца за пролетарскай рэволюцыяй, якая толькі адна праз сусьветны Кастрычнік нясе сапраўдную культуру, сапраўдны прогрэс усяму чалавецтву, зьмятаючы на сваім непераможным шляху ўсё тое, што імкнецца павярнуць кола гісторыі назад.

У выніку, кажучы аб працы „навукова-культурнай „асоцыяцыі“, якая гуртавала беларускія нацыянал-шовіністычныя элемэнты студэнцтва Горацкага С/Г. Інстытуту, ня можна не адзначыць аднаго вельмі характэрнага зьявішча. Проф. Вінэр, якога аднесьці да беларускіх нацдэмаў ні ў якім разе нельга, які прыблізна ў гэты-ж час, як мы бачылі, заклікаў да іншага, да „традыцый“ вялікадзяржаўнага характару, панаваўшых у Земляробскім Інстытуце ў часы царызму, гэты-ж проф. Вінэр, ня гледзячы на „розьніцу“ ў установках, працуе сумесна з „асоцыяцыяй“. Часопіс „Белорусский хозяин“, які „издается культурно-научными организациями Белорусского студенчества Петровской С/Х. Академии и Горецкого с/х. Института“, выходзіць пад рэдакцыяй проф. В. В. Вінэра. Аб характары і напрамку гэтага часопісу можна бачыць на тых вынятках, якія прыводзіліся вышэй. Агульная мэтаімкненнасьць, накіраваная супроць дыктатуры пролетарыяту, аб'яднае несумяшчальнае: проф. Вінэр працягвае руку Гарэцкаму.

Далейшы этап у справе „консолідацыі“ і падрыхтоўкі беларускіх нацдэмаўскіх кадраў праз „асоцыяцыю“ прыпадае на той час, калі пачалі рэалізавацца вынікі „культурна-выхаваўчай працы“ ў межах „асоцыяцыі“. Былыя студэнты Гарэцкі, Кісьлякоў і інш. скончылі с/г. Інстытуты і едуць на сталую працу, прычым большасьць з іх пападаюць у лік навуковых працаўнікоў Горацкага с/г. Інстытуту і, нават, Акадэміі. Тут мы бачым Г. Гарэцкага, які выкладае ў Акадэміі

экономічную географію, бачым Кісьлякова, які выкладе с/г. экономію, організацыю гаспадаркі, Бойка, які працуе разам з Кісьляковым, далей прыцягваецца кондрацьевец—Ждановіч выкладаць кон'юктуру і рынкі. Працягваецца лёсікаўская „консолідвцыя“ сіл на новым яе этапе. Адначасова сьцягваюцца сілы і іншага парадку. У Горках паяўляецца проф. Хаўке, які выкладае экономіку земляўпарадкаваньня, „юрысты“ — проф Некрасаў; крыху далей Хаўке перацягвае ў Горкі свайго „вернага“ вучня — Сплюхіна ў якасьці свайго доцэнта і г. д. Адначасова гуртуюцца і кандрацьеўцы, прычым ідзе прасоўваньне адзін другога. Ізноў паказальна тое, што беларускія нацдэмы прасоўваюць кандрацьеўцаў (Гарэцкі, Кісьлякоў—Ждановіча), а Кандрацьеўцы—нацдэмаў (Хаўке—Кісьлякова).

На апошнім прыкладзе гэта відаць асабліва яскрава, калі аполёгет кулацтва, нацдэм Кісьлякоў, настойліва прасоўваўся ў профэсары Акадэміі. Так, у пастанове Праўленьня Беларускай с/г. Акадэмі ад 30/IV-29 г. за № 30 мы чытаем: „Прымаючы пад увагу, што доцэнт Кісьлякоў: 1) з акадэмічнага боку выявіў сябе, як высокакваліфікаваны навуковы працаўнік, які мае самастойныя каштоўныя навуковыя працы (пытаньне ідзе аб славутай кнізе „Пасёлкі“ — *аўтары*); 2) вядзе шырокую дасьледчую працу ў напрамку, адпавядаючым патрэбам сельскай гаспадаркі БССР; 3) водзыў дэкана *і рэкомэндацыю* проф. Х а ў к е, абраць доцэнта Кісьлякова проф. па катэдры с/г. экономіі. Ідэолёг кулацтва, натхніцель Прышчэпава рэкомэндуецца, як каштоўны навуковы працаўнік, праца якога адпавядае патрэбам БССР. Гэта пастанова была не выпадковай. Нацдэмы, маючы цьвёрды апорны пункт у с/г. Акадэміі, маглі праводзіць сваю шкодную працу. Кіраўнікі Акадэміі ўвесь час разглядалі нацдэма Кісьлякова, як каштоўнага працаўніка. Так яшчэ за год да прызначэньня Кісьлякова ў профэсары ў протоколе Праўленьня ад 8/VI-28 г. мы чытаем, што „катэдра с/г. экономікі (на чале Кісьлякоў—*аўтары)* разгарнула дасьледчую працу здавальняюча, прыстасаваўшы яе да патрэб БССР“. Зараз ня трэба застанаўлівацца на політычнай сьлепаце кіраўніцтва Акадэміі, якое выносіла гэткія пастановы. Пасьля выкрыцьця шкодніцкай контр-рэволюцыйнай сутнасьці „кісьлякоўшчыны“ гэта само сабою зразумела.

Адначасова з „консолідацыяй“, настойлівым прасоўваньнем сваіх нацдэмаўскіх, кандрацьеўскіх сіл вядзецца ўпартая барацьба супроць высоўваньня на пасады навуковых працаўнікоў маладых пролетарскіх сіл, прымаюцца ўсе захады, каб абмежаваць мажлівасьць іх падрыхтоўкі. Калі раней беларуская нацыянал-шкодніцкая кандрацьеўшчына рыхтавала свае кадры, сваю зьмену праз „асоцыяцыю“, дык зараз гэтая падрыхтоўка пераходзіць на „вышэйшую ступень“ у адпаведнасьці з тым, як былыя студэнты апынуліся навуковымі працаўнікамі Інстытуту і Акадэміі. Замест „асоцыяцыі“ рэорганізуецца „Навуковае Т-ва па вывучэньню Беларусі“, існаваўшае пры Акадэміі і ахапляўшае большасьць працаўнікоў, старшынёй якога становіцца Кісьлякоў. Характар і мэтавыя ўстаноўкі „навукова-дасьледчай“ продукцыі гэтага т-ва можна ўжо было бачыць з вышэй паданых вынятак з іх. Гэтая продукцыя патрабуе далейшага поўнага перагляду і крытычнага аналізу з мэтаю поўнага выкрыцьця ўсёй яе шкоднасьці.

Па сутнасьці „гэтыя працы“ зьяўляюцца працягненьнем і далейшым разьвіцьцём і конкрэтызацыяй ва ўмовах свайго часу ўстановак „асоцыяцыі“, але асабліва характэрна тое, што Навуковае Т-ва і раней існаваўшае, разам з новым кіраўніцтвам на чале з Кісьляковым „рэорганізуецца“ па згодзе з Інбелкультам, у выніку чаго з яго вы-

бывае рад навуковых працаўнікоў, галоўным чынам, малодшых, з аднаго боку, а з другога — прыём у сябры т-ва абмяжоўваецца 2-3 асобамі ў год. Рабілася гэта ў мэтах тэй-жа „консолідацыі“ сваіх сіл і недапушчэньня падрастаючых маладых пролетарскіх сіл з асьпірантуры да ўдзелу ў навукова-дасьледчай справе. Навуковае т-ва скарыстоўвалася, як новая база, для падрыхтоўкі, падвышэньня „кваліфікацыі“ сваіх нацдэмаўскіх, кандрацьеўскіх кадраў. Намячаюцца і праводзяцца програмы і шляхі падрыхтоўкі сваіх кадраў праз „навукова-дасьледчую“ працу. Гэтая падрыхтоўка кадраў зьвязваецца з адпаведнымі базамі, накшталт кулацкіх гаспадарак Мароза, Сыцко і інш. Вось што піша, напрыклад, проф. Бурштэйн:

„Бяссумненна ў варунках Фатыні, для вельмі адпаведнай дасьледчай працы муюцца магчымасьці. Нашым акадэмічным установам трэба будзе скарыстаць спрыяючыя варункі гаспадаркі Я. Мароза ў напрамку адкамандыраваньня сваіх навуковых працаўнікоў для далейшага вядзеньня досьледаў у контакце з дасьледчыкамі-сялянамі Фатыні, каторыя прыхільны да прадстаўнікоў навукі“ (Праца Навук. Т-ва, том I, 1926 г., стар. 29). І далей: „ня будзе перавялічэньнем, калі падкрэсьлім, што вучыцца памалёгіі у нашых варунках начынаючым садаводам прыдзецца ў Фатыні“ (там-жа, стар. 27).

Словам патрэбна адбыць свайго роду „вытворчую практыку“ ў кулацкай гаспадарцы для поўнага завяршэньня ідэолёгіі спэцыялістаў патрэбных кулаку.

Апрача таго, ідзе барацьба супроць падрастаючай маладой пролетарскай зьмены навуковых працаўнікоў і па лініі рэакцыйных зуброў, якія не жадаюць здаваць сваіх старых „акадэмічных традыцый“.

Калі пролетарская зьмена паступова пачынае на чале з партыйна-профэсійнымі організацыямі Акадэміі браць пад абстрэл пролетарскай крытыкі гэтыя „традыцыі“ і іх носьбітаў, калі гэтая зьмена паступова пачынае актывізавацца, праводзячы генэральную лінію партыі, акадэмічныя фэўдалы рэагуюць на гэта новымі вылазкамі, к прыкладу: калі лепшая частка так званых навуковых супрацоўнікаў (аналёг сучаснага Інстытуту асьпірантуры) на чале з партыйна-комсамольскай праслойкай пачалі рашучую барацьбу за зьнішчэньне такіх „традыцый“, як зачыненае галасаваньне, балатыроўка запіскамі, шарамі і г. д. (што, трэба адзначыць, практыкавалася амаль да 1927 г.), дык частка рэакцыйнай профэсуры прынцыпова не зьяўляецца на сходы, пасяджэньні і г. д. Ніжэй мы цалкам прыводзім ліст проф. Кайгарадава ў Бюро Сэкцыі Навуковых працаўнікоў, які належыць да 1924 г. і ў якім ён дае поўнае тлумачэньне сваіх паводзін у гэтым сэнсе:

„Считаю необходимым мотивировать свое отношение к выборам в текущем году. Посещение выборных собраний считаю совершенно бесцельной тратой времени, ввиду того, что мой голос, хотя бы и согласованный со всеми голосами профессоров и преподавателями Института, оказывается совершенно бессильным повлиять на исход выборов, всецело предрешаемый блоком научных сотрудников (студентов), которые, хотя и входят нераздельно в курию научных работников, однако, на деле образовали совершенно замкнутую избирательную группу, не привлекающую к своим предвыборным собраниям професоров и преподавателей, но обязующих круговой порукой своих сочленов или голосовать согласно постановления большинства, или же не являться на выборы.

Так как численность научных сотрудников превышает совокупное число преподавателей и профессоров, то последние присутствуя на выборных собраниях, хотя бы единодушно голосовали против предложения сотрудников, все же создают видимость голосования, вынесенного секцией научных работников в целом. Все сказанное, низводя меня автоматически на роль пешки, приводит меня к выводу, что участие при таких условиях в выборной кампании унижает мое достоинство, как профессора Института“ (ліст проф. А. І. Кайгарадава ў 1924 г. у Бюро СНП).

Ліст не патрабуе вялікіх тлумачэньняў. Калі пролетарскі асяродак падрастаючых навуковых працаўнікоў моцна ўзьняў свой голас супроць „акадэмічных традыцый“, супроць „традыцый“ сьвяткаваўшых „тезоименитство“ Александра II-га, супроць „традыцый—, якія рыхтавалі „управителей имениями“, і ўзяўся за рашучую ломку гэтых „традыцый“, проф. Кайгарадаў разам з іншымі акадэмічнымі зубрамі з недасягаемай вышыні свайго профэсарскага вялічча заяўляе, што ён, каб ня губіць свайго „достоинства“, бойкотуе савецкую грамадзкасьць Інстытуту ў справе перавыбараў кіруючых органаў.

Пазьней, калі новая пролетарская зьмена навуковых працаўнікоў яшчэ больш актыўна ўзялася за перабудову ўсёй працы Акадэміі па лініі зжываньня „традыцый“ акадэмічнага фэўдалізму, па лініі выкананьня дырэктыў Партыі і Ураду аб рэорганізацыі працы ВНУ у напрамку, адпавядаючым запатрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва—мы бачым тое-ж самае, але ў іншай форме. Так, з правядзеньнем у жыцьцё дырэктывы Партыі і Ураду аб адзінаначальлі, з увядзеньнем у склад кіруючага апарату Акадэміі падросшай зьмены навуковых працаўнікоў, проф. Некрасаў, напрыклад, пісаў: „Зараз усё у значнай меры аддана на вырашэньне дэканаў і інш. г. зн. начальнікаў, якія яшчэ ня мелі часу для таго, каб навучыцца начальнічаць без адмоўных вынікаў. Мае некаторае значэньне таксама празьмернае абмалажэньне складу нашых кіруючых органаў, у прыватнасьці, складу намесьнікаў дэканаў. Мне вядома, што ад гэтага бывае шмат такіх недахопаў у процэсе навучальнага жыцьця, якія пры іншых абставінах бываюць вельмі рэдка. У даным сэнсе зроблена больш таго, што трэба было зрабіць“ (Газэта „За пролетарскія кадры“ № 12/17 ад 20/V-1930 г., арт. проф. Некрасава).

Другі вялікадзяржаўны зубр, былы проф. Крукоў, больш проста казаў: „бязвусыя мальчышкі“, калі апошнія ўзяліся за яго „традыцыі“. Гэта пішацца і гаворыцца ў той час, калі толькі-толькі пачалі рушыцца акадэмічныя „традыцыі“ ў сэнсе складу кіруючых навуковаадміністрацыйных органаў Акадэміі, калі замест панаваньня акадэмічных фэўдалаў і сюды дайшла агульная лінія на пролетарызацыю савецкіх ВНУ. Але ўжо першыя крокі ў гэтым напрамку для Некрасавых, Крукавых „больш таго, што трэба было зрабіць“.

У тэй-жа час, калі беларуская нацдэмаўшчына, акапаўшыся ў Навуковым Т-ве, імкнулася недапушчаць пролетарскую зьмену—асьпірантаў да ўдзелу ў дасьледчай працы, па лініі „акадэмічных фэўдалаў“ назіраюцца выпадкі падобнага-ж роду. Так проф. Ключароў, выконваючы заветы Вінэра „аб традыцыях“, зьнішчае, заворвае досьледы, якія вяла некалькі год асьпірантка. Той-жа Ключароў, ды і ня ён адзін, трымаў у сакрэце ад малодшых навуковых працаўнікоў той-жа катэдры досьледы, якія праводзіліся пры катэдры. Амаль да апошняга часу, выконваючы „традыцыі“ Вінэра і Пелехава, адна катэдра

хавала свае досьледы ад сумежнай другой, у выніку чаго назіралася дубліраваньне досьледаў, растрата дзяржаўных сродкаў.

Адначасова з перашкодамі, якія ставіліся на шляху падрыхтоўкі новай зьмены навуковых працаўнікоў з боку рэакцыйных зуброў прасоўваліся свае кандыдатуры, адпавядаючыя „традыцыям", у склад асьпірантуры. Аб гэтым яскрава сьведчыць справа „асьпіранта" Шэвелева, які на адным з агульных сходаў заяўляў. „Есьць спэкуляцыя марксызмам людзі, якія прыкрываюць сваю скуру марксызмам, штурмаюць савецка-настроеных асьпірантаў супроць савецкай ўлады. Маюцца 2 катэгорыі асьпірантаў—адна—сапраўдныя асьпіранты, а другая—ганаровыя, як гасп. Пуанкарэ ў Парыскай Акадэміі Навук. Адны кажуць шмат аб марксызьме, у той-жа час самі нічога ня робяць. Па-мойму трэба менш чырвоных слоў, а пабольш справы" (протокол сходу СНП ад 18/X-29 г., прамова Шэвелева).

„Савецкі" клясава-варожы пролетарыяту настрой Шэвелева яўна выпірае з яго вылазкі. Але цікава тое, што ўсьлед за Шэвелевым выступае проф. Хаўке: „Тыя навуковыя працаўнікі, якія шмат заняты на грамадзкай рабоце, як навуковыя працаўнікі павінны быць узяты пад падазрэньне" (там-жа, прамова Хаўке). Настаўнік „дапаўняе" вучня ў сваёй вылазцы супроць лепшай часткі маладых пролетарскіх навуковых кадраў, якія, выконваючы ўказаньні Леніна, вучацца працуючы і працуюць вучачыся, якія ўсімі сіламі ўпарта працуюць над аўладаньнем марксыцка-ленінскай мэтодолёгіяй.

Адпаведная „праца" праводзілася і па лініі ідэолёгічнага выхоўваньня студэнцтва Інстытуту і Акадэміі. Да самага апошняга часу мы маем цэлы рад фактаў, калі ў занятках са студэнтамі ў лекцыях, падручніках падаецца матэрыял, падаюцца ўстаноўкі яўна шкодніцкія. Завастрэньне ўвагі пролетарскай грамадзкасьці на ідэолёгічным зьмесьце выкладаньня, узмацненьне і клясавая пільнасьць пролетарскай часткі студэнцтва і навуковых працаўнікоў усё больш і больш выкрываюць прыклады, факты засьмечанасьці ідэолёгічнага зьместу выкладаньня.

На працягу параўнаўча невялікага адрэзку часу пролетарская грамадкасьць Акадэміі праз друк, праз свае профэсійна-грамадзкія і партыйныя організацыі выкрыла і нанесла рашуча адпор раду падобных зьявішч. Проф. Крукоў, чытаючы курс сьвінагадоўлі, даводзіў на занятках студэнтам аб тым, што ў П.-А. З. Ш. правільна робяць „белыя", калі ня пушчаюць нэграў у адзін вагон, дзе самі едуць. Ён-жа „выхоўваў" студэнтаў на тым, што ў Даніі няма ні бедных ні багатых, што там амаль соцыялізм, ён-жа ўсе свае заняткі „ўгрунтоўваў" данымі дарэволюцыйнай статыстыкі і г. д. У апошнім з ім сходзіцца і проф. Малякоў, які ў сваім падручніку, па якому займаюцца студэнты, даводзіў, што адзіна-правільнымі, заслугоўваючымі ўвагі, зьяўляюцца дарэволюцыйныя статыстычныя даныя. Далей—выкладаньне Гаўрука, які, выкладаючы курс беларусазнаўства, цалкам яго грунтаваў на нацдэмаўскай літаратуры, ідэалізуючы нацдэмаў-пісьменьнікаў і зусім выкідаючы Кастрычнік з сваёй програмы і г. д. і г. д.

Клясавая барацьба на ідэолёгічным фронце разгортваецца, абвастраецца, зьмяняючы свае формы. За апошні час у зьвязку з праваадзімай рэорганізацыяй усёй навучальнай і навуковай працы Акадэміі ў напрамку максымальнага набліжэньня яе да задач соцыялістычнага будаўніцтва (спэцыялізацыя, актыўныя мэтоды выкладаньня, вытворчае навучаньне і г. д.) мае месца актыўнае і пасыўнае супраціўленьне з боку некаторай часткі рэакцыйных навуковых працаўні-

коў і ў гэтым. Так, мы бачылі вылазку асыстэнта Матушкіна, які студэнтам даводзіў: „У нас мэтодаў выкладаньня N+1. Ніякіх мэтодаў устанаўліваць нельга і якасьць падрыхтоўкі ад мэтодаў не залежыць. Усё залежыць ад асабістага настрою выкладчыка, дзякуючы якому (настрою) выкладчык можа даць добрую і дрэнную лекцыю і яго „пітомцы“ могуць успрыняць і пераварыць матэрыял горш, ці лепш. У кожнага выкладчыка есьць свой сакрэт“ (Газ. „За пролетарскія кадры“ № 2/33 ад 12/I-31 г.).

„Сакрэты“ выкладчыкаў Матушкіна і Крукава і інш. выкрываюцца, бяруцца пад жорсткі агонь пролетарскай крытыкі. Адначасова мелі месца праявы і пасыўнага супраціўленьня рэорганізацыі працы Акадэміі (агульнае мэханічнае падпісваньне залікаў без праверкі ведаў студэнтаў у часы заняткаў, формальныя адносіны да справы новых мэтодаў і г. д.). Усё гэта сьведчыць аб тым, што і па гэтай лініі, пачынаючы яшчэ ад Вінэра, які выступаў супроць „современных деятелей“, якія імкнуліся перабудаваць Горацкі Інстытут і Акадэмію на свой шлях, якія імкнуліся „вино новое вливать в мехи новые“, клясавае змаганьне і на фронце падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў ня спыняецца, а наадварот разгортваецца ўсё больш і больш.

Характэрна тое, што калі раней пролетарская крытыка брала пад абстрэл і праявы акадэмічных „традыцый“, і іх носьбітаў, брала пад абстрэл і нацдэмаўшчыну і кандрацьеўшчыну і г. д., дык формы рэагаваньня на гэтую крытыку былі іншыя за сучасныя. Раней, напрыклад, мажлівы быў бойкот савецкай грамадзкасьці—гэта і праводзілася. (Кайгарадаў). Зараз, як правіла, бяруцца іншыя спосабы рэагаваньня: зьмест крытыкі аб'яўляецца „фальсыфікацыяй“, „извращением“ (Пелехаў), „жульніцтвам“ (справа Гаўрука), „абліваньнем халоднай вадой“, „абліваньнем памыямі“. Пролетарская крытыка і самакрытыка разумелася па-свойму, перакручвалася. К прыкладу, проф. Алексееў, які аказаўся шкоднікам, аб справе проф. Ключарова казаў так: „Як вырашаўся Ключароўскі інцындэнт? З яго хацелі стварыць „казла адпушчэньня“, мажліва яго хацелі „уйти“, даўшы вымову. Калі мы працаўніка абліваем халоднай вадою, дык у яго будзе „зьніжэньне дзейнасьці“ (прот. сходу СНП ад 18/X-29 г.). Другім відам рэагаваньня на крытыку і самакрытыку зьяўляецца імкненьне адыйсьці ад актуальнейшых пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва, уйці падальш ад „політыкі“ і „экономікі“ і закапацца ў вузкі тэхніцызм. Мы ведаем, што проф. Некрасаў, калі яго і яго працу ўзялі пад абстрэл самакрытыкі, хацеў перайсьці з катэдры „юрыдычнага“ характару на катэдру „геодэзіі“. Таксама і нацдэм, ідэолёг кулацтва Кісьлякоў, у час разгарнуўшайся крытыкі яго дзейнасьці і „навуковых“ прац, падаваў заяву аб пераводзе яго на катэдру статыстыкі, матывуючы гэта тым, што там нібы-та менш „марксызму“ трэба.

Такім чынам, мы бачым, як белауская канрацьеўшчына рыхтавала сваю зьмену ва ўмовах Горацкага с/г. Інстытуту і Акадэміі. Гэтая падрыхтоўка ішла і па лініі навукова-дасьледчай працы, і па лініі падбору навуковых працаўнікоў, і па лініі падрыхтоўкі студэнцтва. Карыстаючыся адсутнічаньнем клясавай пільнасьці ў кіраўніцтва Інстытуту і Акадэміі, гэтая шкодніцкая праца разгортвалася ва ўсю шырыню. Ня толькі ішла „консолідацыя“ беларускіх контр-рэволюцыйных сіл, але і падрыхтоўка іх у якасьці адпаведнай часткі студэнтаў. У прыватнасьці вёўся і адпаведны падбор студэнцтва ў Акадэміі. У час панаваньня нацдэмаў у некаторых кіруючых савецкіх установах БССР (БАН, НКЗ, НКА і г. д.) гэты падбор вёўся асабліва актыўна. Так,

калі той, ці іншы студэнт Акадэміі выключаўся, альбо не залічаўся пры прыёмах у Акадэмію, як клясавы чужы элемэнт, паступалі запіскі ад былых наркомаў — Прышчэпава, Баліцкага, якія былі на службе ў нацдэмаўшчыны, аб тым, каб аднавіць у правох ці залічыць гэтых кулацкіх, папоўскіх і г. д. сынкоў. У выніку социяльны склад студэнцтва значна быў засьмечаны клясава-варожымі элемэнтамі аж да апошняга часу. Прыкладам гэтага зьяўляюцца справы, якія выкрыты зусім гэтымі днямі на факультэце арганізацыі тэрыторыі. На гэтым факультэце студэнцтва з кулацка-заможнай часткі арганізавалася ў асобныя палітычныя групы, якія на працягу раду год вялі сваю разнузданую контр-рэволюцыйную кулацкую антысэміцкую справу, асабліва актывізаваўшыся ў апошні год.

Былі выкрыты разьюшаны антэсымітызм, праявы вялікадзяржаўнага шовінізму, адмаўленьне карыстацца белмовай, працаваць у межах БССР. Меў месца зрыў кампаніі па зборы сродкаў у „Тыдзень абароны“, вялося вербаваньне ў свае рады з пролетарскай часткі студэнцтва праз арганізацыю з гэтай мэтай вузкіх вечарын, п'янак, якія насілі палітычны характар, з контр-рэволюцыйнымі лёзунгамі: „бей жидов, спасай Россию“ і г. д.; выступленьне супроць колектывізацыі сельскай гаспадаркі, імкненьне сарваць справу ў тых раёнах БССР, дзе больш шпаркім тэмпам праходзіла колектывізацыя (агітуючы супроць паездкі на працу ў раёны з хуткім тэмпам колектывізацыі, пасылка лістоў з такім зьместам, што колектывізацыя давядзе да таго, што ня будзе штаноў, абвінавачваньне партыі ў час перагібаў пры колектывізацыі і распаўсюджаньні анэкдотаў контр-рэволюцыйнага зьместу). Гэтымі-ж групамі вяліся выступленьні супроць тэмпаў, зрывалася ўдарніцтва і соцспаборніцтва. Вёўся тэрор над насьценгазэтай.

Пролетарскай грамадзкасьцю Акадэміі на чале з партыйнай арганізацыяй выкрыты гэтыя контр-рэволюцыйныя вылазкі і конкрэтныя іх носьбіты і зроблены адпаведныя рашучыя вывады.

Але гэтыя факты яшчэ і яшчэ раз кажуць аб тым, што клясавая барацьба разам з разгорнутым наступленьнем социялізму па ўсім фронце ня толькі ня спыняецца, але ўсё больш і больш абвастраецца, набываючы новыя формы, аб чым сьведчыць і прыклад Бел. С/Г. Акадэміі.

* * *

У заключэньне неабходна адзначыць, што контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм у БССР праз ідэю нацыянальнага адраджэньня Беларусі і беларускай культуры вёў змаганьне за капіталізм, за буржуазную культуру, за кулацкі шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР. Нацдэмократызм, які бачыць вышэйшы ідэал „свабоднай Беларусі“ ў моцнай кулацкай гаспадарцы, знаходзіць агульную мову з контр-рэволюцыйным вялікадзяржаўным шовінізмам, які на даным этапе зьяўляецца галоўнай небяспекай. Былы Дырэктар Навукова-Дасьледчага Інстытуту Г. Гарэцкі шчыра насаджвае ідэі Кандрацьева ў навукова-дасьледчай працы пад шырмай нацыянальнай самабытнасьці.

Тэорэтык прышчэпаўшчыны Кісьлякоў знаходзіць абаронцу сваіх работ у асобе проф. Хаўке, вялікадзяржаўнага шовініста, выступаючага супроць колектывізацыі, супроць уключэньня колгасаў у агульна-коопэрацыйную сыстэму. На базе змаганьня супроць колектывізацыі ўстанаўліваецца цясьнейшы блёк паміж вялікадзяржаўнымі і беларускімі шовіністамі. Той-жа блёк мы бачым паміж Вінэрам і Пелехавым, з аднаго боку, і Г. Гарэцкім, з другога боку.

На фоне разаблачонага шкодніцтва яшчэ больш ясным становіцца вялізарнейшае значэньне тых мерапрыемстваў, якія Партыя праводзіць па фарсыраваньні падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў. Цяпер і сьляпому відавочна, якую ролю адыгрывалі правыя, выступаючы супроць рэорганізацыі ВНУ з іх гутаркай аб стаўцы на старыя інжынэрныя кадры.

Разгром і ліквідацыя беларускай контр-рэволюцыйнай организацыі не азначае, вядома, што іх ідэолёгічны ўплыў зьнішчаны, асабліва гэта можна сказаць аб навуковым фронце. Уплыў гэтай контр-рэволюцыйнай ідэолёгіі мажліва зьнішчыць толькі супраўдным разгортваньнем і правядзеньнем у жыцьцё бальшавіцкай самакрытыкі, якая ў с/г. Акадэміі толькі разгортваецца.

Да гэтага часу распаўсюджаны лібэральныя адносіны да буржуазна-профэсарскай „вучонасьці", някрытычны падыход да яе, прымірэнчыя адносіны да ідэалістычных выказваньняў, якія прыкрываюцца „навуковасьцю". Ленін казаў аб неабходнасьці комуністам „весьці вайну супроць сучасных „образованных" рэакцыянэраў".

Той, хто толькі гаворыць аб барацьбе і не вядзе яе па сутнасьці зьяўляецца памоцнікам у распаўсюджваньні буржуазнай ідэолёгіі, хаваючыся за фразамі аб барацьбе. За апошні час можна пачуць такую думку ад асобных таварышоў: „Лепш ня пісаць, а то наробіш памылак, тады ругаць будуць". Гэта нішто іншае, як асаблівая форма опортунізму. Побач з жорсткай крытыкай, якая не павінна заставіць камня на камені ад шкодных контр-рэволюцыйных тэорый, апранутых у тогу „аполітычнасьці", „нэўтральнасьці", неабходна разгарнуць станоўчую распрацоўку цэлага раду проблем, якія стаяць на чарзе ў пэрыод завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялізму. Акадэмія павінна паставіць перад сабой конкрэтную задачу — перабудаваць навуковую працу такім чынам, каб яна канчаткова вызвалілася ад „акадэмізму", „аполітычнасьці", нэўтральнасьці, „каб яна была палітычнай у тым сэнсе, што ўсе тэорыі кандрацьеўшчыны і нацдэмаўшчыны будуць зьнішчаны да канца, што кожны навуковы працаўнік будзе актыўным будаўніком соцыялістычнай с/гаспадаркі. Задача гэта павінна быць і будзе вырашана пры дапамозе і пад кіраўніцтвам партыі, пры дапамозе вырасшага актыву пролетарскіх навуковых працаўнікоў. Прыдзецца вельмі многа папрацаваць над тымі вынікамі навуковых прац, якія заставіла старая дасьледчая праца. Нам у спадчыну передана шмат ненавуковага, шмат сьмяцьця. Прыдзецца папрацаваць над вынікамі, якія рабіліся па соцыяльнаму заказу кулака. Але-ж гэта толькі палова задачы. Другая — найбольш важная — зьвязана з гіганцкімі задачамі, якія мы ставім перад сабой — „дагнаць і перагнаць" у тэхнічна-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны, патрабуе колёсальнага разгортваньня навукова-дасьледчай працы, ажыцьцяўляючы лёзунг „тэхніка — масам". Па меры пасоўваньня ўперад мы ўсё менш і менш зможам абапірацца на капіталістычную тэхніку, а павінны будзем абапірацца на соцыялістычную навуку і тэхніку. Задача аўладаньня навукай высоўваецца на першы плян. Перад ёю вырысоўваюцца гіганцкія горызонты творчай працы. Яна справіцца з гэтымі задачамі толькі пры ўмове, калі павернецца тварам да задач соцыялістычнай рэконструкцыі. Скінуўшы з сабе тогу „акадэмізму", „аполітычнасьці" і „нэўтральнасьці, рашуча змагаючыся з рэшткамі кандрацьеўшчыны, нацдэмаўшчыны, навука вялізарнейшымі крокамі пойдзе ўперад.

Лёзунг „пяцігодка ў чатыры гады" павінен ўпарта праводзіцца і на навуковым фронце. Навука на службу соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

**Г. Бондар**

# Крызіс сельскай гаспадаркі Нямеччыны [1])

*(Падагуленьне ўражаньняў і матэрыялаў, атрыманых у час паездкі па буйных гаспадарках Нямеччыны)*

Экономічны заняпад, перажываемы зараз усімі буржуазнымі краінамі, ёсьць ня што іншае, як частка ўсеагульнага крызісу капіталізму, узьнікшага яшчэ ў пэрыод імпэрыялістычнай вайны. Сучасны прамыслові крызіс супадае і цесна, органічна пераплятаецца з абвостранай фазай аграрнага крызісу. Гэта яшчэ больш паглыбляе заняпад капіталістычнай гаспадаркі і рабіць крызіс сусьветным і зацяжным. Экономічны крызіс, закладзены ў самой сыстэме капіталістычнай гаспадаркі, пераходзіць у цэлым радзе краін у крысіс палітычны.

У капіталістычных краінах існуюць вялізарныя перашкоды для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Тыя вытворчыя магчымасьці, якія маюцца як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, далёка не скарыстоўваюцца. Па даных Бэрлінскага Коньюнктурнага Інстытуту машынабудаўнічая прамысловасьць на працягу 1930 году было нагружана толькі на палову. Уся продукцыя нямецкай прамысловасьці скарацілася на адну чацьвертую частку, а ў некаторых галінах нават на палову ў параўнаньні з мінулымі гадамі. З вытворчага процэсу выкінута зараз 25% усіх рабочых і служачых Нямеччыны. Беспрацоўе дасягнула нячуваных памераў. На кожных трох занятых у вытворчасьці—адзін беспрацоўны. У буйных прамысловых гарадох на кожным квартале сустракаем, часьцей за усё мужчыну, які просіць 5 пфэнігаў. На запытаньне, чым выклікана гэта, чуеш адказ: „я ня маю працы“.

Праяжджаючы па вёсках, будучы ў абшарнікаў і дробных сялян, усюды і ад кожнага прыходзіцца чуць скаргі на нізкія цэны, на немагчымасьць збываць сельска-гаспадарчыя продукты. Як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы вялікая перавытворчасьць. Наяўнасьць лішкаў продукцыі тлумачыцца не адсутнасьцю попыту на іх, бо значная частка насельніцтва не даядае, а рэзкім памяншэньнем пакупальнай здольнасьці насельніцтва.

Сучасны экономічны крызіс уносіць расьцеранасьць у галавы буржуазных экономістаў і палітыкаў. Паводле слоў Бэрлінскага Коньюнктурнага Інстытуту: „ні ў аднэй з галін народнай гаспадаркі... ня відаць пакуль ніякіх прызнакаў палепшаньня. Сучасны крызіс носіць характар нявіданых да гэтых часоў у Нямеччыне цяжкасьцяй“.

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца разьдзелам падрыхтоўваемай да друку працы па с/г. Нямеччыны.

Становішча сельскай гаспадаркі Нямеччыны пагаршаецца, з аднаго боку, цяжарам падаткаў, а з другога—процантамі па запазычанасьці. Даныя досьледаў па Усходняй Прусіі гавораць за тое, што падаткі за апошнія тры гады павялічыліся ў 2 разы. Акрамя гэтага, Нямеччына знаходзіцца пад уціскам замежнага фінансавага капіталу. Нямеччына, паводле даных Коньюнктурнага Інстытуту, па адных толькі рэпарацыях і процантах па пазыках павінна плаціць 125 мільёнаў рублёў золатам у месяц. Усё гэта ёсьць вынік пляну Юнга і вялікай запазычанасьці, за якую прыходзіцца разьлічвацца нямецкаму народу за кошт мускулаў пролетарыяту і за кошт голаду і абядненьня шырокіх працоўных мас.

Як ніколі, у сучасны пэрыод, праяўляецца асноўная супярэчнасьць капіталістычнага ладу, гэта—супярэчнасьць паміж грамадзкім характарам вытворчасьці і прыватным характарам прысваеньня. Гэта прывяло да концэнтрацыі багацьця на адным канцавосьці і да абядненьня, да голаду—на другім. Гэта прывяло да згуртаваньня вялізарнейшых капіталаў і сродкаў вытворчасьці ў руках невялікай горсткі буржуазіі і да росту беспрацоўя, да разбурэньня мільёнаў дробных тавара-вытворцаў.

Аграрная буржуазія Нямеччыны сконцэнтравала ў сваіх руках большую частку усіх годных сельска-гаспадарчых зямель.

Згодна апошняму падліку Нямеччына мае наступнае разьмеркаваньне зямлі па асобных соцыяльных групах (у процантах): [1])

| Групы | Лік гаспарак у групе (у тысяч.) | % гаспадарак у групе | У іх зямлі % |
|---|---|---|---|
| Ніжэй 2 га | 3.027,0 | 59,4 | 6,2 |
| Ад 2 да 5 га | 894,5 | 17,6 | 11,4 |
| „ 5 „ 20 „ | 956,0 | 18,6 | 35,8 |
| „ 20 „ 100 „ | 200,0 | 4,0 | 26,4 |
| Вышэй 100 га | 18,5 | 0,4 | 20,2 |
| | 5.096,0 | 100 | 100 |

З гэтай табліцы відаць, што больш паловы ўсіх гаспадарак з плошчаю да 2-х *га*, але ўся гэта вялізарная група ўладае ўсяго па Нямеччыне 6,2% зямлі! Па некаторых провінцыях гэта група яшчэ больш абезьзямелена. Так, па Усходняй Прусіі група да 2-х *га* складае 52,3% ад усіх гаспадарак, а зямлі ў яе распараджэньні ўсяго 2,5%. Калі ўзяць усе гаспадаркі да 5 *га*, дык яны па Нямеччыне складаюць 77%, больш $^3/_4$, а маюць яны ўсяго 17,6% зямлі. Па Усходняй Прусіі гэта разыходжаньне яшчэ большае, у групе да 5 *га* 67,1% ад усіх гаспадарак, а зямлі ў іх толькі 7 процантаў. Гаспадаркі буйныя, абшарніцкія, якія маюць зямельнай плошчы звыш 100 *га*, складаюць групу менш паловы проценту па ўсёй Нямеччыне, а сконцэнтравалі ў сваіх руках каля чацьвертай часткі зямельнай тэрыторыі. Калі-ж аб'яднаць дзьве групы і ўзяць разам усе гаспадаркі, маючыя звыш

[1]) Statistisches Jarhbuch für das Deutsche Reich, 1930.

20 *га*, дык яны складаюць 4,4% ад усіх гаспадарак Нямеччыны, а ўладаюць 46,6% усёй зямельнай тэрыторыі.

Гэтыя даныя гавораць за тое, што ўдзельная вага буйных капіталістычных прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы надзвычайна вялікая. І гэта ў той час, калі з 5 мільёнаў усіх гаспадарак Нямеччыны, 3 мільёны маюць зямельны надзел да 2 *га* і пазбаўлены нават таго зямельнага мінімуму, без якога немагчыма самастойнае гаспадараньне. Само сабою зразумела, што падобнае становішча вельмі выгодна аграрнай буржуазіі. Яна ў асобе гэтых „гаспадароў" мае заўсёды пад рукамі танную рабочую сілу, з якой можна выціскаць дадатковую вартасьць. Будучы прывязаны да сваёй парцэлы, такі селянін уяўляе сабою пажаданую для абшарніка рабочую сілу, якая не патрабуе, пры адсутнасьці працы, дадатковых сродкаў не яе ўтрыманьне.

Лік гаспадарак да 2-х *га* павялічыўся ў параўнаньні з 1907 годам на палову мільёна. Гэтаму садзейнічаў і выданы ў 1919 годзе ў Нямеччыне закон аб унутранай колёнізацыі. Сутнасьць гэтага закону зводзілася да продажу абшарнікамі, на добраахвотных пачатках, зямельных лішкаў. Правядзеньне закону па адшуканьні колёнізацыйных фондаў было ўскладзена на саюз буйных земляўласьнікаў. У выніку правядзеньня гэтага закону аграрная буржуазія ня толькі нічога ня страціла, але нават выйграла. Распрадаўшы горшыя кавалкі зямлі, яна атрымала вялізарныя капіталы і танную рабочую сілу ў выглядзе дробных колёністаў, абцяжараных плацяжамі за набыты невялікі кавалак зямлі. Едучы па Нямеччыне, можна ўсюды сустрэць маленькія, часьцей не дабудаваныя дворыкі пасяленцаў. Характэрна тое, што „гаспадары" гэтых дворыкаў амаль заўсёды працуюць дзе-нібудзь на прадпрыемстве, альбо батракамі ў абшарнікаў і толькі ў час палявых работ прыяжджаюць, і то часьцей сем'і, на гэты свой кавалак зямлі. На запытаньне аб выплаце заўсёды чуеш адказ: „не, яшчэ ня выплаціў", хаця з часу, калі ён пачаў карыстацца зямлёй, прайшло ўжо больш дзесяці гадоў.

Вышэй намі прыведзены даныя мобілізацыі зямельнай уласнасьці паасобнымі соцыяльнымі групамі вясковага насельныцтва. Лічбы разьмеркаваньня зямлі па групах часткова характарызуюць соцыяльную структуру сельскай гаспадаркі Нямеччыны. На жаль, оффіцыйная нямецкая статыстыка не дае іншых паказальнікаў дыфэрэнцыяцыі вясковага насельніцтва. Аднак, я распалагаю данымі разьмеркаваньня розных відаў жывёлы па асобных соцыяльных групах Усходняй Прусіі. Гэтыя даныя прадаставіў мне экономіст усходня-пруской сельска-гаспадарчай палаты Бэкер. Паколькі соцыяльная структура сельскай гаспадаркі Усходняй Прусіі мала чым адрозьніваецца ад усёй Нямеччыны, таму гэтыя даныя будуць у некаторай ступені характарызаваць усю Нямеччыну. Разьмеркаваньне-ж жывёлы Усходняй Прусіі па соцыяльных групах наступнае (у процантах):

| Групы | Коняй | Кароў | Сьвіней | Авец | Птушак |
|---|---|---|---|---|---|
| Да—2 га | 1,5 | 11,6 | 25,3 | 12,9 | 32,4 |
| Ад 2— 5 га | 6,8 | 8,6 | 8,8 | 2,5 | 10,7 |
| „ 5— 20 „ | 27,7 | 26,2 | 24,3 | 17,1 | 27,1 |
| „ 20—100 „ | 34,7 | 28 | 23,8 | 31,0 | 22,0 |
| „ 100 і больш | 29,3 | 24,8 | 17,8 | 36,5 | 7,8 |

Як бачым буйныя капіталістычныя гаспадаркі, у якіх знаходзіцца на кожную больш 100 *га* зямлі і якіх ва ўсёй Нямеччыне менш паловы проценту (0,4), сконцэнтравалі ў сваіх руках 29,3% коняй, 24,8% кароў, 17,8% сьвіней, 36,5% авец. Узяўшы-ж разам дзьве верхнія групы, ад 20 *га* і вышэй, атрымаем, што, займаючы ўсяго каля пяці процантаў ад усіх гаспадарак, гэта абшарніцка-кулацкая група ўладае 64% коняй, 53,6% кароў, 67,5% авец, 41,6% сьвіней і 29,8% птушак. Група да 2-х *га* складае 59,4% ад усіх гаспадарак, а ўладае толькі 1,5% коняй, 11,6% кароў, 25,3% сьвіней. Больш паловы ўсіх гаспадарак Нямеччыны ня маюць коняй! Гэта вялізарная армія знаходзіцца ў залежнасьці ад абшарнікаў і кулакоў, якія бязьлітасна эксплёатуюць саміх такіх „гаспадароў“ і іх сем'і.

Сельская гаспадарка Нямеччыны яшчэ не дасягнула даваеннага ўзроўню. Нават у апошнія гады ў сувязі з вострым прамысловым і аграрным крызісам, яна ня толькі не разьвіваецца, але занепадае. Досыць прывесьці некалькі лічбаў, каб убачыць поўную дэградацыю сельскай гаспадаркі Нямеччыны. Так, пасеўная плошча ў цэлым і па асноўных культурах была (у тыс. *га*): [1])

| Гады | Уся пасеўплошча | Пад жытам | Пад пшаніцай | Пад аўсом | Пад бульбай |
|---|---|---|---|---|---|
| 1913 . . . . | 21.486 | 5.259 | 1.676 | 3.924 | 2.802 |
| 1924 . . . . | 20.225 | 4.260 | 1.466 | 3.524 | 2.760 |
| 1927 . . . . | 20.687 | 4.698 | 1.748 | 3.475 | 2.799 |
| 1928 . . . . | 20.618 | 4.634 | 1.727 | 3.519 | 2.848 |
| 1929 . . . . | 20.580 | 4.726 | 1.600 | 3.558 | 2.835 |

Побач з памяншэньнем пасеўнай плошчы маецца значнае скарачэньне агульнага збору хлябоў. Аб гэтым ясна гавораць наступныя лічбы (у тыс. тон.) [2])

| Гады | Жыта | Пшаніца | Бульба |
|---|---|---|---|
| 1913 . . . . | 10.130 | 4.036 | 44.013 |
| 1924 . . . . | 5.730 | 2.427 | 36.402 |
| 1928 . . . . | 8.522 | 3.853 | 41.269 |
| 1929 . . . . | 8.155 | 3.349 | 30.077 |

Дэградацыя сельскай гаспадаркі сказалася ня толькі ў скарачаньні пасеўнай плошчы, ня толькі ў памяшчэньні збору хлябоў, але і ў па-

[1]) Statistisches Jarhbuch für das Deutsche Reich, 1930.
[2]) Там-жа.

ніжэньні ўраджайнасьці. Так, ураджайнасьць асноўных культур за апошнія гады характарызуецца наступнымі лічбамі (у цэнтн. з *га*). [1])

| Гады | Жыта | Пшаніца | Авёс | Ячмень | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|
| 1913 . . . . | 19,3 | 24,1 | 22,0 | 22,0 | 157,1 |
| 1924 . . . . | 13,5 | 16,6 | 16,0 | 16,6 | 131,9 |
| 1925 . . . . | 17,1 | 20,7 | 16,2 | 18,1 | 148,5 |
| 1926 . . . . | 13,5 | 16,2 | 18,2 | 16,6 | 108,8 |
| 1927 . . . . | 14,5 | 18,8 | 18,3 | 18,5 | 134,1 |
| 1928 . . . . | 18,4 | 22,3 | 19,9 | 22,0 | 144,9 |
| 1929 . . . . | 17,3 | 20,9 | 20,7 | 20,5 | 141,4 |

Хаця ў параўнаньні з іншымі краінамі ўраджайнасьць сельскай гаспадаркі Нямеччыны высокая, аднак, яна яшчэ не дасягнула даваеннага ўзроўню.

Становішча жывёлагадоўлі толькі дапаўняе той сумны малюнак, які маецца ў палявой гаспадарцы. Калі мы возьмем асноўныя віды жывёлы, дык пабачым, што яны ня толькі не ўзьняліся на даваенны ўзровень, але нават адбываецца ў апошнія гады скарачэньне. Дынаміка пагалоўя жывёлы характарызуецца наступнымі данымі (у тысяч. галоў): [2])

| Гады | Коні | Каровы | Сьвіньні | Авечкі | Козы |
|---|---|---|---|---|---|
| 1913 . . . . . . . | 3.806 | 18.474 | 22.533 | 4.988 | 3.163 |
| 1924 . . . . . . . | 3.855 | 17.326 | 16.894 | 5.735 | 4.359 |
| 1928 . . . . . . . | 3.717 | 18.414 | 20.105 | 3.634 | 2.890 |
| 1929 . . . . . . . | 3.617 | 18.032 | 19.944 | 3.479 | 2.625 |

У чым асноўная прычына заняпаду сельскай гаспадаркі Нямеччыны? Асноўнай прычынай дэградацыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца нізкае спажыцьцё продуктаў асноўнымі масамі насельніцтва. Так, душавое спажыцьцё хлябоў паменшылася ў параўнаньні з даваенным часам на 30%, бульбы на 20%. Вельмі нізкае спажыцьцё асноўных продуктаў сельскай гаспадаркі гаворыць за тое, што жыцьцёвы ўзровень нямецкага рабочага ўсё яшчэ ніжэй даваеннага. Крызіс сельскай гаспадаркі ў значнай ступені абумоўлены і нізкай пакупальнай здольнасьцю насельніцтва. Для такой індустрыяльнай краіны, як Нямеччына, ўзровень заработнай платы зьяўляецца рашаючым фактарам у справе павялічэньня спажыцьця і ў прыватнасьці продуктаў сельскай гаспадаркі. Пры нізкім-жа ўзроўні заработнай платы, і тым колёсальнейшым беспрацоўі, якое зараз маецца ў Нямеччыне, усякія спробы ўзьняць

[1]) Statistisches Jarhbuch für das Deutsche Reich, 1930.
[2]) Там-жа.

сельскую гаспадарку, шляхам падвышэньня пошлін на продукты, ніякіх рэальных вынікаў не дадуць.

Цэны на ўсе сельска-гаспадарчыя продукты ў Нямеччыне стаяць ніжэй даваеннага ўзроўню і маюць тэндэнцыю да далейшага падзеньня. Гэта прыводзіць да разарэньня ня толькі дробныя гаспадаркі, абцяжараныя падаткамі і плацяжамі па пазыках, а і абшарнікаў-арандатараў. Як вядома, цэны маглі-б стабілізавацца толькі пры ўмове дрэнных ураджаяў як ў самой Нямеччыне, так і ва ўсім сьвеце. Аднак, 1930 г. быў годам параўнаўча ўраджайным, а гэта прыводзіць якраз да яшчэ большага паглыбленьня аграрнага крызісу.

Для характарыстыкі таго, які жах ахопліваў буржуазію добры ўраджай мінулага году, дастаткова прывесьці вытрымкі з нямецкай газэты „Das Tagebuch" за 14 ліпеня 1930 г. „Усё яшчэ",—піша газэта,—па-ранейшаму ў нямецкіх царквох кожны тыдзень моляць госпада-бога аб добрым ураджаі. Але гэтыя малітвы гучаць ня больш, як прывычнай і трагічнай хлусьнёю. У той час як вусны бармочуць старажытныя малітвы, сэрца здрыгаецца пры думцы аб магчымасьці іх ажыцьцяўленьня. З непакоем і нянавісьцю глядзіць гаспадар на празьмернае абільле пасьпяваемай жатвы... У той час як, з аднаго боку, ёсьць мільёны людзей, ня ведаючых як пракарміць сябе, маюцца і другія людзі, якім добры ўраджай здаецца зданьню, якая пагражае яшчэ ніжэй спусьціць цэны і нанесьці ўдар па яго становішчу.

Яскравым паказчыкам аграрнага крызісу зьяўляецца банкроцтва гаспадарак. Тэмп банкроцтва відаць з наступных лічбаў продажу з таргоў зямельных вучасткаў:

| Гады | Колькасьць гаспадарак | Плошча ў га |
|---|---|---|
| 1923 . . | 5 | 9 |
| 1924 . . | 84 | 1.517 |
| 1925 . . | 336 | 6.444 |
| 1926 . . | 868 | 29.668 |
| 1927 . . | 1.059 | 31.971 |
| 1928 . . | 1.373 | 43.538 |
| 1929 . . | 2.452 | 103.851 |

Аграрны крызіс выклікаў масавае разарэньне дробнага сялянства. Ён нанёс вялікі ўдар па гэтаму соцыяльнаму валу, які, трымаючыся за сваю парцэлу, абараняе капіталістычную ўласнасьць. Крызіс, які з дня ў дзень паглыбляецца, разьвівае процэс дыфэрэнцыяцыі сялянства. Дробныя сялянскія гаспадаркі Нямеччыны з зямельным надзелам да 5 *га*, а іх усяго 75%, якія да гэтага часу падтрымлівалі сваё „самастойнае" існаваньне і якія разьлічвалі ўзьняцца пры капіталізьме на больш высокі ўзровень, у выніку аграрнага крызісу разараюцца і скатваюцца ў шэрагі пролетарыяту, папаўняюць армію беспрацоўных. Вера ў прыватную ўласнасьць падрываецца, бо тысячы сялянскіх гаспадарак штодзенна прадаюцца з аукцыёну.

Ня гледзячы на агульныя ўмовы гніеньня капіталізму, буйныя абшарніцкія і кулацкія гаспадаркі ў меншай ступені церпяць ад кры-

зісу. Яны шукаюць выхаду ў рацыяналізацыі вытворчасьці, за кошт нажыму на батрацкія масы, шляхам ужываньня ў шырокіх разьмерах жаночай і дзіцячай працы. Аплата працы жанчын у сельскай гаспадарцы Нямеччыны, як правіла, у 2 разы ніжэй за аплату працы мужчыны, а праца падлеткаў ніжэй у тры-чатыры разы. Менш траціць абшарніцкая гаспадарка яшчэ і таму, што яна скарыстоўвае перавагі буйнай гаспадаркі над дробнай. Цана вытвару ў буйнай гаспадарцы ніжэй, ёй значна таньней абыходзяцца продукты прамысловасьці, меншы процант па пазыках і г. д. Акрамя гэтага, на буйныя гаспадаркі адносна менш падае цяжар падаткаў. Усё гэта ўзятае разам да некаторай ступені паралізуе, зьмягчае аграрны крызіс у адносінах да буйных капіталістычных гаспадарак.

Каб супроцьстаяць руйнуючай сіле аграрнага крызісу, буйныя абшарніцкія гаспадаркі ўтвараюць акцыянэрныя кампаніі. Так, ва Усходняй Прусіі ўтворана сельска-гаспадарчая акцыянэрная кампанія, якая аб'ядноўвае 16 гаспадарак з агульнай плошчай у 46 тысяч *га*. Гэта кампанія вядзе сумесныя закупкі і збыт, бяруцца агульныя крэдыты, утвараецца абмен жывёлай і насенным матэрыялам, уся гэта дзейнасьць рэгулюецца цэнтральным праўленьнем. Падобныя концэрны існуюць і ў іншых провінцыях Нямеччыны. Усё гэта крыху зьмякчае ўдары аграрнага крызісу па буйных капіталістычных гаспадарках.

Зусім катастрофічнае становішча дробных і сярэдніх гаспадарак. Цэны вытвару ў іх вышэй, чым у буйных гаспадарках. Удасканаленыя машыны і складаны інвэнтар, ужываемы ў буйных гаспадарках, дробным гаспадаркам не даступны. Узрастаючая з бегам часу запазычанасьць, рэнта, падаткі лажацца ўсім сваім цяжарам на дробнае і сярэдняе сялянства. Калі прамысловы крызіс больш за ўсё разарае дробныя прадпрыемствы, дык таксама аграрны крызіс больш руйнуюча адбіваецца на дробнай сялянскай гаспадарцы.

Ці разумее гэта становішча буржуазія? А калі разумее, дык што яна прапануе для выхаду з вострага аграрнага крызісу? Буржуазія не знаходзіць для сялянства іншага выхаду, акрамя таго, які яна ўжывае ў прамысловасьці. Гэта абмежаваньне вытворчасьці, затрыманьне разьвіцьця вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы. Аднак, і гэта прапануемае буржуазіяй „вырашэньне“ аграрнага крызісу ня ўказвае выхаду для шырокіх сялянскіх мас з таго тупіку беднасьці і галечы, у які яна папала.

Нямеччына зьяўляецца клясычнай краінай, дзе капіталістычная рацыяналізацыя больш за ўсё праводзіцца за кошт нажыму на рабочую клясу. Вялізарная эксплёатацыя рабочых мае месца ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы. Як прамысловы, гэтак і аграрны капітал папаўняецца выключна за кошт выжыманьня дадатковай вартасьці.

Эксплёатацыя сельска-гаспадарчых рабочых ідзе як шляхам удліненьня рабочага дня, так і праз яго ўшчыльненьне, рацыяналізацыю. Афіцыйна даўжыня рабочага дня ў сельскай гаспадарцы Нямеччыны ў сярэднім раўняецца 9,5 гадзінам, фактычна-ж яна значна большая. Так, лічыцца, паводле ўмоў, што ў летні час рабочы павінен працаваць 11 гадзін у дзень, тады як на справе ён працуе з цёмнага і да цёмнага, г. ёсьць ня менш 16-17 гадзін.

Заработная плата сельска-гаспадарчых рабочых вельмі нізкая. У сярэднім на Нямеччыне прыпадае мужчыне 30 пфэнігаў у гадзіну. Аплачваецца, вядома, толькі за афіцыйна вызначаныя ўмовай гадзіны, а не за ўвесь час, які фактычна прыходзіцца працаваць. Калі па вы-

працоўцы праца жанчын і падлеткаў нічым не адрозьніваецца ад мужчынскай, дык па заработнай плаце гэта розьніца ў два, тры разы. Гэтым і тлумачыцца імкненьне аграрыяў і капіталістаў да большага ўнядрэньня ў вытворчасьць жаночай працы і падлеткаў і выцясьненьня мужчынскай.

У цэлым радзе сельска-гаспадарчых работ шырока ўжываецца і праца дзяцей. Прычым, арыгінальна, што аплата дзіцячай працы ні кім не рэгулюецца. Яна ўстанаўляецца самім абшарнікам і часта значна ніжэй пражытачнага мінімуму.

Амаль, як правіла, заработная плата выдаецца палова грашыма і другая палова натурай. Цікава адзначыць тое, што буйныя аграрыі Нямеччыны імкнуцца прымацаваць рабочага ў сваёй гаспадарцы на некалькі гадоў. У падобным выпадку, паводле іх слоў, „рабочы больш радзее гаспадарцы“. Дасягаецца гэта наступным шляхам. Пры залічэньні на працу робіцца ўмова. Абшарнік прадастаўляе рабочаму, альбо невялічкі кавалак зямлі, ці карову. Гэты невялічкі зямельны вучастак рабочы выплачвае на працягу некалькіх гадоў і, будучы прымацаввны да гаспадаркі, ён прымушаны служыць верай і праўдай свайму абшарніку. І гэтая з надворнага выгляду „добрадзецель абшарніка“ ператвараецца ў сваю процілегласьць, бо рабочы і яго сям‘я, як іх не эксплёатуй, так ці інакш, да выплаты павінны заставацца ў гэтай гаспадарцы. Падобны тып рабочага, з сваёй парцэлай, вельмі выгодны абшарнікам і ўласьцівы ўсім капіталістычным краінам.

Аплата працы, згодна ўмовы паводле ўстаноўленых тарыфаў, трактавалася як мінімальная, на справе-ж абшарнікі лічаць яе максымальнай і ў тых выпадках, калі рабочы не давыконвае ўстаноўленай нормы, ён падвяргаецца штрафам, яго заработная плата памяншаецца самім аграрыем. Эксплёатацыя сельска-гаспадарчых рабочых узмацняецца яшчэ і шляхам увядзеньня прэмій за лепшую і хутчэй выконваемую працу. У падобных выпадках заработная плата больш сільных і спрактыкаваных рабочых крыху павялічваецца, але за тое вельмі зьніжаецца аплата працы пераважнай большасьці рабочых. У сельскай гаспадарцы, таксама як і ў прамысловасьці, буйныя аграрыі імкнуцца правесьці дыфэрэнцыяцыю сярод сваіх рабочых. Вылучаюцца больш адданыя, лепш аплачваемыя рабочыя і супроцьстаўляюцца ўсёй астатняй масе ніжэй аплачваемых. Першая горстка рабочых-арыстократаў дапамагае абшарніку па магчымасьці больш выжымаць дадатковай вартасьці з пераважнай большасьці менш кваліфікаваных рабочых. Акрамя гэтага, супроцьстаўленьне аднэй групы рабочых другой утварае ўмовы немагчымасьці ўтварэньня адзінага фронту рабочых супроць аграрыяў.

У Нямеччыне існуе саюз сельска-гаспадарчых рабочых, але працы сярод мас ён амаль зусім не вядзе і нічога ня робіць для павялічэньня аплаты і палепшаньня ўмоў працы. Гэта тлумачыцца тым, што вярхі гэтага саюзу адарваны ад мас і знаходзяцца ў непасрэднай сувязі з саюзам буйных аграрыяў. Цікава адзначыць, што ня гледзячы на вялікія зьмены ва ўмовах працы сельска-гаспадарчых рабочых, якія адбыліся ў апошнія гады, усё законадаўства, рэгулюючае працу ў сельскай гаспадарцы, засталося старое. Тое, што было вызначана законамі, выданымі ў 1918-19 гадох, і што спрыяе абагачэньню аграрыяў цалкам скарыстоўваецца ў сучасны пэрыод. Аграрыі імкнуцца да таго, каб у новых умовах, пры машынізацыі і капіталістычнай рацыяналізацыі было захавана старое законадаўства, у якім замацаваны яшчэ паўпрыгоньніцкія адносіны ў вёсцы. Так, напрыклад, забараняецца кідаць працу ў пэрыоды палявых прац, як пасеў і ўборка

ўраджаю, абшарнікі вызваляюцца ад ўзносаў на страхаваньне ад беспрацоўя і г. д.

Тое беспрацоўе, у якім знаходзіцца сельска-гаспадарчы пролетарыят, паглыбляецца яшчэ і тым, што ў апошнія гады выданы законы супроць адыходу ў гарады. На гарадзкіх біржах працы зусім не рэгіструюцца сельска-гаспадарчыя рабочыя, нават больш таго, усе ўзятыя на вучот здымаюцца і накіроўваюцца ў вёску. Існаваньне такіх законаў садзейнічае бязьлітаснай эксплёатацыі сельска-гаспадарчых рабочых з боку аграрнага капіталу, у рукі якога яны пападаюць. Як бачым, у так званай вольнай буржуазна-дэмократычнай рэспубліцы існуюць паднявольныя формы працы. Тры мільёны сельска-гаспадарчага пролетарыяту Нямеччыны знаходзіцца ў бязвыходным становішчы. Аграрны крызіс штодзённа выкідае тры тысячы рабочых на вуліцы. Беспрацоўе і голад—вось пэрспэктыва нямецкага рабочага.

Капіталістычная рацыяналізацыя сельскай гаспадаркі адбываецца за кошт націску на рабочыя масы. Усе мерапрыемствы аграрыяў, накіраваныя на роўнамернае разьмеркаваньне працы на працягу году, усім сваім цяжарам лажацца на плечы сельска-гаспадарчага пролетарыяту. Выроўніваньне крывой занятасьці рабочай сілы адбываецца шляхам павялічэньня рабочага дня, шырокага ўжываньне звышмернай працы, працы дзяцей, скарыстаньне дзён адпачынку, сьвят—шляхам інтэнсыфікацыі працы. У выніку ўсяго гэтага пэўная праца ўкладваецца ў больш кароткі час і тым самым памяншаецца патрэба ў найме дадатковай рабочай сілы ў пэрыод летніх сельска-гаспадарчых прац.

Для таго, каб пераканацца ў празьмернай эксплёатацыі сельска-гаспадарчых рабочых, падамо некалькі прыкладаў нагрузкі на аднаго чалавека. Так, адзін рабочы на скотным двары павінен абслугоўваць ня менш 25 дойных кароў, альбо 80 штук маладняку. У сьвінагадоўлі: пры адкорме адзін рабочы павінен абслугоўваць 300 галоў, пры разьвядзеньні 80 матак з парасятамі. На ўвесь год на рабочага даецца 4 кані, на якіх ён павінен працаваць і даглядаць. Праўда, у летні час, калі характар працы патрабуе разьбіўкі коняй па-парна даецца дапамога, часьцей за ўсё падлеткаў.

Мэханізацыя сельскай гаспадаркі Нямеччыны суправаджаецца выцясьненьнем занятай рабочай сілы і большай напружанасьцю працы тых рабочых, якія застаюцца ў гаспадарцы. Наогул становішча сельскай гаспадаркі Нямеччыны цалкам пацьвярджае словы Маркса аб тым, што: „Як у гарадзкой прамысловасьці, у сучасным земляробстве падвышэньне продукцыйных сіл і павялічэньне інтэнсыўнасьці працы купляецца цаною разбурэньня і зьнясіленьня самой рабочай сілы“.

Сучасны крызіс сельскай гаспадаркі Нямеччыны і інш. капіталістычных краін лішні раз паказвае на практыцы, што толькі соцыялізм можа адчыніць простор і неабмежаваныя магчымасьці для разьвіцьця земляробства, што выхад з тупіку, у які заведзена капіталізмам сусьветная сельская гаспадарка толькі ў пролетарскай рэволюцыі.

---

Айзэнбэрг і Окур

# Капітуляцыя перад кандрацьеўшчынай пад шыльдай марксызму

Навукова-Дасьледчы Інстытут с/г. экономіі ў Маскве, дзе ў свой час акапаліся махровыя контр-рэволюцыянэры тыпу Кандрацьева, Чаянава, Чалінцава і г. д., зьяўляўся іх апорным пунктам ня толькі для падрыхтоўкі сваіх навуковых кадраў, але і для організацыі сіл змагаючыхся за нізрынуцьце савецкай улады і рэстаўрацыю капіталізму.

Вынікі шкодніцкай работы кандрацьеўшчыны адбіваюцца і ў работах, належачых у паасобных выпадках пяру комуністаў. У якасьці конкрэтнага прыкладу магчыма ўказаць на работы т. Пінчука.

Мы маем на ўвазе яго артыкул у часопісе „Савецкае будаўніцтва“ (май 1927 г.), яго рэцэнзію на работу Ждановіча (На аграрном фронте, № 9 1929 г.) і рэцэнзію на кніжку Кісьлякова „Пасёлкі“ (На аграрном фронте, № 7-29 г.). На ўсіх гэтых работах, хаця яны напісаны ў розныя часы, ляжыць адбітак ідэёвага багажу, узятага ім з кандрацьеўскай школы. У артыкуле „экономическая оценка культуры картофеля в условиях Белоруссии“ (да слова сказаць: ва ўсім артыкуле, які займае 12 старонак, ні разу не ўпамінаецца БССР) т. Пінчук зьдзіўляе нас надта вытрыманым выхалашчваньнем клясавага зьместу дасьледуемых ім экономічных зьявішч, але за гэтай надклясавасьцю прабіваецца яўна кулацкая ідэолёгія.

У 13 табліцах, якія павінны даць аналіз прыбытковасьці пасеваў бульбы у розных раёнах БССР, т. Пінчук дае сярэднія даныя на адну гаспадарку па раёнах, не зрабіўшы нават спробы даць клясавы аналіз, прыбягаючы да ўлюбёнай анты-марксыцкімі плынямі статыстыкі сярэдніх лічбаў, маючых сваёй мэтаю замазаць, затушаваць сапраўдныя клясавыя адносіны.

Праўда, у аднэй з 13 табліц даецца разьбіўка гаспадарак па пасевах, але з яе т. Пінчук умудрыўся зрабіць кулацкі вывад: „параўноўваючы гэтыя даныя, мы бачым, што на дзесяціну пасеву культуры бульбы траціцца ў два з лішнім разы больш працоўнай сілы як людзкой, так і конскай (!), чым на зернавыя хлябы і толькі па велічыні затрачваемай людзкой сілы бульба ўступае ільну, але за то выйграе ў велічыні конскай сілы, што мае вялікае значэньне ў сялянскай сельскай гаспадарцы, асабліва малазямельнай, дзе паўсюду скарыстаньне конскай сілы недастатковае“ („Савецкае будаўніцтва“, № 5, 1927 г., стар. 37).

Не застанаўліваючыся тут на крытыцы гэтага вываду, як усхваляючага дробную сялянскую гаспадарку, як трудаінтэнсыўную (такую крытыку мы дадзім у далейшым), не застанаўліваючыся такса-

ма на „дробязах“, як прымяненьне тэрміну „праца коняй“, мы толькі падкрэсьліваем тут, што гэты вывад адрозьніваецца антымарксыцкім формальным „бясклясавым“ падыходам да аналізу экономічных зьявішч.

Чаянаўская спадчыннасьць дае сябе адчуваць і ў далейшым, калі Пінчук дае азначэньне катэгорыі чыстага прыбытку ў сялянскай гаспадарцы, калі ён пераходзіць да аналізу пытаньняў організацыі гаспадаркі, політыкі цэн, мэтодаў зьнішчэньня аграрнага перанасяленьня, колектывізацыі і г. д.

Катэгорыі „чысты прыбытак“ Пінчук дае такое азначэньне:

„У нашым разуменьні чысты прыбытак будзе выражацца, як вартасьць, якая ствараецца працай сям'і (!), прычым у гэту вартасьць уваходзіць вартасьць рабочай сілы (у марксыцкім уразуменьні), [1]) якой адзначаецца ў асноўным рынчная цана рабочай сілы і вартасьць, якая складаецца дадатковай працай у сельскай гаспадарцы“ (т. стар. 37.)

Гэта азначэньне годна для любога кандрацьеўскага падручніка, бо:

а) някрытычна, мэханістычна пераносіць катэгорыі капіталістычнай гаспадаркі (чысты прыбытак) на сялянскую гаспадарку „наогул“ і яшчэ ва ўмовах СССР.

Буржуазнасьць такога мэтодолёгічнага падыходу вельмі відавочна,

б) Опэруючы чаянаўскімі катэгорыямі „праца сям'і“ т. Пінчук, пратасквае сямейна-працоўную тэорыю з усімі, як далей пакажам. экономіка-політычнымі вынікамі.

в) чысты прыбытак у т. Пінчука адзначаецца вартасьцю рабочай сілы і вартасьцю, якая ствараецца прыбытковай працай у сельскай гаспадарцы. Але адкуль узялася „вартасьць рабочай сілы“ (ды яшчэ „ў марксыцкім разуменьні“) у сялянскай гаспадарцы? Відавочна гутарка ідзе аб кулацкай гаспадарцы. Калі гутарка ідзе аб чыстым прыбытку, як капіталістычнай катэгорыі, дык сапраўды ў марксыцкім разуменьні чысты прыбытак раўняецца аднэй толькі дадатковай вартасьці.

Што т. Пінчук зьяўляецца прыхільнікам сямейна-працоўнай тэорыі, выдаць таксама з аналізу ім раду іншых экономічных катэгорый. Так, пераходзячы да пытаньня організацыі гаспадаркі, т. Пінчук піша: „Паколькі ў сучасны момант *унутрыгаспадарчыя фактары*, [2]) *а таксама* агрыкультурная і экономічная політыка савецкай улады выклікаюць разьвіцьцё ў сялянскай сельскай гаспадарцы інтэнсыўных і таварных культур, трэба чакаць, што ў бліжайшыя гады пасеўная плошча пад бульбай, а таксама і прадзільнымі культурамі і травамі будзе мець тэндэнцыю да пашырэньня (стар. 40).

Ітак, унутрыгаспадарчыя фактары (так і прэ вучнем Чаянава)— з аднаго боку, „агрыкультурная і экономічная політыка савецкай улады“—з другога боку—вось што па т. Пінчуку вызначае структуру і дынаміку разьвіцьця нашай сялянскай гаспадаркі.

Якая роля соц. гораду? Па т. Пінчука роля яго зводзіцца да аднаго з фактараў і прытым па сутнасьці другараднага парадку. Ці могуць „унутрыгаспадарчыя фактары“ дробна-таварнай сялянскай гаспадаркі забясьпечыць сапраўды соцыялістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі? Калі так, то мы маем тэорыю „самацёку“

[1]) „Се лев, а не собака,“—казаў К. Пруткоў. „Зразумейце па-марксыцку, а не па-чаянаўску,“ —папярэджвае т. Пінчук.

[2]) Курсіў наш. У далейшым у цытатах з раб. т. Пінчука курсыў ўсюды наш— Г. А. і І. О.

ў соцыялістычным будаўніцтве. Калі не, дык гэта значыць, што соцыялістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі немагчымы.

Што гэта тэорыя „ўнутрыгаспадарчых фактараў", уласьцівая сялянскай гаспадарцы і вызначаючая ў асноўным у т. Пінчука эволюцыю сялянскай гаспадаркі, зьяўляецца рэакцыйнай тэорыяй, наўрад ці патрэбна гэта даказваць. Т. Сталін па поваду гэтае тэорыі гаворыць наступнае:

„Соц.-дэмократычныя тэорэтыкі тыпу Давіда і Герца, прапаведуючыя гэту тэорыю, імкнуліся пры гэтым „опереться" на той факт, што дробны селянін выносьлівы, церпялівы, гатоў прыняць на сябе любыя рашэньні, толькі каб адстаяць свой кусочак зямлі, што з погляду гэтага ў барацьбе з буйнай гаспадаркай у земляробстве дробна-сялянская гаспадарка праяўляе ўстойлівасьць. Няцяжка зразумець, што такая „ўстойлівасьць" хужэй усякай няўстойлівасьці. Няцяжка зразумець, што гэта антымарксыцкая тэорыя мае сваёй мэтай толькі адно: усхваленьне і ўмацаваньне капіталістычных парадкаў" (Сталін „Пытаньні ленінізму", стар. 621).

Неабходна прывесьці яшчэ адну цытату, каб паказаць, што т. Пінчук заняў позыцыю яўна антымарксыцкую па пытаньні аб фактах разьвіцьця дробна-сялянскай гаспадаркі.

„Ці магчыма сказаць, што наша дробна-сялянская гаспадарка разьвіваецца па прынцыпе васпраізводзтва. Не, гэтага нельга сказаць. Наша дробна-сялянская гаспадарка ня толькі не ажыцьцяўляе ў сваёй масе штогодна пашыранага васпраізводзтва, але, наадварот, яна не заўсёды мае магчымасьць ажыцьцяўляць нават простае васпраізводзтва" (Сталін. „Да пытаньня ленінізму" — ст. 616 — выд. 1931 г.), і далей: „Гэта ўнутраная супярэчнасьць знаходзіць сваё вырашэньне ў узбуйненьні гаспадаркі. Але, як яе ўзбуйніць?.. Для гэтага існуе два шляхі. Існуе шлях капіталістычны, які складаецца ў узбуйненьні сельскай гаспадаркі шляхам *насаджэньня* (падкр. намі — *А. і О).* у ёй капіталізму...

Існуе другі шлях, шлях соцыялістычны, які складаецца *ў насаджэньні* колгасаў і саўгасаў у сельскай гаспадарцы"... (Сталін) і далей т. Сталін гаворыць: „Стала быць пытаньне стаіць так: або адзін шлях, або другі шлях, або назад да капіталізму, або *ўперад да соцыялізму.*

Ніякога трэцяга шляху няма і ня можа быць. Тэорыя „роўнавагі" ёсьць спроба намеціць трэці шлях. І іменна таму, што яна разьлічана на трэці (ня існуючы) шлях, яна зьяўляецца ўтопічнай, антымарксыцкай" (Сталін — 167).

Тэорыя „ўнутрыгасп. фактараў" т. Пінчука, якраз і зьяўляецца і тэорыяй устойлівасьці дробнай сялянскай гаспадаркі, тэорыяй, прапаведваючай магчымасьць трэцяга шляху, і значыць, гэтая анты-марксыцкая тэорыя мае сваёй мэтай адно: „усхваленьне і ўмацаваньне капіталістычных парадкаў" (Сталін).

Такая-ж стаўка на капіталістычныя элемэнты ў т. Пінчука, калі ён пераходзіць да аналізу сутнасьці і ролі земляўпарадкаваньня.

Тав. Пінчук піша: „Неабходнай умовай організацыі правільнага плодазьмену зьяўляецца аб'яднаньне ўсіх дробных палосак гаспадаркі, ці ажыцьцяўленьне так званага земляўпарадкаваньня" (стар. 40) ці ў другім месцы на стар. 45 ён піша: „пераход да правільнага плодазьмену магчымы толькі пры ўпарадкаваньні і земляўпарадкаваньні праз зьвёрстваньне існуючай у даны час дробнапалосіцы".

Якая эканомічная сутнасьць такога земляўпарадкаваньня, т. Пінчук? Так, зьвёрстваньне дробнапалосіцы таксама магчыма двума шля-

хамі: як шляхам стварэньня хутароў, атрубоў, дробных пасёлкаў, так і шляхам колектывізацыіі.

Паколькі тав. Пінчук ня зьвязвае гэту проблему з колектывізацыяй, дык, відавочна, што зьвёрстваньне мысьліма толькі другім шляхам, шляхам капіталістычным.

Трэцяга не дано т. Пінчук!

Кандрацьеўскае разуменьне паказвае т. Пінчук і тады, калі ён пераходзіць да проблемы спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі.

Ставячы пытаньне: організацыя якіх севазварота ва ўмовах БССР будзе найбольш рацыянальнай, т. Пінчук адказвае: „Той ці іншы тып севазваротаў абумоўліваецца натуральна-гістарычнымі і экономічнымі фактарамі, а так як гэтыя фактары ў розных раёнах неаднолькавы, дык і гэтыя севазвароты, павінны быць розныя. Уводзячы той ці іншы севазварот, неабходна выходзіць з *асноўнага напрамку* сельскай гаспадаркі данага раёну (стар. 40). Па-першае, што мае на ўвазе т. Пінчук, калі ён гаворыць аб розных экономічных фактарах у розных раёнах. Вышэй мы бачылі, што па т. Пінчуку разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі азначаецца ўнутрыгаспадарчымі фактарамі, а таксама агрыкультунай і экономічнай палітыкай савецкай улады. Наўрад ці будзе т. Пінчук супярэчыць таму становішчу, што палітыка савецкай улады выходзіць з адзінага прынцыпу пабудовы соцыялізму ў нашай краіне. Гэта, аднак, не выключае, а наадварот, мяркуе неабходнасьць рознастайнасьці форм і мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні гэтай палітыкі ў розных рэспубліках і раёнах СССР. Адсюль відаць, што пад рознымі экономічнымі фактарамі т. Пінчук разумее толькі ўнутрыгаспадарчыя фактары, а не агрыкультурную і экономпалітыку савецкай улады. Значыць, раней т. Пінчук міласьціва ўключыў агрыкультурную і экономпалітыку савецкай улады, як адзін з фактараў, адзначаючых разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі. Цяпер-жа палітыка савецкай улады адкідваецца зусім і застаецца ў сваёй няпрыкрытай аголенасьці чаянаўская тэорыя ўнутрыгаспадарчых фактараў.

Па-другое, унутрыгаспадарчыя, то біш „экономічныя фактары“, па т. Пінчуку, розныя толькі па розных раёнах. Выходзіць, што ў адным і тым-жа раёне ня можа быць розных тыпаў севазвароту ў кулацкай і бядняцкай гаспадарцы, бо ў гэтых гаспадарках, па т. Пінчуку, экономічныя фактары аднолькавы.

Не гаворачы ўжо аб гэтай таемнасьці сьцьвярджэньня т. Пінчука аб неаднолькавасьці „экономічных фактараў“ у розных раёнах, т. Пінчук па сутнасьці тут аднаўляе тэорыю контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму аб „самабытнасьці“ Беларусі, аб неабходнасьці „пабудовы мясцовай беларускай сельска-гаспадарчай экономіі“ (Кісьлякоў),— ён аднаўляе тут яўна кандрацьеўскія ідэі ў адносінах задач савецкай ўлады і ў галіне раёнаваньня і спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі.

Тав. Пінчук прапануе пры вырашэньні проблемы спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі выходзіць толькі з складзенага у тым ці іншым раёне асноўнага напрамку сельскай гаспадаркі, зусім ня ўлічаючы, ня зьвязваючы гэтай проблемы з задачай соцыялістычнага будаўніцтва ў цэлым, — аднаўляе кандрацьеўскае разуменьне ўзаемаадносін паміж прогнозам і дырэктывай, зводзячы ролю плянаваньня толькі да вучоту *складзенага ўжо напрамку* і абмежаваньня ролі пролетарскай дзяржавы ў раёнаваньні сельскай гаспадаркі прыстасаваньнем да ўжо складзенага напрамку ў галіне сельскай гаспадаркі. Актыўная роля пролетарскай дзяржавы ігноруецца, замест яе дана тэорыя „самацёку“ ў галіне спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі.

Гаворачы аб зьвёрстваньні палосак, аб спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, аб якім шляху разьвіцьця, на якую гаспадарку орыентуецца т. Пінчук. Па сутнасьці сам т. Пінчук дае адказ на гэта пытаньне. Ён піша, што „ў раёнах з прамысловай пераапрацоўкай бульбы (Меншчына, Магілеўшчына і частка Палесься) гаспадарка пры пасеўнай плошчы бульбы прыкладна каля аднэй дзесяціны, будзе мець магчымасьць даваць бульбу на рынак“ (стар. 4). Калі ўлічыць, што сам т. Пінчук адзначае, што ў Беларусі пасеўная плошча бульбы складае 11% усёй пасеўнай плошчы, можна адразу ўпэўніцца ў тым, што ён орыентуецца на гаспадарку з 10-11 дзясяцінамі *пасеву*.

У другім месцы ён піша: „масавы пераход сялянскіх гаспадарак да бульба-травапольных севазваротаў (з бульба-ільняным варыянтам), ня гледзячы на значныя іх пераважнасьці, адразу будзе некалькі цяжкім, бо, акрамя некаторай сваёй структурнай складанасьці, гэтыя севазвароты патрабуюць значнага капітала-ўкладаньня ў выглядзе рабочай сілы(!), насеньня, угнаеньня і с/г. прылад. Пагэтаму пераход да іх будзе лягчэй адбывацца праз больш простыя севазвароты, як, напрыклад, чатырохпольны“ (стар. 41).

Не застанаўліваючыся на такіх „марксыцкіх“ сьцьвярджэньнях, як „капіталістычнае ў выглядзе рабочай сілы“, што т. Пінчук аднаўляе чаянаўскую тэорыю „варыянтаў“, адзначым толькі тую азбучную ісьціну, што ня ўвязваючы проблемы організацыі гаспадаркі з проблемай колектывізацыі, т. Пінчук орыентуецца на такія гаспадаркі, якія могуць сапраўды зрабіць вялікія капіталаўкладаньні, г. зн. на кулацкія гаспадаркі.

Ня будзем застанаўлівацца таксама на тым факце, што т. Пінчук пры аналізе прычыны распаўсюджваньня пасеваў бульбы да вайны ў Беларусі, не ўспамінае аб вялікай ролі буйнага панскага землеўладаньня.

Пярэйдзем цяпер да крытыкі разуменьня т. Пінчуком сутнасьці мэтодаў зжываньня аграрнай перанаселенасьці ў БССР.

Тав. Пінчук абсолютна не зразумеў экономічнай сутнасьці аграрнага перанасяленьня і пагэтаму прышоў да тыпова-кандрацьеўскіх вывадаў у адносінах шляхоў зжываньня аграрнага перанасяленьня.

Тав. Пінчук у распаўсюджваньні пасеваў бульбы, труда-інтэнсыфікацыі бачыць шлях зжываньня аграрнага перанасяленьня. Ён піша: „бульба-пераапрацоўваючая прамысловасьць мае яшчэ большае значэньне, як стымул да інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, дапамагаючы пашырэньню бульбы і скарыстаньню зернавых, а гэта *рацыяналізуе зернавую гаспадарку* і падрыхтоўвае яе да плодазьмену (стар. 44), ці ў іншым месцы *ў вывадах* свайго артыкулу ён піша: „Беларусь, як найбольш аграрна-перанаселеная з усіх рэспублік СССР, павінна *паскораным тэмпампайсьці па шляху інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, праз пашырэньне пасеўнай плошчы інтэнсыўных культур*. У натуральна-гістарычных умовах найбольш адпаведнай зьяўляецца культура бульбы (стар. 45).

Разуменьне трудаінтэнсыфікацыі, як шляху зжываньня аграрнага перанасяленьня ў дробнай сялянскай гаспадарцы, выходзіць з няправільнага разуменьня асаблівасьцяй гэтага зьявішча, як выніку пранікаR̶ньня капіталістычных адносін у сельскую гаспадарку, дзе вельмі вялікія яшчэ былі перажыткі фэўдальна-прыгоньніцкіх адносін, якія тармазілі разьвіцьцё капіталізму ў сельскай гаспадарцы. Ленін кваліфікуе аграрнае перанасяленьне, як „штучнае перанасяленьне“, штучнае ў сэнсе спадчыннага ўтрыманьня тых прыгонных адносін, якія даўно

перажылі сябе і *не змаглі-б* пратрымацца без экзэкуцыі, расстрэлаў, карацельных экспэдыцый і г. д. Усякае сур'ёзнае палепшаньне ў становішчы масы, усякі сур'ёзны ўдар прыгонным перажыткам нямінуча падарвалі-б гэтае перанасяленьне вёскі" (том IX, стар. 664).

Як рассасваецца аграрнае перанасяленьне ва ўмовах СССР— т. Пінчук выходзіць з таго становішча, што ўвядзеньне інтэнсыўных культур „рацыяналізуе" сельскую гаспадарку, зьяўляецца панацыяй ад усяго нядобрага, робіць яе ўстойлівай.

Мы маем тэорыю ўстойлівасьці дробнай сялянскай гаспадаркі, усхваленьне дробных гаспадарак, як гаспадарак з вялікай трудаінтэнсыўнасьцю, неразуменьне, што гэта барбарскае раскраданьне чалавечай сілы зьяўляецца вынікам наяўнасьці дробнай, пакрышанай сялянскай гаспадаркі з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

„Бесканцовае раздрабленьне сродкаў вытворчасьці і абасабленьне саміх вытворцаў. Вялізарная растрата чалавечай сілы. Узрастаючае пагоршаньне ўмоў вытворчасьці і ўздаражаньне сродкаў вытворчасьці— неабходны закон парцэлярнай уласнасьці. Для гэтага спосабу вытворчасьці няшчасьце ў ураджайныя годы" (Кап. т. ч. II, стар. 336).

Ва ўмовах панаваньня капіталізму аграрнае перанасяленьне можа быць зжыта на аснове капіталістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі,ператварэньня поўпролетарскіх мас сялянства ў пролетарыяў, якія жывуць выключна ад продажу сваёй рабочай сілы таму, хто можа „зрабіць значныя капітала-ўкладаньні ў выглядзе рабочай сілы, насеньня, угнаеньня і г. д." (Пінчук).

Ва ўмовах СССР, паколькі т. Пінчук ня зьвязвае проблему зжыцьця аграрнага перанасяленьня з проблемай індустрыялізацыі і колектывізацыі, дык зусім відавочна, што ён ставіць стаўку якраз на капіталістычны шлях разьвіцьця с/г., як мэтод зжываньня аграрнага перанасяленьня СССР.

Зноў-жа, т. Пінчук, трэцяга шляху няма!

У канцы артыкулу т. Пінчук усё-такі ўспомніў аб колектывізацыі. Прывядзем гэта месца поўнасьцю. Константуючы, што „зусім адсутнічае коопэрацыйная вытворчасьць і перааапрацоўка бульбы (бульб. коопэрацыя)" Пінчук гаворыць далей: „Ня прыходзіцца шмат казаць, наколькі важнае значэньне мае гэта коопэрацыя ў справе падняцьця малазямельнай сялянскай гаспадаркі, у колектывізацыі яе. Прыкладам можа служыць бульба-коопэрацыя цэнтральнага прамысловага раёну (Яраслаўская, Кастрамская, Уладзімірская і інш. губ.), ахопліваючыя да 25.000 сялянскіх гаспадарак пераважна малазямельных". І ў сувязі з гэтым т. Пінчук высоўвае наступную задачу: „Неабходна пропагандаваць яе (бульбакоопэрацыю—*А. і О.)* сярод сялянскага насельніцтва, а таксама знайсьці грашовыя сродкі для аказваньня дапамогі ў выглядзе крэдыту *насельніцтву* (якому?—*А. і О.*), жадаючаму стварыць бульба-коопэратыўныя аб'яднаньні (стар. 46).

Вышэйпаказаныя цытаты гавораць аб тым, што т. Пінчук гаворыць не аб той коопэрацыі, якая зьяўляецца шляхам да колектывізацыі сельскай гаспадаркі, соцыялістычнай рэконструкцыі с/г. вытворчасьці, а аб коопэрацыі, якая па Чаянаву павінна ўзмацняць індывідуальную гаспадарку, як індывідуальнае, што ў яго, як і ў Кандрацьева лёзунг „колектывізацыі" рэальна зводзіцца да коопэраваньня" (Кандрацьеў). Што гэта іменна так, відаць з таго, што, па-першае, т. Пінчук бярэ проблему „коопэрацыі" ў незалежнасьці ад проблемы соцыялістычнай індустрыялізацыі.

Па-другое, з таго, што ён прапануе пропагандаваць ідэю коопэрацыі сярод сялянскага насельніцтва, „аказаньня крэдыту насельніцтву, жадаючаму стварыць коопэратыўныя аб'яднаньні".

Наўрад ці прыходзіцца сумнявацца ў тым, што такая коопэрацыя, у якой удзельнічае ўсё насельніцтва, зьяўлялася-б апорным пунктам кулацтва для экономічнай і політычнай барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту, пунктам садзейнічаючым закабаленьню мільёнаў серадняцкіх і бядняцкіх мас кулацтвам.

Экономічная і політычная програма кандрацьеўшчыны, разгорнутая т. Пінчуком, ня была-б закончана, калі-б адсутнічаў пункт аб політыцы цэн, правадзімай партыяй і савецкай уладай. Тав. Пінчук і гэтага пытаньня ня кінуў бяз увагі.

Раючы інтэнсыфікацыю сельскай гаспадаркі, як меру рацыяналізіруючую зернавую гаспадарку, т. Пінчук піша: „Неабходнай прадпасылкай для разьвіцьця гэтага значэньня бульба-перапрацоўваючай прамысловасьці зьяўляецца спрыяючы ўзровень цэн на бульбу, які забясьпечвае рэнтабельнасьць вытворчасьці бульбы ў сельскай гаспадарцы. Сучасныя цэны на бульбу, хаця і вышэй даваенных, але параўнальна з цэнамі на іншыя сельска-гаспадарчыя продукты, яны менш спрыяючыя. Як ужо паказвалася, у мэтах зьніжэньня сабекошту адзінкі продукцыі крухмальнай прамысловасьці і мяркуецца зьніжэньне цэн на бульбу з 30 к. у 1925/26 г. да 18 к., 1929/30 г. за пуд. Напэўна, у сувязі з паляпшаючымся становішчам народнай гаспадаркі ў цэлым, з падняцьцем вытворчасьці працы належыць чакаць зьніжэньня цэн як на сельскагаспадарчыя тавары, так і прамысловыя, да чаго і накіравана экономічная політыка савецкай улады. Але ўсе-ж такі пры зьніжэньні цэн на бульбу неабходна захоўваць вялікую асьцярожнасьць, каб гэта зьніжэньне не адбілася адмоўна на вытворчасьці данай культуры" (стар. 44). Інакш кажучы, у той час, калі партыя і савецкая ўлада ўзялі рашучы курс на зьніжэньне цэн, т. Пінчук лічыць неабходным папярэдзіць „асьцярожней на паваротах".

Тав. Пінчук у даным пытаньні адзначыў настроі кулацкіх элемэнтаў вёскі, зацікаўленых у так званай „справядлівай цане" для збываемай продукцыі.

Інакш кажучы, т. Пінчук сумесна з усімі кандрацьеўцамі змагаецца за павышэньне цэн на с/г. продукты, пужаючы дэградацыяй сельскай гаспадаркі, скарачэньнем пасеваў і г. д.

У аснове ўсёй сыстэмы поглядаў, разгорнутых у гэтым артыкуле т. Пінчука, ляжыць кандрацьеўскае разуменьне савецкай экономічнай сыстэмы, як аднэй з форм таварна-грашовай гаспадаркі. Адсюль у яго падыход да экономічных зьявішч ня з пункту погляду патрэбнасьці соцыялістычнага будаўніцтва, а з пункту погляду ўнутры-гаспадарчых фактараў індывідуальнай (чытай кулацкай) сялянскай гаспадаркі.

Даючы экономічную ацэнку культуры бульбы ва ўмовах Беларусі, т. Пінчук пагэтаму выходзіць, па-першае, з аналізу чыстага прыбытку, атрымліваемага сялянскай сям'ёй, па-другое, з даваеннай ролі, якую адыгрывалі пасевы бульбы і бульба-перапрацоўваючая прамысловасьць (т. Пінчук малюе радужныя пэрспэктывы разьвіцьця вінакуранай прамысловасьці).

Адсюль пры вырашэньні проблемы спэцыялізацыі і раёнаваньня сельскай гаспадаркі, проблемы цэн на бульбу і г. д. т. Пінчук выходзіць не з задачы соцыялістычнай рэконструкцыі с/г. Наадварот, як верны вучань кандрацьеўска-чаянаўскай школы, ён выходзіць толькі з ужо ўстанавіўшайся спэцыялізацыі, з даваенных пропорцый у разь-

меркаваньні працы паміж асобнымі галінамі народнай гаспадаркі; адсюль і адпаведная палітыка цэн.

У аснове ўсёй гэтай мэтодолёгіі ляжыць небезьвядомая мэханістычная тэорыя роўнавагі, зьяўляючаяся тэорэтычнай зброяй контррэволюцыйнай кандрацьеўшчыны і правага ўхілу ўнутры партыі.

Усе гэтыя кандрацьеўскія ідэі практыкай социялістычнага будаўніцтва былі зьмецены, бо наша плянавае рэгуляваньне зусім ня зводзіцца да прадугледжаньня об'ектыўных тэндэнцый рынку, а выказвае волю пролетарыяту, які паставіў сабе задачу пабудаваць соцыялізм.

Неабходна зразумець, што „палітыка ёсьць концэнтраванае выяўленьне экономікі", што „палітыка ня можа ня мець пяршынства над экономікай. Разважаць інакш, значыць, забываць азбуку марксызму" (Ленін—3, выд., том XXVI, стар. 126).

Гэтыя словы, накіраваныя ў свой час супроць Бухарына і Троцкага, могуць быць з посьпехам прыменены і адносна т. Пінчука, не зразумеўшага суадносін паміж момантамі прогнозу і дырэктывы ў галіне плянаваньня.

Надта цікава супадзеньне пункту погляду т. Пінчука з ідэямі, разьвіваемымі ў кніжцы „Сельская гаспадарка БССР і мерапрыемствы па яе аднаўленьні", выд. у 1925 г. пад рэдакцыяй Прышчэпава пры ўдзеле небезьвядомых І. А. Кісьлякова, Ждановіча і Шыцькоўскага (характэрна, што гэты Шыцькоўскі запрошаны т. Пінчуком чытаць лекцыі па с/г. экономіі з С/Г. Акадэміі).

Такім чынам, мы бачылі, што ў вышэйпрыведзенай працы т. Пінчук цалкам і поўнасьцю стаіць на позыцыі кандрацьеўшчыны. Падрабязныя погляды т. Пінчук разьвівае у сваіх рэцэнзіях на кнігі Ждановіча і Кісьлякова.

Так, у часопісе „На аграрным фронце" № 9, за 1929 г. т. Пінчук у рэцэнзіі на кніжку Ждановіча: „Да пытаньняў абумоўліваньня разьвіцьця рыначнага сьвінаводзтва ў Беларусі"—піша: „Прадстаўнікі марсыцкай школы тэорэтычнай экономіі стаяць на тым пункце погляду, што гаспадарчая сыстэма пераходнага пэрыоду СССР карэнным чынам адрозьніваецца ад гаспадаркі буржуазнай грамады, бо ў першай поплеч з існуючымі яшчэ катэгорыямі грамады (грошы, цана, рынак) існуе новая катэгорыя, уласьцівая толькі організаванай грамадзе—плян. Апошні, дапамогаю ўсякіх рычагоў—дзяржпрамысловасьці, транспорту, фінансаў, крэдыту і г. д. пранікае на рынак, падпарадкоўвае яго сабе.

Значыцца, рынак, адыгрываючы яшчэ рэгулюючую ролю ў гаспадарчай сыстэме СССР, падпарадкоўваецца дзяржаўнаму пляну, выступаючаму ў ролі гегемона ў рэгуліраваньні гаспадаркі. Адначасова з узростам соцыялістычнага сэктару народнай гаспадаркі СССР узмацняецца рэгуліруючая роля пляну і паслабленьне гэтай ролі з боку рынку. Адсюль з няўхільнасьцю выцякае адміраньне фэтышызму рыначных адносін. „Толькі асаблівыя сымпатыі аўтара", піша далей т. Пінчук, пераходзячы да крытыкі Ждановіча, „да буржуазных адносін не дазваляюць яму зразумець гэтай ісьціны і застаўляюць яго сьцьвярджаць, што рынак у нашых умовах мае *такую-ж уладу*, як і ў краінах капіталістычнага сьвету. Гэтым самым аўтар хоча паказаць, што ў гаспадарчай сыстэме СССР нічога асаблівага ў параўнаньні з буржуазнай гаспадаркай не адбылося". Просім прабачэньня ў чытача за тое, што мы прывялі занадта даўгія вытрымкі з ацэнкі т. Пінчука. Мы прывялі іх для таго, каб паказаць, што пры ўсёй блытаніне і хаосе ідэй, пануючых у гэтых цытатах, пры ўсіх іх супярэч-

насьці, мы маем тут усе-такі азначаную концэпцыю разуменьня савецкай гаспадаркі, зьяўляючайся ўпаўне лёгічным працягваньнем вышэй разабранага артыкулу. Кідаецца перш за ўсё ў вочы той факт, што т. Пінчук на позыцыі тэорыі двух рэгулятараў, бо па т. Пінчуку ў СССР поплеч з існуючымі яшчэ катэгорыямі таварнай грамады існуе новая катэгорыя—плян, прычым узаемаадносіны паміж імі зводзяцца да таго, што плян праз сыстэму рычагоў пранікае на рынак. Па-другое, т. Пінчук ня бачыць двуістасьці прыроды нашых рыначных адносін, увесь час утоесамлівае рынак са стыхіяй, што зьяўляецца характэрным для кандрацьеўскай школы. Адсюль, бачачы, што плян скарыстоўвае рыначную форму, ня бачыць барацьбы пляну са стыхіяй. Што павінны азначаць катэгорыі: грошы, цана і рынак, якія працягваюць сваё існаваньне. Гэта азначае ў пераводзе на язык клясавых адносін, што проблема „хто—каго“ ужо ў гэты пэрыод была вырашана ў карысьць социялізму, т. Пінчук не разумее, што рыначная стыхія параджае капіталістычныя адносіны; не разумее, што капіталізм, параджаемы стыхіяй рыначных адносін, прадстаўляе сабой другі тып васпраізводзтва вытворчых адносін, адсюль па т. Пінчуку ні аб якой сур'ёзнай барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі за плянавасьць ў савецкай сыстэме, за соцыялізм ня можа быць і гутаркі. Паступовае пранікненьне пляну праз сыстэму рычагоў на рынак прывядзе да паслабленьня гэтай рэгулюючай „ролі з боку рынку“. Так уяўляе сабе т. Пінчук плян пабудовы соцыялізму праз мірнае ўрастаньне капіталізму ў соцыялізм. Перад намі тыпова мэханістычная мэтодолёгія ў прымяненьні да аналізу савецкай гаспадаркі з усімі выцякаючымі адсюль права-опортуністычнымі вывадамі ў адносінах палітыкі партыі.

„Тэорыя гэта ўпушчае з віду тое, што за так званымі „скрынкамі“ стаяць клясы, што рух гэтых „скрынак“ адбываецца ў парадку заядлай клясавай барацьбы, барацьбы на жыцьцё і сьмерць, барацьбы па прынцыпу „хто—каго“ (Сталін). Тав. Пінчук не зразумеў сапраўднай законамернасьці савецкай гаспадаркі, ня можа даць сапраўды марксыцка-ленінскай крытыкі кандрацьеўшчыны, бо спрэчка ў яго з кандрацьеўшчынай ідзе толькі аб колькаснай ролі пляну і стыхіі, а не аб якасным баку. Калі ўзяць Юроўскага, дык ён прызнае савецкую экономіку аднэй з форм таварна-грашовай гаспадаркі, прызнаючы, аднак, і тое, што ў СССР форма таварнай гаспадаркі падпадае некаторай модыфікацыі пад уплывам таго факту, што сродкі вытворчасьці належыць пролетарскай дзяржаве. Значыць, няверна, што кандрацьеўцы ня бачаць нічога асаблівага ў савецкай сыстэме ў параўнаньні са звычайнай буржуазнай гаспадаркай, як гэта паказвае рэцэнзэнт Ждановіча, т. Пінчук: гэта замазваньне сапраўдных контр-рэволюцыйных поглядаў кандрацьеўшчыны. Кандрацьеўцы бачылі асаблівасьці савецкай сыстэмы і змагаліся за закон кошту супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць пляну, якія па іх поглядахс кажаюць і не даюць вольна дзейнічаць рыначным законам конкурэнцыі, цэн і г. д. Што Ждановіч і рэцэнзэнт яго т. Пінчук мэтодолёгічна аднолькава падыходзяць да аналізу савецкай гаспадаркі — гэта відаць з наступнага палажэньні, якое выстаўляецца т. Пінчуком у гэтай рэцэнзіі. „Ставіць сучаснае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ў СССР — піша т. Пінчук — толькі ў залежнасьць ад разьвіцьця рынку, цэн, як гэта робіць аўтар, і гэтым устанаўліваць аналёгію ў разьвіцьці сучаснай сельскай гаспадаркі Саюзу і даваеннай Расіі будзе па меншай меры немагчыма. Тут з боку аўтара праяўляецца ужо констатаванае намі ігнараваньне ролі на організацыю сельскай гаспадаркі дзяржаўнага пляну, ролі дзяржаўных мерапрыемстваў“

(стар. 136). Так, з паданай цытаты відаць, што т. Пінчук ставіць разьвіцьцё савецкай гаспадаркі ў залежнасьць ад рынычнай стыхіі і ад пляну, прычым яны рэгулююць савецкую гаспадарку. Значыць, розьніца паміж т. Пінчуком і Ждановічам толькі ў тым, што ў Ждановіча адзін рэгулятар—рынак, а ў т. Пінчука два роўнапраўных рэгулятары — рынак і плян.

Ніколі мы не адмаўлялі наяўнасьці ў нашай гаспадарцы элемэнтаў стыхійнасьці, але рэгулятарам заўсёды зьяўляўся і зьяўляецца плян, змагаючыйся з стыхіяй і яе перамагаючы, што ў практыцы клясавай барацьбы азначае суцэльную колектывізацыю і ліквідацыю кулацтва, як клясы на гэтай базе, азначае пабудову соцыялізму ў нашай краіне.

У т. Пінчука ў пытаньні рэгуляваньня савецкай гаспадаркі тыповая тэорыя „роўнавагі", тэорыя роўналежнага руху дзьвюх скрынак.

Зразумеўшы, такім чынам, сутнасьць нашых рознагалосьсяў і барацьбы з кондрацьеўцамі, т. Пінчук ня мог ускрыць і даць правільную ацэнку кніжцы Ждановіча, як кандрацьеўшчыне ў цэлым. Зусім гармоніруе і зьяўляецца лёгічна паступовым, калі Пінчук дае такую ацэнку імкненьню кандрацьеўцаў, якія па т. Пінчуку зводзіліся да „спробы канрацьеўшчыны" ўнесьці свае корэктывы да асноўнага курсу гаспадарчага разьвіцьця СССР".

Сапраўды, гэта крытыка не кандрацьеўшчыны, як контр-рэволюцыйнай, варожай марксызму плыні, а гэта крытыка якойсьці „кандрацьеўшчыны" ў двухкосьсях, як піша т. Пінчук, кандрацьеўшчыны, якая ставіць сабе мэтай толькі „ўнесьці папраўкі да асноўнага курсу гаспадарчага разьвіцьця СССР". Ня бачачы проблемы „хто — каго", т. Пінчук мімаволі прымушаны крытыкаваць Ждановіча і кандрацьеўшчыну ў цэлым, не як політыку кулацтва, роспачна змагаючыся з савецкай уладай за рэстаўрацыю капіталізму, а як вынік неразуменьня, моў, асаблівасьцяй савецкай экономікі. Гэта крытыка не ваяўнічага марксызму, а крытыка, змазваючая ўсю політычную вастрату спрэчак. Спрэчка паміж Ждановічам і т. Пінчуком ідзе, як спрэчка паміж людзьмі, стаячымі, як мы ўбачым, на аднэй ідэолёгічнай позыцыі, якія спрачаюцца толькі аб колькасным значэньні пляну гісторыі

Не даючы сапраўднай разгорнутай крытыкі, абмяжоўваючыя выхватваньнем асобых месц крытыкуемых аўтараў, т. Пінчук па сутнасьці змазвае контр-рэволюцыйную сутнасьць програм, разгорнутых кандрацьеўцамі: Ждановічам, Кісьляковым. У гэтым мы ўпэўнімся пры разглядзе яго ацэнкі на кнігу Кісьлякова „Пасёлкі". У пачатку артыкулу ён дае такую агульную характарыстыку работы Кісьлякова: „Жаданьне аўтара злучыць дыялектычна-матэрыялістычную концэпцыю Маркса, Энгельса, Леніна з ідэалістычпай концэпцыяй Маха-Пуанкарэ ні да чаго іншага, як да вульгарнага эклектызму, прывесьці ня можа" (На аграрным фронце № 7. 1929 г., стар. 138). Кісьлякова ваяўнічага контррэволюцыянэра, процістаўляючага марксызму разгорнутую ідэолёгічную концэпцыю, ідэаліста Кісьлякова, заяўляючага, што „вельмі шкодна ганяць дасьледчую думку на худыя палі абстракцыі, „прызываючага" на шлях эмпірычна-статыстычнага дасьледваньня". — т. Пінчук абвінавачвае толькі ў эклектызьме. Аб рабоце Кісьлякова т. Пінчук піша, што яна „ня можа прэтэндаваць на ідэолёгічную вытрыманасьць" [1]).

Кісьлякова, які рэкомэндуе чытачам кнігу Пуанкарэ „Навука і гіпотэза", як глыбокую па зьмесьце і бліскучую па выкладаньні", што „мы

[1]) Азначым яшчэ адну памылку т. Пінчука. Ён ужо ў 1929 г. заявіў, што Кандрацьеўшына атрымала дастатковы адпор з боку марксыцкай школы. Т. Пінчук, відаць, цытаваныя намі яго рэцэнзіі прылічвае да гэтай самай „марксыцкай школы".

можам падняцца вышэй толькі дзякуючы матэматычнай індукцыі, якая адна можа навучыць нас чаму-небудзь новаму і г. д. Кісьлякова, аб'яўляючага катэгорыю прычыннасьці паняцьцем прымітыўным" (стар. 9), што строга навуковае выкладаньне ня ведае — „прычын", а толькі „законаўпарадкаваньне залежнасьці", што прычынная законаўпарадкаванасьць зьяўляецца спэкуляцыйнай містыкай" і г. д. Кісьлякова, які прапаведуе, як гэта лёгка можна ўбачыць, сугуба неокантыянскія ідэалістычныя ідэі, — Пінчук абвінавачвае ў эклектызьме і піша, што работа Кісьлякова „ня можа прэтэндаваць на ідэолёгічную вытрыманасьць", несправядліва абвінавачвае Кісьлякова ў жаданьні злучыць дыялектычны мэтод Маркса — Леніна з ідэалістычнай концэпцыяй Маха [1]).

Няправільнасьць крытыкі, якая даецца т. Пінчуком кнігі Кісьлякова „Пасёлкі", не выпадкова. Толькі стоячы на марксыцка-ленінскіх позыцыях можна даць сапраўдную разгорнутую крытыку буржуазных поглядаў Кісьлякова. Між тым т. Пінчук па раду пытаньняў сам становіцца на пункт погляду Кісьлякова. Чаго варта, напрыклад, такое палажэньне, высоўваемае т. Пінчуком. „Відавочна аўтар (г. зн. Кісьлякоў—*А. і О.*) недастаткова разумее значэньне слова „тэхніка". Напомнім яму, што тэхніка *ёсьць* ступень панаваньня чалавека над сіламі прыроды. Форма-ж земляўладаньня ёсьць паняцьце *юрыдычнага* парадку, зьвязанае з вядомай грамадзкай формацыяй, значыць, яно павінна быць аднесена да соцыяльнага" (стар. 139). Тав. Пінчук выявіў, па-першае, мэханістычнае разуменьне катэгорыі вытворчых сіл, якія хаця сапраўды паказваюць ступень панаваньня чалавека над прыродай, яле якія зусім ня тожсамы тэхніцы. Вытворчыя сілы складаюцца, акрамя сродкаў вытворчасьці, таксама з рабочай сілы ў вядомым злучэньні гэтых элемэнтаў вытворчасьці, г. зн. ужо дапушчаюцца і вядомыя грамадзкія формы, азначаныя грамадзкія ўмовы вытворчасьці. Тав. Пінчук тут стаў на пункт погляду мэханістаў, калі утоесаміў вытворчыя сілы і тэхніку. Па-другое, т. Пінчук выявіў тыпова-буржуазна-юрыдычную думку, калі трактуе земляκарыстаньне і земляўладаньне, як юрыдычныя катэгорыі, і *на падставе гэтага* ён адносіць землякарыстаньне і земляўладаньне да соцыяльных катэгорый. Значыць, соцыяльныя катэгорыі ў т. Пінчука выступаюць, як юрыдычныя. Гэткая трактоўка катэгорыі землякарыстаньня і земляўланьня зьбліжаюць позыцыю т. Пінчука з позыцыяй т. Кісьлякова. У гэтым лёгка ўпэўніцца, хаця-б на падставе наступнай цытаты, узятай намі з кніжкі Кісьлякова „Пасёлкі": „Жыцьцё не адкрэсьліла пэўнай і сталай сувязі паміж рознымі соцыяльна-экономічнымі групамі сялянства, пастолькі

[1]) Сам т. Пінчук разумае орыгінальна дыялектычны мэтод Маркса, як „уключаючага ў сабе і конкрэтнае і абстрактнае, — дэдукцыю і індукцыю". Далей т. Пінчук нявінна цытуе Леніна, які, па яго думцы, характарызуе ўсеагульнае, „якое ўключае ў сябе багацьце асаблівага індывідуальнага, асобнага", не прымячаючы, што Ленін *нізводзіць* дыялектычны мэтод Маркса да дэдукцыі і індукцыі. Да таго-ж т. Пінчук зусім не разумее суадносін паміж конкрэтным і абстрактным, з аднаго боку, дэдукцыяй і індукцыяй, з другога, бо гэтыя суадносіны ён зводзіць да тожсамасьці.

Мы тут ня можам абыйсьці маўчаньнем факт скрыўленьня цытаты з IX Ленінскага зборніку. Прывядзем сапраўдны тэкст. Ленін гаворыць аб усеагульным, „якое *ваплашчае* (курсіў наш — *А. і О.*) у сябе багацьче асаблівага, індывідуальнага, асобнага. Т. Пінчук слова „воплощает" замяніў словам „включает". Ці ведае т. Пінчук, як называюцца такія прыёмы цытаваньня.

Да ведама т. Пінчука.

У XII Ленінскім зборніку на 325 стар. Вы можаце прачытаць наступнае: „асобнае ёсьць агульнае", агульнае існуе толькі ў асобным, праз асобнае. Усякае асобнае ёсьць (так ці інакш) агульнае.

кваліфікацыю форм можна не прывязаць да сацыяльна-эканомічных груп“ (стар. 10).

З вышэйпаказаных цытат мы бачым, што Кісьлякоў і яго рэцэнзэнт т. Пінчук выхалашчваюць клясавы зьмест сацыяльна-эканомічных катэгорый. Тыпова неокантыянскі-прававую характарыстыку гэтых катэгорый т. Пінчук проста сьпісаў у Кісьлякова. Апошні піша: „Формы зямлякарыстаньня формуюцца пад уплывам ня толькі ступені разьвіцьця вытворчых сіл (канцэпцыя чыста эканомічная), а і тых сацыяльных форм, у якія ўводзіцца гэтае разьвіцьцё, на падства таго ці іншага разуменьня народнага гаспадарчага ідэалу і зьвязанага з гэтым сацыяльнага рэгуляваньня“ (стар. 9). Значыць, т. Пінчук, калі Вы заяўляеце, што паняцьце зямлякарыстаньня і зямляўладаньня катэгорыі юрыдычнага парадку, і пагэтаму яны катэгорыі сацыяльныя, дык Вы не адмяжоўваецеся ад Кісьлякова, паколькі Вы абудва выхалашчваеце клясавы зьмест гэтых катэгорый, паколькі Вы разглядаецце іх, як нормы „сацыяльнага рэгуляваньня“. Кісьлякоў і Вы, т. Пінчук, усьлед за ім не зразумелі таго асноўнага моманту, што формы зямляўладаньня і зямлякарыстаньня формуюцца ня ў выніку таго ці іншага разуменьня народна-гаспадарчага ідэалу ці юрыдычнага рэгуляваньня, а зьяўляецца выразам складаных сацыяльна-эканомічных адносін; што ўсякая сыстэма грамадзкай гаспадаркі мае толькі ўласьцівую форму зямляўладаньня і зямлякарыстаньня. Прававы характар, які прымаюць гэтыя формы пры азначанай эканомічнай структуры грамады, зьяўляючыся параджэньнем азначанага эканомічнага зьместу, выступае, як грамадзка-неабходная форма з дапамогаю гэтага зьместу. Пароджаная і абумоўленая спэцыфічна-сацыяльна-эканомічным зьместам, прававая форма, напэўна можа адыгрываць і адыгрывае рэакцыйную ці рэвалюцыйдую ролю, затрымліваючы ці стымулюючы разьвіцьцё свайго сацыяльна-эканомічнага зьместу. Гэта азбучнае палажэньне марксызму аб дыялектычных узаемадносінах формы і зьместу Вы сказілі, калі трактуеце гэтыя катэгорыі, як катэгорыі юрыдычнага парадку.

Прывядзем некалькі агульна-вядомых цытат з Маркса па гэтым пытаньні:

„У сьвеце рэальным падзяленьне працы і ўсе астатнія катэгорыі Прудона суць толькі грамадзкія адносіны, якія абразуюць у сумеснасці тое, што ў цяперашні час называецца *ўласнасьцю*: уне гэтых адносін буржуазная ўласнасьць зьяўляцца толькі мэтафізычнай ці юрыдычна ілюзіяй (К. Маркс і Ф. Энгельс, т. 5, стар. 288).

Кажучы аб Прудоне, ён піша: „Для Прудона справа ішла па сутнасьці толькі аб існуючай, *сучаснай буржуазнай уласнасьці.*

На пытаньне: „Што яна такое, адказ мог быць знойдзены толькі ў крытычным аналізе „*палітычнай эканоміі*“, ахопліваючай усю злучнасьць *маемасных адносін*, ня ў юрыдычным іх выразе, ні ў якасьці *суадносін волі* асоб, а ў іх рэальнай сутнасьці, г. зн. у якасьці *адносін вытворчасьці*“ (Нищета философии. Гіз 1920 г., стар. XXVIII). Значыць, характарызуючы зямляўладаньне і зямлякарыстаньне, як юрыдычныя катэгорыі, т. Пінчук падобна Прудону „ўціснуў усю злучнасьць эканомічных адносін у звычайнае юрыдычнае прадстаўленьне ўласнасьці“ (К. Маркс, там-жа).

Стоячы па тых-жа мэтодолёгічных позыцыях, што неокантыянец Кісьлякоў, т. Пінчук пападае ў абдымкі сацыяльнага напрамку ў палітычнай эканоміі (Петры, Штольцмана, Амона і Рубіна), якія даюць такую-ж юрыдычную трактоўку вытворчых адносін: *У буржуазнай*

*грамадзе*, піша Петры, *аснованай на свабоднай конкурэнцыі, прававыя і грамадзкія вытворчыя адносіны не супадаюць*; гэтыя разуменьні выказваюць адно і тое-ж грамадзкае зьявішча, але ўзятае ў розных аспэктах. У першым выпадку яно бярэцца, як прыватны выпадак прымяненьня абстрактных норм, у другім—як конкрэтныя прававыя адносіны, як азначанае, устаноўленьне гульнёй прыватных інтарэсаў соцыяльных адносін" (Ф. Петры—Соцыяльны зьмест тэорыі цэннасьці Маркса, стар. 33).

Такую-ж прававую характарыстыку вытворчых адносін дае контррэволюцыянэр Рубін, які піша: „адсутнічаньне ўнеэкономічнага прымушэньня організацыі трудавой дзейнасьці паасобных членаў грамады не на пачатках публічнага права, а на основах права прыватнага і так званага вольнага дагавору, ёсьць характэрнейшая рыса экономічнай структуры сучаснай грамады" (Рубін. „Нарысы", выд. III, стар. 98).

Не застанаўліваючыся на асобных драбніцах крытыкі т. Пінчуком Кісьлякова, крытыкі ня толькі ня ўскрыўшай сапраўды ўсёй концэпцыі Кісьлякова, Ждановіча, але па сутнасьці замазваючай антымарксыцкую сутнасьць гэтых тэорый, мы павінны ў заключэньне азначыць, што па раду асноўных пытаньняў, як мы бачылі, т. Пінчук стаў на антымарксыцкія позыцыі. Ніколі марксызм не стаяў на позыцыях сямейна-працоўнай тэорыі, тэорыі цьвёрдасьці дробнай сялянскай гаспадаркі, не трактаваў зямляўладаньне і зямлякарыстаньне, як юрыдычныя катэгорыі, не падзяляў мэханістычных поглядаў па пытаньні аб суадносінах паміж плянам і стыхіяй і г. д. Марксызм заўсёды ваяваў з такімі пунктамі погляду, як з рэакцыйнымі, буржуазнымі.

На вялікі жаль, Таварыства аграрнікаў-марксыстаў зусім абыйшло маўчаньнем вышэйназваныя работы т. Пінчука. Яшчэ хутчэй старшыня гэтага Таварыства т. Ганін на адным адказным сходзе характарызаваў работы т. Пінчука бальшавіцкі-вытрыманымі. Асабліва ён хваліў разгледжаныя намі рэцэнзіі т. Пінчука, якія, па словах т. Ганіна, „расчахвосьцілі" Кандрацьеўшчыну.

Спадзяемся, што Т-ва аграрнікаў-марксыстаў выправіць сваю памылку і на аснове разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі дасьць рашучы адпор поглядам, якія несумяшчальны з ваяўнічым марксызмам-ленінізмам.

# МАТЭРЫЯЛЫ І ДОКУМЭНТЫ

## Аб задачах і тактыцы партыі ў кіраўніцтве сялянскім і нацыянамьна-вызваленчым рухам у ЗБ

*(Пастановы ЦК КПЗБ)*

1. Паглыбленьне палітычнага крызісу фашыстоўскай дыктатуры і нарастаньне рэволюцыйнай сытуацыі ў Польшчы, а таксама набліжэньне моманту нападу фашыстоўскай Польшчы і міжнароднага імпэрыялізму на СССР выклікае рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы і новыя формы гэтай барацьбы супроць буржуазна-абшарніцкай эксплёатацыі, супроць фашыстоўскай окупацыі. Сыгналам гэтага зьяўляюцца ў першую чаргу падзеі на Зах. Украіне, дзе барацьба шырокіх працоўных і эксплёатаваных мас сялянства прыняла формы масавага стыхійнага падпалу абшарніцкіх, кулацкіх і асадніцкіх гаспадарак, разгрому паліцэйскіх вучасткаў і ўрадавых установ, а ў паасобных выпадках узброенага адпору фашыстоўскім карным экспэдыцыям. У Зах. Беларусі барацьба гэтая ня прыняла такіх рэзкіх форм. Аднак, значнае абвастрэньне выступленьняў сялянскіх мас супроць падатковых экзэкуцый, шарваркаў і фашыстоўскай зямельнай політыкі, значнае напружаньне забастовачнай барацьбы сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых у шэрагу раёнаў, паасобныя крывавыя сутычкі сялянскіх мас з паліцыяй (Алекшыцы), факты адпору фашыстоўскаму тэрору ў часе выбараў і паасобныя факты падпалаў абшарніцкіх і найбольш зьненавіджаных агентаў фашызму (Палесьсе, Лідчына, Беласточчына) — зьяўляюцца *яскравымі паказчыкамі росту рэволюцыйных настрояў і актыўнасьці мас, а таксама абвастрэньня форм сялянскага і нац. вызваленчага руху.*

2. Экономічнае і політычнае становішча ў вёсцы стварае ўсе неабходныя прадпасылкі для бурных рэволюцыйных выбухаў і вострых форм барацьбы. Паглыбленьне аграрнага крызісу, які выражаецца ня толькі ў зьніжэньні цэн на збожжавыя продукты, але і на продукты жывёлаводзтва, далейшае ўзмацненьне часова паслабленага на час выбарчай кампаніі падатковага прэсу, паскараюць у нябывалым тэмпе процэс руйнаваньня і паўпэрызацыі шырокіх мас сялянства, якія задыхаюцца пад ярмом безьзямельля, беспрацоўя і голаду, узрастаючага ярма нядоімак і павіннасьцяй, квотніцтва і прыгоннай эксплёатацыі. Клясавы антагонізм паміж экспеатаваным сельска-гаспадарчым пролетарыятам, напоўгалоднымі і пазбаўленымі магчымасьці стасаваць свае рабочыя рукі масамі вясковай беднаты, з аднага боку, і ўзмацняючай свае драпежніцкія апэтыты кучкай абшарнікаў, кулацкай і асадніцкай верхавіны вёскі, з другога, усё больш завастраецца і агаляецца, знаходзячы свой выраз у больш вострых формах клясавай барацьбы

ў вёсцы. Узмацненьне нацыянальнага прыгнечаньня і фашыстоўскага тэрору, праявіўшыяся ў зьнішчэньні ўсіх легальных масавых арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху, у абвастрэньні полёнізатарскага націску, у масавых арыштах і грашовых штрафах, у нападах і сваволі паліцыі і фашыстоўскіх арганізацый дзейнічаюць у тым-жа напрамку. Цынічны гвалт і мэтоды голага тэрору ў часе выбарчай кампаніі яшчэ больш узмацнілі гэтыя антаганізмы і нянавісьць шырокіх мас да фашыстоўскай окупацыі.

3. Разам з гэтым, адным з важнейшых фактараў уздыму рэволюцыйнай хвалі ў Заходняй Беларусі зьяўляецца шпаркі тэмп социялістычнага будаўніцтва ў БССР, вялізарныя посьпехі ў галіне соцыялістычнай перабудовы вёскі на падставе колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, у галіне палепшаньня становішча шырокіх мас сялянства, а таксама ў галіне будаўніцтва пролетарскай па зьмесьце і нацыянальнай па форме культуры. Ва ўмовах надзвычайна сільна ўзросшых сымпатый мас да СССР і яскрава выяўленага імкненьня іх да аб'яднаньня з БССР, выяўленыя шалёныя падрыхтоўкі польскага фашызму да нападу на СССР і роля ў гэтых рыхтаваньнях беларускага нацыянал-фашызму ў ЗБ, контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў БССР, дзейнічаюць як адзін з найбольш моцных фактараў рэволюцыйннй актыўнасьці мас на барацьбу супроць фашыстоўскай окупацыі, ў абарону СССР.

Раскрытая ў БССР змова контр-рэволюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якія складалі непарыўную частку беларускага нацыянал-фашыстоўскага фронту, і арганізацыйна зьвязаныя з групай Луцкевіча-Астроўскага, асабліва яскрава выяўляе той факт, што беларускі нацыянал-фашызм зьяўляецца аднэй з важнейшых апор фашыстоўскай окупацыі ў ЗБ і актыўным арганізатарам вайны супроць СССР у мэтах паняволеньня БССР. Гэта роля беларускага нацыянал-фашызму, усё шчыльней зрастаючагася з польскім фашызмам і ўсё больш непасрэдна кірававанага праз фашыстоўскую дыктатуру, вынікае з супольнасьці клясавых інтарэсаў беларускай буржуазіі і кулацтва з буржуазіяй пануючай нацыі, дзякуючы агульнай пагрозе іх панаваньню з боку бурна нарастаючай рэволюцыйнай хвалі ў Польшчы і ЗБ, з боку аграмадных посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, у прыватнасьці ў БССР.

4. Вынікі выбарчай кампаніі сьведчаць аб скарачэньні соцыяльнай базы фашыстоўскай окупацыі ў Зах. Беларусі. Уплыў прывадных пасаў фашызму да мас — у выглядзе соцыял-, нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партый — рэзка скараціўся. Пасьпяховае дэмаскаваньне фашыстоўскіх манэўраў у мэтах распаду нацыянальна-вызваленчага руху, яскрвыя факты падтрыманьня з боку беларускага нацыянал-фашызму фашыстоўскага ўраду значна перашкаджаюць беларускаму нацыянал-фашызму магчымасьць маскавацца ў рэволюцыйную вопратку. Усё гэта разам з глыбокім экономічным крызісам і моцным, ўдарамі, нанесенымі парлямэнцка-дэмократычным ілюзіям, звужвае манэўраныя магчымасьці фашызму, усё больш затыкае рэзэрвовыя клапаны для выхаду накапіўшайся рэволюцыйнай энэргіі ў масах і стварае прадпасылкі для нямінуючых рэволюцыйных выбухаў.

5. Перспэктыва высокага рэволюцыйнага напружаньня ў вёсцы, стыхійных рэволюцыйных выбухаў, вострых форм барацьбы, аж да партызанскіх выступленьняў, у варунках уздыму рэволюцыйнай хвалі і нарастаньня рэволюцыйнай сытуацыі ў Польшчы, у варунках навіслай пагрозы вайны супроць СССР, ставіць перад нашай партыяй, як

неадкладную актуальную задачу, усямернае ўзмацненьне кіраўніцтва барацьбой сялянскіх мас і шырокім нацыянальна-вызваленчым рухам, узмацненьне організацыі гэтай барацьбы, ахопу яе нашым уплывам і накіраваньне ў рэчышча барацьбы за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры. Чым шырэй і глыбей наш уплыў у масах, чым мацней сувязь з масамі, чым грунтоўней наш організацыйны ахоп, чым больш конкрэтна і непасрэдна наша кіраўніцтва штодзеннымі бойкамі мас, тым лягчэй і хутчэй партыя зможа стаць на чале ўсякіх стыхійных форм барацьбы, тым вышэй будуць формы барацьбы мас, тым шырэй будзе разгорттвацца фронт рэволюцыйнага наступу, тым больш гарантый, што партыя наша не паўторыць памылак, прарobленых у часе падзеяў на Зах. Украіне.

6. Уся партыя павінна яскрава ўявіць сабе тое, што ступень і формы стыхійных выступленьняў мас могуць быць рознастойнымі, нечаканымі для нас; форм гэтых нельга ўкласьці ў раней устаноўленыя схэмы і формулы. Задача нашай партыі — стаць на чале рознастайных форм стыхійнага руху мас, апанаваць яго і ўзьняць на вышэйшую ступень організаванай барацьбы. Было-б буйнейшай політычнай памылкай, мяжуючай з здрадай справе пролетарскай рэволюцыі, ігнараваньне гэтых форм барацьбы і нэўтральныя адносіны да іх; найглыбейшым незразуменьнем рэволюцыйнай сытуацыі было-б ня бачыць у гэтых формах барацьбы праяўленьня рэволюцыйнай актыўнасьці мас. Барацьба сялянскіх мас, барацьба супроць окупацыі і нацыянальнага прыгнечаньня павінна быць шчыльна ўвязана з барацьбой пролетарыяту за ўладу і яго штодзеннай барацьбой. З гэтай мэтай неабходна, каб кожнае абвастрэньне барацьбы сялянскіх мас знайшло безадкладны водгук у выступленьнях рабочае клясы і наадварот. Выступленьні сялянскіх мас за зямлю, супроць падаткаў, супроць окупацыі неабходна спалучаць з экономічнымі і політычнымі стачкамі, дэмонстрацыямі і т. п. у гарадох, з забастоўкамі батракоў і сэзонных рабочых. Узмацоўваючы гегемонію пролетарыяту ў кіраўніцтве сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам, партыя павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне работы па організацыі сельска-гаспадарчых рабочых і пашырэньні свайго ўплыву сярод іх, як неабходнага варунку ажыцьцяўленьня гэтай задачы.

Парторганізацыі больш чым калі-небудзь павінны ўзмацніць сувязь з масамі, чуласьць да ўсіх драбнейшых процэсаў, якія адбываюцца ў масах, і безадкладна рэагаваць на іх, разьвіваючы ўсякае выступленьне мас на грунце іх штодзенных патрэб у барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры і контр-рэволюцыйнай вайны супроць СССР, якую фашызм падрыхтоўвае.

Выходзячы з вышэйпаказанага, разьвіваючы рашэньні V зьезду КПП і IV пленуму ЦК КПЗБ, ЦК ставіць перад парторганізацыямі на бліжэйшы пэрыод наступныя задачы:

1. *Разгарнуць шырокую кампанію супроць інтэрвэнцыі ў абарону СССР.* Барацьба супроць інтэрвэнцыі, у абарону СССР і БССР павінна быць падставаю ўсіх акцый, якія разьвівае наша партыя. У ходзе гэтых акцый партыя павінна яскрава і выразна паказаць масам, што ўсякае новае ярмо, якое накладае на іх фашыстоўскі ўрад (падаткі, шарваркі, павіннасьці і г. д.), усякае праяўленьне абвастрэньня фашыстоўскага рэжыму, нацыянальнага прыгнечаньня і тэрору, непасрэдна зьвязана з узмацненьнем організацыі вайны. Вайна нясе сьмерць і калецтва мільёнам рабочых і сялян, новае ярмо падаткаў і павіннасьцяй. У Зах. Беларусі, якая зьявіцца тэатрам будучай вайны, вайна

азначае зруйнаваньне і зьнішчэньне сотняў тысяч бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, рэквізіцыю іх інвэнтару і маемасьці, мілітарызацыю ўсяго насельніцтва для абслугоўваньня фашыстоўскай арміі (абозы, рыцьцё акопаў, збудаваньне драцяных загарадак, ахова мастоў, чыгунак і г. д.), палявыя суды і пагромы, карныя экспэдыцыі, гвалтаваньне і свавольле фашыстоўскай арміі і банд паліцыі, жандэрмэрыі і вайсковых фашыстоўскіх арганізацый. Партыя павінна растлумачыць масам, што папярэдзіць ліха вайны магчыма толькі шляхам актыўнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і вайны, якую яна рыхтуе, шляхам ператварэньня імпэрыялістычнай контр-рэволюцыйнай вайны ў вайну грамадзянскую і зваленьня фашыстоўскай дыктатуры шляхам узброенага паўстаньня. На падставе гэтага партыя павінна выясьніць масам усю шкоднасьць пасыўнага чаканьня вайны, якое толькі аблягчае фашыстоўскай дыктатуры яе падрыхтоўку і арганізацыю.

Неабходна асабліва выразна і яскрава паставіць перад масамі ролю беларускага нац. фашызму ў арганізацыі вайны супроць СССР і ўзмацненьня фашыстоўскай окупацыі на Зах. Беларусі, а таксама ролю яго ў барацьбе супроць пролетарскай рэволюцыі ў Беларусі на баку нямецкага, французскага і польскага імпэрыялізму ў пэрыод 1917—20 гг.

2. Безадкладна прыступіць да замацаваньня і пашырэньня сувязяй сярод сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых, бяручы, як пункты апоры, мясцовасьці, якія былі ахоплены забастовачным рухам у мінулую летнюю і вясеньнюю кампанію. Парторганізацыі павінны дасканала вывучыць досьлед мінулых сельска-гаспадарчых забастовак, варункі работы і патрабаваньні батракоў і сэзонных рабочых, выкарыстоўваючы зімовы пэрыод для падрыхтоўкі сельска-гаспадарчых забастовак вясной на больш шырокай базе бягучага году.

Выходным пунктам у гэтай кампаніі павінна паслужыць заключэньне новых колектыўных умоў у сельскай гаспадарцы, дзеля чаго парторганізацыі павінны безадкладна прыступіць да формуляваньня патрабаваньняў сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых і стварэньня камітэтаў акцый з прыцягненьнем да гэтага самой рабочай масы. Трэба правесьці рашучую барацьбу з ППС — і ББС'аўскай профсаюзнай бюрократыяй, якая прадае за сьпіной мас інтарэсы сельска-гаспадарчых рабочых; выбіраць дэлегатаў для непасрэднага ўдзелу у перагаворах з абшарнікамі і не прызнаваць здрадніцкіх умоў заключаных соцыял-фашыстамі, і рашэньнаў арбітражных камісій. У ходзе кампаній неабходна прыступіць да рэорганізацыі рэволюцыйнага профруху сельска-гаспадарчых рабочых, абапіраючагася на шырокую сетку фольварачных камітэтаў і камітэтаў сэзонных рабочых.

3. Цэнтральнай кампаніяй для мобілізацыі сялянскіх мас павінна і надалей быць барацьба супроць падатку, павіннасьцяй і экзэкуцый. Падрыхтаваны партыяй грунт для барацьбы з падатковым уціскам пры дапамозе шырокай агітацыі і популярызацыі лёзунгу „ні граша фашыстоўскаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрору і вайны“, павінен быць выкарыстаны для арганізацыі масавага аднаўленьня ад плацяжу падаткаў, нядоімак, пазычак і штрафаў і паўсямернага адмаўленьня ад выкананьня шарваркаў і адпору экзэкуцыям. Арганізацыю неплацяжу падаткаў неабходна паставіць, як конкрэтную задачу дня, у вёсках і раёнах, якія маюць ужо традыцыі гэтай барацьбы і дзе, дзякуючы як об'ектыўным умовам, гэтак і заўчасна шырока праведзенай агітацыі, варункі для гэтага дасьпелі. Адначасна з арганіза-

цыяй адмаўленьня ад плацяжу падаткаў неабходна арганізаваць масы на актыўны адпор экзэкуцыям і фашыстоўскаму тэрору, зрыў драпежніцкіх ліцытацый сялянскай маемасьці. Асаблівую ўвагу належыць зьвярнуць на тое, каб ахопленыя неплацяжом падаткаў вёскі і раёны ня былі ізоляванымі, а барацьба тэта была пашырана на суседнія вёскі раёны і знайшла моцны водгук солідарнасьці ва ўсёй ЗБ, а ў першую чаргу сярод прамысловага пролетарыяту ў форме мітынгаў, дэмонстрацый і палітычных стачак у адказ на расправы з боку фашызму з змагаючыміся сялянскімі масамі. Па меры таго, як адмаўленьне ад плацяжу падаткаў прыме шырокія памеры ва ўсёй ЗБ, а таксама ў выпадку буйных вострых рэволюцыйных боек, ахопліваючых падставовыя асяродкі Польшчы і Заходнюю Украіну, партыя павінна прыступіць да арганізацыі паўсямеснага адмаўленьня ад плацяжу падаткаў і актыўнага масавага адпору экзэкуцыям.

Барацьба супроць падаткаў павінна быць шчыльна ўвазана з барацьбой супроць дарагоўлі на рэчы першай неабходнасьці (напр.: павялічэньне звыш чым у два раза цэн на запалкі і г. д.), супроць спэкуляцыі і ліхвярства, выкарыстоўваючага аграрны крызіс і падатковы ўціск для зьніжэньня загатоўчых цэн на продукты бядняцкай і серадняцкай гаспадаркі і паняволеньня працоўных мас вёскі.

Адначасова неабходна разгарнуць шырокую барацьбу за дзяржаўную дапамогу за кошт абшарнікаў і капіталістых для сотняў тысяч беспрацоўных у вёсцы і галадуючых, арганізуючы дэмонстрацыі і галодныя паходы і іншага віду масавыя выступленьні сялянскіх мас пад гэтымі лёзунгамі.

4. На падставе разгорнутай барацьбы супроць падаткаў неабходна ўзмацніць і абвастрыць формы барацьбы з усёй фашыстоўскай зямельнай палітыкай, за зямлю бяз выкупу, арганізуючы адпор мас пры правядзеньні комосацыі і ліквідацыі сэрвітутаў. Неабходна арганізаваць адмаўленьне ад выхаду на хутары, самавольнае карыстаньне сэрвітутамі, масавую—цэлымі вёскамі—рубку лесу і будаўнічых матэрыялаў як у сэрвітутных, так і іншага роду абшарніцкіх і дзяржаўных лясох, а з наступленьнем вясны масавы выпас жывёлы на ліквідаваных сэрвітутных выпасах і сенажацях.

У выпадку налажэньня праз адміністрацыю штрафаў і контрыбуцый за самавольнае карыстаньне абшарніцкімі і дзяржаўнымі лясамі, адпор пры комосацыі, невыкананьне шарваракаў, за палітычныя выступленьні сялянскіх мас, а таксама пры ўвядзеньні кругавой парукі для ўплаты падаткаў, пазык і г. д.; пры ўскладаньні на сялян аховы абшарніцкай і дзяржаўнай маемасьці, неабходна арганізаваць адмаўленьне ад плацяжу штрафаў і контрыбуцый і актыўны адпор пры спагнаньні іх, адмаўленьне ад выстаўленьня варты і г. д.

5. У процэсе разгортваньня гэтай барацьбы неабходна прыступіць да стварэньня шырокай сеткі сялянскіх камітэтаў барацьбы, як асноўнай формы арганізацыі сялянскіх мас у даных умовах. Сялянскія камітэты павінны быць арганізаваны явачным парадкам паўсюды, дзе разгортваецца барацьба сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў, экзэкуцый, комосацый, ліквідацыі сэрвітутаў, за школу на роднай мове, супроць фашыстоўскага тэрору і г. д. Задача гэтых камітэтаў—кіраваць штодзеннай барацьбой сялянскіх мас, абапіраючыся на шырокія масы сялянскай беднаты і серадняцтва. Задача парторганізацый—кіраваць дзейнасьцю сялянскіх камітэтаў шляхам стварэньня ў іх трывалых і актыўных комуніст. фракцый, і накіроўваць штодзенную барацьбу

сялянскіх мас у агульнае рэчышча рэволюцыйнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктарурыы. Дзеля гэтага павінна быць выкарыстана таксама існуючая сетка выбарчых і іншых камітэтаў у вёсцы. Парторганізацыі павінны імкнуцца, каб сялянскія камітэты ня спынялі свайго існаваньня па сканчэньні данай частковай акцыі, працягвалі дзейнасьць і разгортвалі далейшую барацьбу на падстве патрэб і балячак працоўных мас, устанаўліваючы сувязь з іншымі сялянскімі камітэтамі для пашырэньня фронту барацьбы і коордынацыі яе (раённыя і акруговыя конфэрэнцыі камітэтаў барацьбы і г. д.).

6. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтых задач непарыўна зьвязана з організацыяй дружын масавай самаабароны з найбольш актыўных элемэнтаў пролетарыяту, сялянскай беднаты і серадняцтва. Організацыя дружыны масавай самаабароны павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх вясковых організацый партыі і КСМ, у асаблівасьці-ж ў мясцовасьцях, якія ахоплены шырокай масавай барацьбой супроць падаткаў і фашыстоўскай зямельнай політыкі. Неабходна ўстанавіць шчыльную сувязь паміж асобнымі дружынамі самаабароны акаляючых вёсак і організаваць іх супольныя выступленьні для організацыі адпору мас карным экспэдыцыям, экзэкуцыям пры налётах поліцэйскіх і фашыстоўскіх банд на асобныя вёскі і г. д.

У шчыльнай ўвязцы з організацыяй дружын масавай самаабароны павінна быць надана асаблівая ўвага распрацоўцы і ажыцьцяўленьню конкрэтных мерапрыемстваў для кіраваньня і ахопу партыйным кіраўніцтвам партызанскага руху, які можа выбухнуць як у варунках вайны, гэтак і ў выніку абвастрэньня форм барацьбы супроць окупацыі на фоне масавага рэволюцыйнага руху ва ўсёй Польшчы. Парторганізацыі павінны ўявіць сабе, што на абвостраныя формы барацьбы сялянскіх мас фашыстоўскі ўрад адкажа ўдзесяцяроным тэрорам, яскравы прыклад чаго мы бачым у карных экспэдыцыях на ЗБ у пэрыод 1923—24 гг., а таксама ў мінулым годзе ў Заходняй Украіне. Організацыя адпору мас узброеным сілам фашызму зьяўляецца дзеля таго ў сучасны момант аднэй з галоўнейшых задач нашай партыі.

7. Партыя павінна максымальна разгарнуць барацьбу на падставе штодзенных патрэб мас супроць узмацняючагася нацыянальнага ўціску і фашыстоўскай окупацыі пад лёзунгам самавызначэньня аж да аддзяленьня і аб'яднаньня Зах. Беларусі з БССР. Барацьба гэта павінна разгортвацца на падставе шырокай кампаніі супроць разгрому організацый нацыянальна-вызваленчага руху, рэволюцыйнай прэсы, супроць узмацняючагася націску полёнізацыі, супроць актыўных саюзьнікаў фашыстоўскай окупацыі—беларускіх нацыянал-фашыстаў. У сучасны момант увагу неабходна згуртаваць супроць новага паходу на ТБШ—гэтай адзінай масавай організацыі нац-вызваленчага руху, паходу, які ідзе як па лініі разгрому організацый ТБШ, гэтак і новых спроб Луцкевіча-Астроўскага, каб апанаваць яго...

. . . . . . . . . . . . . . .

Адначасна неабходна разгарнуць шырокую кампанію за школу на роднай мове, барацьбы з фашызмам, клерыкалізмам, полёнізацыяй і нацыянал-фашызмам у школе. У развіцьцё рашэньняў IV пленуму, ЦК адзначае, што ў сучаснай стадыі разьвіцьця рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі формы гэтай барацьбы неабходна завастрыць, і таму лічыць немэтазгоднымі формы, якія зводзяцца толькі да падаваньня дэклярацый аб адчыненьні школы на роднай мове.

Неабходна арганізаваць у школах масавае адмаўленьне ад навучаньня на польскай мове, патрабаваць выкладаньня на роднай мове, а таксама арганізаваць масавыя выступленьні супроць фашыстоўскага і нацыянал-фашыстоўскага настаўніцкага пэрсоналу. Цэнтр цяжару ў гэтай барацьбе павінен ляжаць у шырокіх масавых выступленьнях рабочых і сялян у форме мітынгаў і дэмонстрацый, у адмаўленьні даваць сродкі на ўтрыманьне фашыстоўскіх і полёнізатарскіх школ, дапасоўваючы гэта з адпаведнымі выступленьнямі вучнёўскай моладзі і дзяцей. Гэта акцыя павінна быць таксама шырока разгорнута ў мясцовых самаўрадах, дзе трэба ўносіць адпаведныя прапановы і рэзолюцыі.

Абвастраючы формы барацьбы супроць нацыянальнага ўціску, партыя павінна ўсямерна пасіліць барацьбу супроць беларускіх нацыянал-фашыстоўскіх арганізацый, пранікненьня агентаў нацыянал-фашызму ў рады арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху, хістаньняў унутры яго, адбываючых ціск нацыянал-фашызму на асобныя зьвеньні гэтага руху, а таксама з нацыянал-опортуністычнымі ўхіламі ў партыі і праявамі нацыянал-опортунізму на практыцы. Неабходна разгарнуць больш шырока выступленьні пролетарыяту, у прыватнасьці польскага і яўрэйскага, для барацьбы супроць узмацняючагася нацыянальнага ўціску і окупацыі; неабходна таксама дабіцца больш шырокага прыцягненьня рабочых у арганізацыі нацыянальна-вызваленчага руху.

8. Партыя павінна ўсямерна выкарыстаць бушаваньне ў нізавых арганізацыях нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партый для адрыву ад іх мас і стварэньня рэвалюцыйных масавых арганізацый. З гэтай мэтай неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на нізавыя опозыцыі ў радах Строньніцтва Хлопскага, як найбольш масавай народніцка-фашыстоўскай арганізацыі на ЗБ. Партыя павінна наладзіць сувязь ў гэтых опозыцыях, стварыць там сталыя апорныя пункты, каб абапіраючыся на іх, арганізаваць масавы выхад цэлых нізавых арганізацый з Строньніцтва Хлопскага альбо масавыя расколы ў арганізацыях гэтых партый, на пляцформе рэволюцыйнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе агентаў—правадыроў нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партый.

9. Узмацняючы барацьбу з соцыял-нацыянал-народніцка-фашыстоўскімі партыямі, як найбольш небясьпечнымі ворагамі ў барацьбе за масы, партыя павінна адначасова ўзмацняць барацьбу з непасрэдна фашыстоўскімі арганізацыямі ў вёсцы (Стралец, арганізацыі ББ, гаспадарчыя арганізацыі фашызму і г. д.), напружваючы ўсе сілы для разлажэньня, разьбіцьця і ізоляваньня іх ад мас. У гэтай галіне дзейнасьць нашай партыі была вельмі невыстарчальнай, шмат якія арганізацыі лічаць, што непасрэдна-фашыстоўскія арганізацыі ўжо здэмаскаваны перад масамі і не прадстаўляюць ніякай небясьпекі. Гэта ў корані памылковая ўстаноўка не забавіла даць адмоўныя вынікі, спрыяючы ў радзе месц узмацненьню непасрэдна-фашыстоўскіх арганізацый на вёсцы.

10. Вельмі слабы ўплыў нашай партыі сярод польскага і літоўскага сялянства вымагае рашучага пераломy ў гэтай галіне работы. Падставовай прычынай гэтага зьяўляецца нацыянальная абмежаванасьць і сэктанцкая замкнёнасьць нашых вясковых арганізацый, якія не прабуюць нават выйсьці з сфэры беларускага і украінскага сялянства. Сэктанцкая замкнёнасьць жывіць таксама існуючыя антыбатракція настроі, крыніцай якіх зьяўляецца націск кулацкай стыхіі на асобныя зьвеньні нашай партыі. Партыя павінна рашуча змагацца з усякімі праявамі

шовінізму, нацыянальнай замкнёнасьці і сэктанства, якія пагражаюць асабліва вострымі вынікамі, дзякуючы непасрэднай небясьпецы вайны, калі слабасьць нашага ўплыву сярод мас польскага працоўнага сялянства стварае спрыяючыя ўмовы для вырашчваньня нацыяналістычных і шовіністычных настрояў для мобілізацыі мас на вайну супроць СССР і распальваньня нацыянальнай розьні.

ЦК высоўвае, як ударную задачу перад АК Беластоку, Горадні, Вільні і Ліды ў бліжэйшы час пранікнуць у асяродзішча польскага і беларускага каталіцкага сялянства, а перад АК Вільня, Сьвенцяны— у асяродзішча літоўскага сялянства і організаваць барацьбу гэтых мас на падставе іх штодзенных патрэб.

11 ЦК ставіць перад усімі організацыямі задачу стварыць нарэшце рашучы пералом у галіне організацыі рэволюцыйных фракцый у органах мясцовых самаўрадаў і кіраўніцтва іх дзейнасьцю на падставе рашэньняў IV пленуму ЦК КПЗБ. ЦК абавязвае ўсе АК і РК у кожнай сваёй справаздачы спэцыяльна інформаваць аб тым, што зроблена для ажыцьцяўленьня гэтай дырэктывы.

12. ЦК завастрае ўвагу ўсіх мясцовых організацый аб узмацненьні з іх боку кіраўніцтва нізавымі масавымі організацыямі, аб неабходнасьці неадкладнага палітычнага і організацыйнага рэагаваньня праз свае комфракцыі на ўсялякія скрыўленьні рэволюцыйнай лініі ў гэтых організацыях, а ў асаблівасьці-ж на барацьбу з нацыянал-і народніцка-фашыстоўскімі агентамі рэнэгатамі ўнутры іх.

13. ЦК яшчэ раз падкрэсьлівае неабходнасьць узмацненьня кіраўніцтва з боку АК раённымі вясковымі організацыямі і ажыўленьня работы вясковых організацый як партыйных, гэтак і комсамольскіх. Пералом дасягнуты ў гэтай галіне ў некаторых акругах у час выбарчай кампаніі, павінен быць замацаваны і пашыраны. ЦК констатуе недапушчальную слабасьць работы ў райкомах былой Віленскай акругі. Пастаўлена рубам IV пленумам пытаньне аб вылучэньні вясковага актыву з-пасярод сельска-гаспадарчых рабочых і вясковай беднаты дагэтуль таксама яшчэ не пастаўлена на мясцох ва ўсю шырыню.

Пэрспэктыва бурнага разьвіцьця рэволюцыйнай хвалі ў вёсцы і абвастрэньня форм гэтай барацьбы — патрабуе ўзьняцьця ініцыятыўнасьці, актыўнасьці і самадзейнасьці мясцовых організацый, што непасрэдна зьвязана з вылучэньнем і выхаваньнем новых кадраў, моцна зьвязаных з масамі, з правільнай організацыяй дзейнасьці вясковых ячэек і ўзмацненьнем кіраўніцтва імі з боку РК і АК. Разам з гэтым ЦК завастрае ўвагу парторганізацый ва неабходнасьці пашырэньня сеткі вясковых парторганізацый, у асаблівасьці-ж у мясцовасьцях, якія маюць асабліва важнае значэньне з ваеннага пункту погляду і мясцовасьцях, якія могуць быць ачагамі партызанскага руху.

Падрыхтаваць свае рады да варункаў вайны і абвостраных клясавых боек—асноўная задача нашай партыі, на ажыцьцяўленьне якой неабходна накіраваць усе сілы.

14. Аграмадныя недахопы і рад буйнейшых памылак, якія выявіліся ў рабоце нашых вясковых організацый, патрабуюць напружаньня ўсіх сіл партыі на перамаганьне гэтых недахопаў і выпраўленьне памылак на падставе бальшавіцкай самакрытыкі. Узмацняючы барацьбу з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным пэрыодзе, неабходна таксама бязьлітасна змагацца з праявамі левапортуністычных загібаў і сэктанцтва. Аднэй з прычын гэтага зьяў-

ляецца вельмі марудны тэмп усьведамленьня лініі партыі вясковымі парторганізацыямі, шмат з якіх жывуць яшчэ ўстаноўкамі данымі партыяй два гады таму назад.

Усьведамленьне ўсімі вясковымі органінацыямі лініі партыі і бязьлітасная барацьба з усімі праявамі памылак як правага, гэтак і левага характару, на падставе шырока разгорнутай самакрытыкі, парторганізацыі павінны паставіць як ударную задачу, без ажыцьцяўленьня якой немагчыма з посьпехам кіраваць насьпяваючымі буйнейшымі баямі.

---

# ЗЬМЕСТ





